Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

5 МАЙ

# БЕЛАРУСЬ КАЛГАСНАЯ

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ ЧАСОПІСЬ

АБ'ЯДНАНЬНЯ ПРАЛЕТАРСКА-КАЛГАСНЫХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ

МЕНСК 1932

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

# На вышыню гістарычных задач

Пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый зьяўляюцца пачаткам новага этапу ў змаганьні ленінскай партыі за стварэньне шырокімі коламі савецкіх пісьменьнікаў, мастакоў, кампазытараў, твораў, вартых вялікай эпохі рэканструкцыі, эпохі пабудовы бясклясавай сацыялістычнай грамады. Гэтыя гістарычныя пастановы зьявіліся ў пачатку чацьвертага заключнага году пяцігодкі, у той час, калі „наша цяжкая прамысловасьць пастаўлена цьвёрда на ногі, і тым самым *створана ўласная база для заканчэньня рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі,* база сацыялістычнай буйнай машыннай індустрыі“ (17 партканфэрэнцыя), калі „у сельскай гаспадарцы адбыўся карэнны пералом, які выявіўся ў канчатковым павароце да сацыялізму бядняцка-серадняцкіх мас вёскі („там-жа), калі, „*Савецкі саюз з краіны дробнага і найдрабнейшага земляробства стаў краінай самага буйнага ў сьвеце земляробства на аснове калектывізацыі, разгортваньня саўгасаў і шырокага ўжываньня машыннай тэхнікі*“ (там-жа).

Карэнная перабудова літаратурна-мастацкага фронту, які зьяўляецца адным з найважнейшых вучасткаў культурнай рэвалюцыі, разгортваецца ў поўным адзінстве з усімі працэсамі будаўніцтва сацыялізму ў краіне саветаў, вынікла ў рэзультаце пабудовы фундаманту сацыялізму ў СССР, у рэзультаце канчатковага падрыву карэньняў капіталізму ў вёсцы, ліквідацыі ў асноўным паразытычных клясаў, што ў сваю чаргу зьнішчае асновы і вытокі эксплёатацыі чалавека чалавекам і прадрашае поўную ліквідацыю капіталістычных элемэнтаў і поўнае зьнішчэньне клясаў.

Пастанова ЦК Усе КП(б) пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый зьявілася ў час, калі клясава-варожыя элемэнты страцілі той ўплыў на разьвіцьцё савецкай літаратуры, які яны мелі ў першыя гады НЭП'у, пастанова зьявілася ў час, „калі пасьпелі ўжо вырасьці кадры пралетарскай літаратуры і мастацтва, выявіліся новыя пісьменьнікі, мастакі з заводаў, фабрык, калгасаў“. (пастанова ЦК УсеКП(б).

Перабудова літаратурна-мастацкіх арганізацый, *стварэньне адзінага саюзу Савецкіх пісьменьнікаў* адбываецца ў такі час, калі дасягнутыя партыяй посьпехі першай пяцігодкі далі магчымасьць за ўсю веліч разгарнуць перад працоўнымі ўсяго сьвету вялікі плян будаўніцтва сацялізму, плян другой пяцігодкі, асноўнай палітычнай задачай якой зьяўляецца „*канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул і поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць*

*клясавыя адрозьненьні і эксплёатацыю, і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавай і сацыялістычнай грамады*" (17 партканфэрэнцыя).

У сьвятле гэтых, найвялікшага палітычнага значэньня, задач мы павінны разумець перабудову літаратурна-мастацкага фронту, вызначаную пастановаю Цэнтральнага камітэту УсеКП(б) і пастановай ЦК КП(б).

Пастановы ЦК Усе КП(б) і ЦК КП(б)Б аб аб'яднаньні усіх пісьменьнікаў, што падтрымліваюць пляцформу савецкай улады і імкнуцца удзельнічаць у социялістычным будаўніцтве у адзіны саюз савецкіх пісьменьнікаў з аднаго боку, і ліквідацыя пралетарскіх літаратурных арганізацый выклікана тым, што ў дадзены час „рамкі існуючых пралетарскіх літаратурна-мастацкіх арганізацый (ВОАПП, РАПП, РАМП ды інш.) становяцца ужо вузкімі і тармозяць сур'ёзны размах мастацкай творчасьці. Гэтая акалічнасьць стварае небясьпеку ператварэньня гэтых арганізацый са сродкаў найбольшай мабілізацыі савецкіх пісьменьнікаў і мастакоў навакол задач сацыялістычнага будаўніцтва, у сродак культываваньня гуртковай замкнутасьці і ад значных груп пісьменьнікау і мастакоў, што спачуваюць сацыялістычнаму будаўніцтву" (з пастановы ЦК Усе КП(б) ад 23 красавіка).

Не зразумеўшы новых абставін, новых задач, так выразна і чотка сфармуляваных тав. Сталіным у сваёй прамове на нарадзе гаспадарнікаў, роўна год таму назад, 23 чэрвеня 1931 году (праўда ў адносінах да савецкай інжынэрна-тэхнічнай інтэлігенцыі, што цалкам адносіцца да ўсёй савецкай інтэлігенцыі) ВОАПП, у тым ліку і БелАПП да апошняга часу не выканала дырэктывы партыі аб неабходнасьці карэннай перабудовы літаратурна-мастацкіх арганізацый, аб неабходнасьці сьмелага прыцягненьня да творчай працы шырокіх колаў савецкай інтэлігенцыі, а працягвала існаваць як абасобленая арганізацыя, з элемэнтамі групаўшчыны, адарваная ад значных груп пісьменьнікаў.

За гэты кароткі час мы чулі ад некаторых пісьменьнікаў заявы аб тым, што „пастанова ЦК праводзіць зьнішчэньне клясаў у пісьменьніцкім асяродзьдзі ў першай пяцігодцы, у той час, як ва ўсёй краіне зьнішчэньне клясаў будзе праведзена ў другой пяцігодцы". Такія заявы, такія спробы растлумачыць пастанову ЦК УсеКП(б) зьяўляюцца абсалютна няправільнымі, шкоднымі, накіраванымі да „клясавага міру" ў пісьменьніцкім асяродзьдзі, у будучым адзіным саюзе савецкіх пісьменьнікаў.

Адсюль, перад кіраўніцтвам будучага Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў паўстае задача разгортваньня марксысцка-ленінскага выхаваньня, самых шырокіх колаў савецкіх пісьменьнікаў, задача таварыскай, канкрэтнай ўвагі і дапамогі ў галіне барацьбы пісьменьніка за марксысцка-ленінскі сьветапогляд, за высокую ідэёвую значымасьць яго творчасьці.

2.

Уздымам творчай актывізацыі, энтузіязмам на стварэньне твораў вартых нашай вялікай эпохі, сустрэлі гэтыя пастановы шырокія колы савецкіх пісьменьнікаў БССР, а ў тым ліку і Беларускае Аб'яднаньне

Пралетарска-Калгасных Пісьменьнікаў, з поўным разуменьнем таго, што такая карэнная перабудова літаратурна-мастацкага фронту стварае самыя шырокія магчымасьці і ўмовы для яшчэ больш шпаркіх тэмпаў разьвіцьця і росту ўсёй савецкай літаратуры.

Беларускае Аб'яднаньне Пралетарска-калгасных Пісьменьнікаў, яднаючы ў сваіх шэрагах савецкіх пісьменьнікаў, асноўнай крыніцай творчасьці якіх зьяўляецца новая калгасная вёска, яднаючы ў сваіх шэрагах так зв. сялянскіх савецкіх пісьменьнікаў з мэтай іх набліжэньня да задач сацыялістычнага будаўніцтва, з мэтай перавыхаваньня іх у сваіх шэрагах, разгортваючы сваю дзейнасьць галоўным чынам праз заклік ударнікаў калгасных палёў у літаратуру, з мэтай стварэньня новых кадраў савецкіх пісьменьнікаў, якія ідуць з вёскі, узьнікшы ў 1931 годзе на сёнешні дзень, дзякуючы кіраўніцтву партыі, вырасла ў масавую моцную савецкую літаратурную організацыю. Аб'яднаньне мае шэраг філій (Клімавічы, Чэрвень, Полацак) у нашых раённых цэнтрах, і літаратурных гурткоў па калгасах, саўгасах, МТС БССР. Аб'яднаньне наладзіла рэгулярнае выданьне свайго органу—часопісі „*Беларусь Калгасная*", зьмяшчаючы на яе старонках галоўным чынам творы, якія дапамагаюць партыі ў барацьбе за сацыялістычную рэканструкцыю вёскі, выяўляючы і праводзячы працу з маладымі, пачынаючымі пісьменьнікамі. Па прыкладу Беларускай Асацыяцыі Пралетарскіх Пісьменьнікаў, Аб'яднаньне праводзіла масавую работу ў вёсцы праз наладжваньне літаратурных выступленьняў, папулярызуючых сярод калгасных мас дасягненьні пралетарска-калгаснай літаратуры.

Разумеючы вялікую палітычную ролю трэцяй бальшавіцкай вясны, Аб'яднаньне мабілізавала шэраг сваіх членаў-пісьменьнікаў на сяўбу для практычнага ўдзелу ў калгасах і вывучэньня працэсаў у сучаснай вёсцы з мэтай паказу ў мастацкай творчасьці.

Даючы характарыстыку ўзаемаадносін нашага Аб'яднаньня з ліквідаванай Беларускай Асацыяцыяй Пралетарскіх Пісьменьнікаў неабходна адзначыць, што БелАПП зусім правільна крытыкуючы слабое разгортваньне работы аб'яднаньня на сваіх пленумах і канфэрэнцыях, не аказваў конкрэтнай дапамогі нашаму аб'яднаньню. Белапаўскія крытыкі „па-барску" адносіліся да творчасьці членаў Аб'яднаньня, нават не дапамаглі Аб'яднаньню скласьці праграмы заняткаў літаратурных гурткоў.

Працуючы да стварэньня адзінага Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў БССР пад кіраўніцтвам аргкамітэту, Беларускае Аб'яднаньне Пралетарска-Калгасных пісьменьнікаў у цэлым і кожны член, кожны літгуртковец, кожны пачынаючы пралетарска-калгасны пісьменьнік у паасобку павінны змагацца з бальшавіцкай настойлівасьцю за стварэньне высока-ідэёвых мастацкіх твораў, павінны дапамагаць партыі ў яе барацьбе за новую сацыялістычную вёску, за выкарчоўваньне рэштак капіталістычных элемэнтаў, за бяскласавую сацыялістычную грамаду.

Пастановы ЦК Усе КП(б) і ЦК КП(б)Б пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый павінны быць прапрацаваны ў ячэйках Аб'яднаньня, а кожны член, кожны літгуртковец павінны стаць сапраўднымі прапагандыстамі гэтых гістарычных пастаноў партыі, якія ўзьнімаюць на новую вышыню масавы савецкі літаратурны рух, даючы шырокія магчымасьці і ўмовы савецкім пісьменьнікам з гонарам змагацца за Магнітабуды літаратуры.

---

## Пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый

### Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка 1932 г.

ЦК канстатуе, што за апошнія гады на аснове значных посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва дасягнуты вялікі як колькасны, а таксама і якасны рост літаратуры і мастацтва.

Некалькі год таму назад, калі ў літаратуры ў наяўнасьці быў яшчэ значны ўплыў варожых элемэнтаў, што асабліва ажывіліся ў першыя гады НЭП'у, а кадры пралетарскай літаратуры былі яшчэ слабымі, партыя ўсямерна дапамагала стварэньню і ўмацаваньню асобных пралетарскіх арганізацый у абсягу літаратуры і мастацтва з мэтаю ўмацаваньня пазыцый пралетарскіх пісьменьнікаў і працаўнікоў мастацтва.

У сучасны момант, калі пасьпелі ўжо вырасьці кадры пралетарскай літаратуры і мастацтва, вылучыліся новыя пісьменьнікі і мастакі з заводаў, фабрык, калгасаў, рамкі існуючых пралетарскіх літаратурна-мастацкіх арганізацый (ВОАПП, РАПП, РАМП ды інш.) становяцца ўжо вузкімі і тармозяць сур'ёзны размах мастацкай творчасьці. Гэтая акалічнасьць стварае небясьпеку пертварэньня гэтых арганізацый са сродкаў найбольшай мабілізацыі савецкіх пісьменьнікаў і мастакоў навокал задач сацыялістычнага будаўніцтва ў сродак культываваньня гурткавой замкнутасьці, адрыву ад палітычных задач сучаснасьці і ад значных груп пісьменьнікаў і мастакоў, што спачуваюць сацыялістычнаму будаўніцтву.

Адсюль неабходнасьць адпаведнай перабудовы літаратурна-мастацкіх арганізацый і пашырэньня базы іхняй работы.

Выходзячы з гэтага, ЦК УсеКП(б) пастанаўляе:

1. Ліквідаваць асацыяцыю пралетарскіх пісьменьнікаў (ВОАПП, РАПП).

2. Аб'яднаць усіх пісьменьнікаў, што падтрымліваюць пляцформу савецкай улады і імкнуцца ўдзельнічаць у сацыялістычным будаўніцтве, у адзіны саюз савецкіх пісьменьнікаў з камуністычнай фракцыяй у ім.

3. Правесьці аналёгічныя зьмены па лініі іншых відаў мастацтва.

4. Даручыць Аргбюро распрацаваць практычныя меры па правядзеньню гэтага рашэньня.

ЦК УсеКП(б).

# ПАСТАНОВА
## ЦК КП(б)Б ад 27 мая 1932 году.

ЦК КП((б)Б адзначае сваечасовасьць і вялізарнае палітычнае значэньне пастановы ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка г. г. пра перабудову літаратурна- мастацкіх арганізацый, якая будзе садзейнічаць яшчэ большаму аб'яднаньню шырокіх колаў савецкіх пісьменьнікаў і мастакоў вакол камуністычнай партыі, яшчэ большай мабілізацыі на актыўны ўдзел у перабудове бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва, на стварэньне літаратурна-мастацкіх твораў, вартых нашай вялікай эпохі.

ЦК канстатуе, што пралетарскія літаратурна-мастацкія арганізацыі, ў тым ліку і БелАПП, якія на пэўным этапе, калі ў літаратуры быў яшчэ значны ўплыў варожых элемэнтаў, што асабліва ажывіліся ў першыя гады НЭП'у, а кадры пралетарскай літаратуры былі яшчэ слабыя,—адыгралі станоўчую ролю ў сэнсе ўзмацненьня пазыцый пралетарскіх пісьменьнікаў, „у сучасны момант, калі пасьпелі ўжо вырасьці кадры пралетарскай літаратуры і мастацтва, выявіліся новыя пісьменьнікі, мастакі з заводаў, фабрык, калгасаў,—рамкі існуючых пралетарскіх літаратурна-мастацкіх арганізацый (ВОАПП, РАПП, РАМП і інш.) становяцца ўжо вузкімі і тармозяць сур'ёзны размах мастацкай творчасьці".

ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. Ліквідаваць Беларускую Асацыяцыю Пралетарскіх пісьменьнікаў (БелАПП).

2. Правесьці арганізацыю Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў БССР, які павінен аб'яднаць усіх пісьменьнікаў, што стаяць на пляцформе савецкай ўлады і імкнуцца ўдзельнічаць у сацыялістычным будаўніцтве.

Усе пісьменьніцкія арганізацыі БССР падначаліць аргкамітэту. Перадаць ў распараджэньне аргкамітэту літаратурныя часопісі.

Культпропу ЦК забясьпечыць шырокую прапрацоўку пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый, дамогшыся максымальнай мабілізацыі ўсяго фронту літаратуры і мастацтва на вырашэньне задач сацыялістычнага будаўніцтва.

ЦК КП(б)Б

---

# ПАСТАНОВА
## Сакратарыяту Беларускай Асацыяцыі Пралетарскіх пісьменьнікаў

Беларуская Асацыяцыя Пралетарскіх пісьменьнікаў, узьнікшая пад кіраўніцтвам КП(б)Б, у той час, калі ў літаратуры Савецкай Беларусі быў яшчэ значны ўплыў варожых элемэнтаў, змагаючыся за генэральную лінію партыі ў літаратуры, здолела выявіць і выхаваць шэраг пралетарскіх паэтаў і пісьменьнікаў, стаўшы ідэёва-вядучай арганізацыяй савецкай літаратуры БССР.

На дадзеным этапе рамкі БелАПП сталі вузкімі і перашкаджаюць разьвіцьцю савецкай літаратуры. Замест мабілізацыі ўсіх савецкіх

пісьменьнікаў вакол задач сацыялістычнага будаўніцтва Беларуская Асацыяцыя Пралетарскіх Пісьменьнікаў, ня здолеўшы правесьці карэнную перабудову сваёй работы ў адпаведнасьці з апошнімі дырэктывамі партыі, была адарвана ад значных груп пісьменьнікаў, якія спачуваюць сацыялістычнаму будаўніцтву, культывавала гурткавую замкнутасьць і абасобленасьць, мела элемэнты групаўшчыны ў арганізацыі, што ў выніку аддаляла яе ад палітычных задач сучаснасьці.

Гістарычныя пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый, ліквідуючы асацыяцыю пралетарскіх пісьменьнікаў з мэтай аб'яднаньня ўсіх пісьменьнікаў, якія падтрымліваюць пляцформу савецкай улады і імкнуцца ўдзельнічаць у сацыялістычным будаўніцтве, у адзіны саюз савецкіх пісьменьнікаў, маюць глыбока палітычнае значэньне для росквіту савецкай літаратуры, зьяўляюцца вялікім пачаткам новага этапу ў змаганьні за магнітабуды ў літаратуры.

Творчы ўздым і энтузіязм, якімі спатканы гэтыя гістарычныя пастановы шырокімі коламі савецкіх пісьменьнікаў БССР сьведчыць пра неабходнасьць менавіта такой карэннай рэарганізацыі літаратурна-мастацкага фронту.

На падставе гэтага сакратарыят БелАПП абвяшчае Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменьнікаў ліквідаванай. Часопіс „Маладняк", сродкі і маёмасьць асацыяцыі сакратарыят БелАПП перадае аргакамітэту Саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР.

Літаратурныя гурткі на фабрыках і заводах, арганізаваныя БелАПП, працягваюць сваю работу пад кіраўніцтдам аргакамітэту.

Сакратарыят БелАПП:

М. Лынькоў, П. Галавач, Андрэй Александровіч, Р. Мурашка, Х. Дунец, Іллары Барашка, Л. Бэндэ, Я. Ліманоўскі, Іткін, Гараўскі, Швэйдэль.

1 чэрвеня 1932 г.

---

# Пра стварэньне аргкамітэту Саюзу савецкіх пісьменьнікаў

У выніку вялізарных посьпехаў і дасягненьняў сацыялістычнага будаўніцтва і правільнага няўхільнага правядзеньня ленінскай нацыянальнай палітыкі мы маем у Савецкай Беларусі росквіт беларускай культуры, нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зьместу, і ў прыватнасьці—значны рост беларускай і нацыянальных меншасьцяй літаратуры і масавага літаратурнага друку.

Зьяўляючыся неадрыўнай часткай ленінскай культурнай рэвалюцыі, беларуская літаратура і масавы літаратурны рух дабіліся за апошнія гады значных дасягненьняў, асноўнымі з якіх зьяўляюцца: паварот асноўнай масы савецкіх пісьменьнікаў да актуальных задач сацыялістычнага будаўніцтва, заклік рабочых-ударнікаў у літаратуру, павышэньне ідэёвай і мастацкай якасьці творчай прадукцыі, выяўленьне новых творчых імён з асяродзьдзя шырокіх працоўных мас, больш глыбокае авалодваньне пісьменьніцкімі масамі марксыцка-ленінскім сьветапоглядам і дыялектыка-матэрыялістычным творчым мэтадам ды інш.

Пастанова ЦК УсеКП(б) пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый адкрывае новую старонку ў гісторыі разьвіцьця і росту беларускай савецкай літаратуры, дае ўсім савецкім пісьменьнікам, „якія падтрымліваюць пляцформу савецкай улады і імкнуцца ўдзельнічаць у сацыялістычным будаўніцтве", самыя шырокія магчымасьці ў непасрэднай творчай рабоце, актыўнага ўдзелу ў пабудове бяскласавага сацыялістычнага грамадзтва.

Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменьнікаў, створаная ў часы, калі надзвычайна слабы быў сэктар пралетарскай літаратуры, калі былі яшчэ моцнымі розныя варожыя ўплывы ў літаратуры і літаратурным руху, на сёньнешні дзень не адпавядае новым задачам, якія ставіць камуністычная партыя перад мастацкім словам, перад масавым літаратурным рухам. Рамкі БелАПП сталі тармазіць сур'ёзны размах мастацкае творчасьці. У выніку перад БелАПП паўстала небясьпека ператварыцца са сродку найбольшай мабілізацыі савецкіх пісьменьнікаў вакол задач сацыялістычнага будаўніцтва „ў сродках культываваньня гуртковай замкнутасьці, адрыву ад палітычных задач сучаснасьці і ад значных груп пісьменьнікаў і мастакоў, якія спачуваюць сацыялістычнаму будаўніцтву". Ня гледзячы на неаднаразовыя дырэктывы і паказаньні партыі БелАПП надзвычайна маруднымі тэмпамі праводзіла перабудову ўсёй сваёй работы і ня справілася з тымі задачамі, якія ставяцца зараз перад літаратурай, перад усім мастацкім фронтам.

Літаратурныя аб'яднаньні БССР, вітаючы і падтрымліваючы пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, заклікаюць усіх савецкіх пісьменьнікаў прыняць самы актыўны ўдзел у найхутчэйшай перабудове літаратурнага руху Беларусі, яшчэ шчыльней згуртавацца навакол камуністычнай партыі Беларусі і пад яе кіраўніцтвам ствараць сапраўдную літаратуру бальшавізму.

Для кіраўніцтва існуючымі літаратурнымі арганізацыямі, падрыхтоўкі і правядзеньня зьезду савецкіх пісьменьнікаў Беларусі, падрыхтоўкі да арганізацыі адзінага саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР літаратурныя арганізацыі і аб'яднаньні пастанаўляюць абраць арганізацыйны камітэт у наступным складзе:

Клімковіч—старшыня
Лынькоў—адказны сакратар
Александровіч
Галавач
Нёманскі
Гурскі
Чорны
Харык
Крапіва
Кульбак
Гараўскі
Швэйдэль
Дунец
Юдэльсон
Бэндэ
Ліманоўскі



Падпісалі:

ад імя БелАПП

М. Лынькоў, А. Александровіч, Я. Ліманоўскі, П. Галавач, Р. Мурашка, Х. Дунец, Р. Кобец, І. Харык, В. Гараўскі, Я. Бучукас, М. Чарот, І. Гурскі.

ад імя Беларускага аб'яднаньня пралетарска-калгасных пісьменьнікаў:

Іл. Барашка, С. Баранавых, М. Міхайлаў.

ад імя БелЛАЧАФ:

Л. Бэндэ, Васіль Каваль, Ів. Шапавалаў, М. Калента, Ал. Самахвалаў.

---

## Першае паседжаньне аргкамітэту БССП

1-га чэрвеня адбылося першае паседжаньне аргкамітэту Беларускага Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў, створанага літаратурнымі арганізацыямі БССР у сувязі з пастановай ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый.

На паседжаньні вырашаны шэраг арганізацыйных пытаньняў.

Прэзыдыум аргкамітэту абраны ў складзе т. т. Клімковіча (старшыня), М. Лынькова (адказны сакратар), К. Чорнага, А. Александровіча, і Х. Дунца. Кандыдаты—т. т. Гараўскі і Швэйдэль.

Дэлегацыя ў аргкамітэт Усесаюзнага Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў вылучана ў складзе т. т. Лынькова, К. Чорнага, А. Александровіча і І. Харыка.

Створаны камісіі: па друку—у складзе т. т. М. Лынькова, Я. Ліманоўскага і І. Харыка; па масавай рабоце—у складзе т. т. П. Галавача, П. Швэйдэля, А. Александровіча, Крапівы і Юдэльсона; па сацыяльна-бытавых пытаньнях—у складзе т. т. Іл. Гурскага, Іл. Барашкі, Л. Бэндэ, К. Чорнага, Кульбака і Нёманскага.

Ухвалена, што пытаньнямі ўкамплектаваньня апарату і сродкамі павінен заняцца прэзыдыум.

Даручана камісіі масавай работы ў самы кароткі тэрмін прадставіць прэзыдыуму плян папулярызацыі і растлумачэньня апошніх пастаноў ЦК УсеКП(б) пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый на пэрыфэрыі, у філіях БелАПП, ЛАЧАФ і БАП КП і літаратурных гуртках.

Аргсакратаром арганізацыйнага камітэту абраны т. Іл. Барашка.

---

**Янка Гоманаў.**

# Гутарка з вясной

Вясна... за вакенцам вясна і ўсе
веснавое са мною

*Ю. Таўбін.*

Вясна ўрываецца ў пакой
і сонца
хмар прарваўшы рэтуш
залоціць пыльныя партрэты.

І раптам
скочыўшы з нябес
Юнак прамень шчасьлівы воляй
Нырнуў у глыб маіх валос
Пазнаўшы ў іх уласны колер

Вясна...
растопленая медзь.
Дзень добры, блізкі мой таварыш,
Я вельмі рад цябе сустрэць
з усьмешкай цёплаю на твары

Парваўшы вопратку зімы
і ўсе старое змыўшы хваляй
Ты помніш
як з табою мы
Заўсёды моцна сябравалі

Але жыцьцё
заўжды снуе
па новаму дарогі нашы.
Відаць, мяне не пазнаеш
дый ты зрабілася інакшай

Цяпер і я куды сталей
(з табой ня граю на жалейцы).
Перада мною на стале
канспэкты,
кнігі,
пляны лекцый,

Праграмы,
скомканы расклад,
паперы шэраю стапою
і маладосьць мая расла
вясна, савецкая, з табою

Пад твой напеў
ішоў я ў сьвет
і зараз крокі цьвёрда стаўлю,
як камсамолец і паэт,
як грамадзянін і настаўнік

Вясна...
Праменьняў яркі шнур
з вачыма яснымі такімі—
ты зноў апранешся у юнгштурм
высока сонца ўзьняўшы КІМ'ам

Табе кажу.
як блізкі, свой
у акордах песеннай крыніцы,—
цябе я проста зваў вясной,
а зараз клічу бальшавіцкай

Вясна,
прывет табе прывет!
Прывет тваёй зялёнай блюзе!
Ты маеш права на білет,
вясна Савецкага Саюзу

24—25/IV—32 г.
м. Крупкі.

---

**Васіль Сулімчык.**

# У паход трактары.

Цяплынёй і сьвятлом
па зямлі
Сонца сыпнула шчыра
з вышынь.
І гульліва ўпярод
пацяклі
Каламутнай вады
раўчукі.

Цёплы подых
абвеяў прастор.
І прапала
старая зіма.
Ёй на зьмену
з далёкіх краёў
Рысаком
прыскакала вясна.
І абсохла
сырая зямля,
Сьпеў птушыны
чуваць на зары.
За сяўбу
ужо брацца пара—
У паход,
у паход трактары!
Хай бэнзын
курадыміць, гарыць,
Вы пад бурны,
сталёвы свой сьпеў--
У паход,
у паход трактары
За бальшавіцкі пасеў!
Няхай сонца
палае ўгары.
На зямлю
няхай льлецца цяпло.
У паход,
у паход трактары—
На палоскі,
на межы, быльнёг!

Каб улетку
шапталі аўсы
І ячмені
каб ладзілі сьпеў—
У паход,
у паход трактары
За
бальшавіцкі пасеў!

Калгас „10-ты кастрычнік,
Старадароскага раёну.

---

Макар Пасьлядовіч

# Хада ў заўтрае*)

*Аповесьць*

Ля каапэрацыі народу сёньня больш як калі. Шмат аднаасобнікаў пайшлі дапамагчы выбіраць калгасную бульбу. Але шмат засталося і дома. Але што там рабіць? На полі ўсё зроблена, а дома ля чаго будзеш корпацца? Дык і ідуць у каапэрацыю, самы зборны і ажыўлены пункт, пакуль не падышоў вечар і пакуль ня трэба ісьці на лікбез, або які сход. Ідзе хто ўзяць газы, запалак, солі, шапку купіць. І то, як да прычапкі. Шмат хто прысунуўся зусім без ніякай патрэбы, апрача той; праведаць, прачуць што, выказаць свае меркаваньні. А найбольш пацікавіцца: што-ж з калгасам? Сёньняшняя раніца як раз дала багатую тэму. Збор людзей ля каапэрацыі стараецца выкарыстаць і сябра сельсавету, аднаасобнік Мікола Шагун. Ён тут пераймае цьвёрдазаданьнікаў, якіх ніколі не застанеш у хаце, каб праверыць выкананьне імі бульбы і загатовак. Шагун—бядняк, самы актыўны член сельсавету, але нешта стала на яго дарозе ў калгас. Усё думае, зьбіраецца, а напісаць заяву і не адважыцца. Кажуць, што жонка залішняе ім упраўляе. І слухаць ня хоча пра калгас. „Калі хочаш—ідзі што ў калгас, што на развод"—гразіць мужу. І пра ўсё ведаюць на вёсцы: калі спаць кладзешся, калі што еў, як і пра што з жонкаю гаварыў. Калі толькі хто часу дабірае, каб ведаць усё тваё нутрэўе!

Мужчыны, патупаўшы для прыметы ў прыцемкаватай краме, выходзяць на ганак і мосьцяцца або на сходцах, або прытыкаюцца якім плячом да сьцяны.

А ўсіх, расьсеўшыся на ганку, сустракае перад уваходам у краму Зьміцер Верабей, серадняк, майстра на розныя славесныя выбрыкі і жарты. Яму ўжо год пад пяцьдзесят, але яшчэ жыве ў ім хлапецкі гумар. Можа таму, што не перажыў ён цяжару японскай і сусьветнай вайны, як яго равесьнікі. Выкручваўся нейкім чынам з салдатаў.

— Кілун,—парашылі Зьмітровічане. Кілуноў у салдаты няпрымаюць.

Дапытным грозным судзьдзёю сустракае цяпер Верабей Зьмітравічан.

— Ты чаго без майго дазволу сюды прэшся? Чытаў мой загад?— і ня здрыганууцца рысы зьветранага, калматага твару ад штучнай сур'ёзнасьці?

Грыміць вакол рогат.

— Вазьмі, вазьмі яго ў стос!

— Чаго ён тут без работы туляецца?

---

Гл № 3, 4.

— Дай яму, сукінаму кату, дыхту!

Хмурыцца Вераб'ёў твар:

— Марш да хаты! А то на губавахту пасаджу.

І дапытвае:

— Чаму ўчора на лікбезы ня прышоў?

— Быў... ня ёмка махае рукамі абвінавачаны і глядзіць, каб захінуцца за які кажух ад гэтых жартаў. Каб адчапіцца і пасьля самому сьмяяцца, калі Верабей сустрэне каго другога.

— А колькі будзе: сто дзьвесьце памножыць на сто трыста?

— Адчапіся...

— То-та яно! Ня ведаеш! А дарогу хадзіў папраўляць? А стрыхоўку выплаціў?

Аж заходзяцца рогатам мужчыны.

— То-та яно!—сьлібізуе свае посьпехі ад жартаў Верабей.

Потым пераймае другога:

— А ты чаго ў калгас заявы не падаў?

Так няпрыметна, як жартамі, і зьвярнулі на другую сьцежку ў размовах. Як раз тое, за чым сюды прыйшлі, што не дае спакою, ад чаго ня ўседзець у хаце. А сёньня там, на сходзе, будуць яшчэ раз гаварыць пра выпад з малатарняй і, што найбольш цікавіць зьмітраўскіх аднаасобнікаў, разьмеркаваньне ўраджаю.

Верабей зразу асядае з жартамі.

— Чубіку здорава дасталося,—пачынае Аўдзей Скавыш, скручваючы папяросу.—Бадай ці выжыве.

— Усё можа быць...—абзываецца нехта.

— І малатарню магло расшамятаць,—ня спыняецца Скавыш.— І трактар узарваць...

— Дзіва што. Абы добра прэнт трапіў у цапы.

— От-жа ёсьць яшчэ сукіны сыны!

— Што яму шкода агульнага дабра?

— Адзін справу робіць, а другі, сукін сын, цікуе, каб разбурыць.— Яно заўсёды так.

Пачынаюць пералічваць усё на грошы.

— Трактар тысячы, мусіць тры каштуе, малатарня з тысячу...

— З даўгоў-бы ня вылезьлі.

— Дзіва што!

Верабей хуценька папраўляе:

— Машыны-ж эмтаэсаўскія! Яны калгасу нічога не абыходзяцца.

На яго накідваецца Шагун:

— А калі эмтаэсаўскія, ды што? Можна, значыць, па твойму, ламаць.

— Хіба я гэтак казаў? Спытай, ці чуў хто такія паклёпы? Я толькі сказаў, чые машыны....

Да каапэрацыі ідзе з кашолкаю Вострык.

— Па гарэлку!—здагадваецца Верабей.—Ніколі яна яму не абрыдае.

— Хіба ён адзін будзе піць? А дзе Гарнастай, Зьмітровічы? Хіба ён на свае грошы купляе?

— Вось дык калгасьнікі!—шуміць Верабей.—Хто на рабоце, а хто бяседу спраўляе...

Усе сьціхаюць, калі прашываецца ў краму Вострык. Яшчэ падпаліць, калі пачуе абразу. Страх перад ім ня вытручаны ў Зьмітравічан і да гэтага часу.

— Гарэлка яго губіць,—хмурыць твар Шагун.—Гарнастай яго губіць...

Якуб Прахорчык кідае:

— Сёньня ў іх, мусіць, будзе гаворкі. Яшчэ калі ўраджай пачнуць дзяліць...

— Ага, ага...—дыхаюць другія.

— Дык хто рабіў, той і атрымае.

— Усяк можа быць.

Цьвёрдазаданьнік Зьмітровіч, брат кладаўшчыка, з доўгім рабым тварам і калматымі, як у савы брывамі, ціха гаворыць:

— Пасьля іх разьмеркаваньня ўсе паразьбягаюцца. Што ў іх будзе дзяліць калі лета прагультаявалі?

— На яго накідваецца Шагун:

— Хто рабіў таму павінны больш і вымеркаваць, хто ляжаў у цяньку, дык няхай на сябе наракае. А на другі год тады ўжо ніхто ня ўседзіць у хаце. Аж завіхацьмеся, каб больш зрабіць ды больш атрымаць.

І пасьля:

— А чаму ты жыта не адвозіш, бульбы? Мо, думаеш, я за цябе павязу?

— У мяне няма...

— А чаму летась было? Зямля-ж тая самая!

Ён выцягвае засмальцованы вучнёўскі сшытак і запісвае, колькі чаго Зьмітровіч яшчэ павінен здаць.

— Дык, браце, заўтра адвозь. Бяднейшыя за цябе хутка плян выканаюць, а ты—няма. Каб ня было, дык бы ня далі цьвёрдае заданьне.

Зьмітровіч нешта мыгыкае і сунецца ў каапэрацыю.

— У яго яшчэ леташняга хлеба да радаўніцы будзе,—гаворыць Верабей. І дадае цішэй:—Да брата, кладаўшчыка, з бочку адвёз. Там, думае, улежыць...

— Яны-ж так і выкручваюцца. Думаюць, толькі ім есьці трэба. Яшчэ хто з іх у парцыю пралез...

— Калі возьмуцца, дык і там ня ўседзіць. Хутка выпаруць.

— От-жа сядзіць!

Шагун аж злуе:

— Выпаруць, кажу табе! Чаго ты ўпёрся, як казёл?

Яны мо шостым разам перачытваюць абвестку пра калгасны сход і патроху разыходзяцца: хто да хаты, а хто—на сьвінарнік: пацікаваць, што там робіцца.

## 18

Чаму цяпер такою малою здаецца вялікая і прасторная заля школы? Ня зьмесьціць яна ўсіх людзей. Ня зьмесьціць! Не пратнесься нікуды хочаш! Усе лаўкі, усе праходы, усё, што можна было запоўніць людзьмі, запоўнена. А знадворку няспынна грукаюць і грукаюць дзьверы. З сенцаў напірае і напірае жывая хваля. Крычаць, таўкуцца

за выгоднае месца... А што-ж зробіш: яшчэ няма ў Зьмітровічах большага будынку!

Колер сядзіць разам з Раманчуком ля прыціснутага амаль да самай сьцяны стала. За сталом—месьціцца толькі заслон для прэзыдыуму. А ўсё вакол—занята сходам. І самы націск людзей, гаворка, спрэчкі—ля насьценнай газэты.

— У голас там чытайце, у голас!—патрабуюць заднія ў тых, што стаяць сьпераду.—Чаго вы там сабе пад нос мармычаце?

Нецярплівасьць сходу расьце. Столькі ня выходзіла газэта, а тут, на табе: цяпер ніяк да яе не дашыцца. А там, мусіць пачытаць ёсьць што! Дык чаго адкладваць? Каго там прабралі, каго пахвалілі? Асабліва нэрвуецца моладзь.

— Чытайце, каб усе чулі!—зноў грыміць заля.

— Занялі асэсары першае месца!

І нехта ўжо зьедліва:

— Абы сабе: чаго там пра другіх думаць...

Зося Ясючэня праціскаецца да насьценгазэты. Хіба яна прымусіць сваім голасам гаварыць маўклівае палатно паперы. І калі пачынае, патрабаваньнем поўнага спакою і цішыні шыпяць па залі асобныя галасы:

— Цішэй!

— Супакойцеся!

Не дранчы тут над вухам!

— Гэта ня я, а Паўлоўскі...—апраўдваецца нехта.

— Халерыя вас разьбярэ. Толькі паслухаць не даяце.

— Гэта ня я...

— Замры!

Колер, пералістваючы ведамасьць папярэдняга разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў, ціха гаворыць Раманчуку:

— Добра, што мы агледзеліся з гэтай справай. А так-бы дасталося і ячэйцы і праўленьню калгасу. Дзе-ж гэта відана: раней думаць, як каню даваць на працягу году штодзень, па пяць кілё зярна, а дзяржаве—ні хунта!

— Гэтымі справамі парадкаваў Зьмітровіч разам з рахункаводам.

— А ты чаму не пацікавіўся? Дзе была ячэйка?

Раманчук аж адхінуўся:

— Дык яны-ж схаванкаю ўсё рабілі! Зьмітровіч абяцаў, што загадзя будуць складзены пляны, што яшчэ працадні па табелях падлічваюць.

Сёньня яны зрабілі паседжаньне бюро не а трэцяй гадзіне, а значна пазьней. І ўвесь час разьбіралі накручаныя справы з разьмеркаваньнем. Перанесьлі ў здачу дзяржаве 30 цэнтнераў жыта са страхавога фонду (чаго там страхаваць, калі яно пасеена ўжо і рунь аж зямлю дзярэ?). Зрэзалі кармовы балянс. І нацягнулі якраз, каб поўнасьцю выканаць абавязкі перад дзяржавай. Былі і выкрутасы з вучотам працадзён. Але Раманчук праверыў гэтае загадзе, дык цяпер толькі заставалася зрабіць папраўкі.

---

А тым часам канчалася бяседа ў Гарнастаевай хаце. Стары, як і ня піў. Кладаўшчык сяк-так яшчэ вастрыў старожкія вушы. Старшыня непарушным пластом ляжаў на ложку. Бубніў Вострык:

— Яны мяне па-аслу-хаюць... Усь-сё, як тут наважылі выйдзе...

Санліваківаў галавою Баравік. Сёньня на бюро выклікалі яго і Зьмітровіча, каб пасьля джуплоўкі ўсіх іх грахоў запісаць у пратаколе:

„Зьмітровіча Алеся Сьцяпанавага, былога моцнага серадняка, які не змагаўся з кулакамі і патураў іх шкодніцкай дзейнасьці на развал калгасу, які займаўся толькі абяцанкамі партыі, а на справе нічога не рабіў, з радоў КП(б)Б выключыць;

Баравіка Яўхіма Тодаравага, які зросься з кулацкай часткай вёскі, злоўжываў сваім службовым становішчам (самазабясьпечаньне, выдача дэфіцытных тавараў цясьцю—кулаку Зьмітровічу і іншым заможнікам), у рабоце на вёсцы праводзіў апартуністычную лінію— з радоў КП(б)Б выключыць"...

Баравік, прыпамінаючы цяпер гэтую пастанову, раптам ускідае галаву і скамячыўшы кулак, кідае яго на стол. Жалобна зьвіняць, падскокваючы, бутэлькі.

— З партыі выкінулі! У-у-у...—аж рыгае ён зубамі.—З каапэрацыі цяпер вытураць. Давяраць ня будуць. У-у-у...—аж сіпіць злосьцю.— Будуць яны помніць! Уемся ў косьці Юрчыкам і Раманчукам!..

Матрунчык, той, што ўцёк з Данбасу, парожніць бутэльку ў чарку. Матаецца п'янымі нагамі па хаце брат кладаўшчыка.

— На сход час ісьці,—клопатна папярэджвае ўсіх Гарнастай,— а то з гэтым пралетарцам усё збожжа для дзяржавы вымяркуюць. Нічога калгасьнікам не дастанецца. Вострыка могуць абыйсьці...

— Я іх, маць, абыйду!—аж вызьвервае бельмі сваіх вачэй Вострык.—Усім пораўну, маць, трэба дзяліць...

— Верна, верна!—падскоквае Гарнастай.—У калгасе ўсе роўныя дык усім пораўну і трэба...

У школе хваляваньне толькі ў сенцах. Скачуць дапытныя галасы:

— Як яна там прачытала?.. Перакажэце!

— Каго гэта там дубасяць?

Кіне хто, не абарачваючыся з тых. што згрудзіліся пры ўваходзе ў залю:

— Гарнастая ў работу бяруць.

— Ды не: там і другіх спаміналі!

— Зьмітровічаў, пераказваюць.

— А-а-а...—здаволенай зьедлівай радасьцю дыша сход.

На ганку тупат. Чалавек шэсьць моўчкі настойліва пачынаюць прашывацца ў залю.

— Куды працеся?! — супыняюць іх.

Група цяжка сапе ў поцёмку хмельным чадам.

— Да-а-вай да-а-рогу! — хрыпіць Вострык. — З-за гэтых аднаасобнікаў нельга на свой. калгасны. сход дайсьці. Хто вас сюды запрашаў? — і расхляствае сабе дарогу локцямі.

Верабей цягне Шагуна за рукаў:

— Бачыш: гоняць!.. Пойдзем адсюль. Няхай бяз нас грызуцца...

Шагун схватвае Вераб'я за крысу жакеткі:

— Дурань ты! Гэта-ж п'яныя. Чуў, як іх крылі ў газэтцы? Давай лепш туды як пралезем...

Колер з Раманчуком, пакуль сход жыве магнэсавымі навінамі газэты, лютуюць у паперках і пратаколах праўленьня.



— Калі-ж было паседжаньне?—дзівіцца Колер. — Подпісы старшыні і сакратара ў ведамасьці ёсьць. А дзе запісана, што абгаварвалі на праўленьні? Мо ў тым вунь скрутку?

— Няма там...

— На вока, відаць, меркавалі, — гаворыць Колер і ў галаве яго паўстае ўвесь малюнак сёньняшнай напружанай работы. Сьпешны збор сяброў праўленьня бяз Зьмітровічаў і старшыні і кладаўшчыка. Яны разам з Баравіком пасьля вывадаў бюро некуды скруціліся. І цяпер, на сход ня прыйшлі. Ня зрываць-жа з-за іх разьмеркаваньня. Калгасьнікі, аднаасобнікі толькі і гаварылі, што каму прыпадзе за работу. І раптам маглі пасьля нецярплівага чаканьня пачуць:

— Сёньня ня будзем гаварыць пра разьмеркаваньне... Яшчэ не падрыхтаваліся...

— Круцялі!.. уздрыгнуўся-б сход. — То казалі, што гатова, а цяпер — — другім бокам... Скруціць нешта хочуць!..

Дык і давялося нанова перагледзець ведамасьць. Адлічваць для выкананьня абавязкаў перад дзяржавай. Тады — насенныя фонды, плацяжы. І ўжо калі былі задаволены ўсе патрэбы для далейшага разьвіцьцьця калгасу, злажылі ўсе працадні, на якія падзялілі частку, якая прыпадала для разьмеркаваньня. Ячэйка тэрмінова мабілізавала ўсіх наступнікаў для налічэньня прыбытку і ўраджаю тым, хто працаваў у калгасе...

— Ці не ў Гарнастая яны рабілі размеркаваньне? — здагадваецца Раманчук. — Яму-ж налічылі шэсьцьсот працадзён, а па-мойму выходзіць толькі 120 на двох працаздольных! Таму і пратаколу паседжаньня няма. Хіба яны такі дурні, каб запісаць хто і дзе рабіў разьмеркаваньне?

Колерківае галавою і ўжо слухае, глядзіць, як адзываецца сход на крытыку газэты. Зося скончыла чытаць і цяпер у залі стыла чулая, задаволеная цішыня.

І хутка гэтую цішыню крамсанула танклявым пакрыўджаным голасам Альжбэта Палазьняк:

— Чаму гэта і мяне на чорную дошку прыклеілі? Чаму таварышы-грамадзяне?

І загаварыла хуценька, як-бы апасаючыся, што яе спыняць:

— Хто больш нажынаў жыта за дзень? Альжбэта. Хто норму па бульбе перагнаў? Альжбета. Хіба ня я два месяцы дзень і ноч тлумілася ля сьвіней увесну? Чаму гэта не запісалі таго? А цяпер нападаюць. Ніводнага-б дня я не прамінула, каб малым не хадзіла, каб ня трэба было пасьля падбіраць за ім! А ці ня я крычала Зьмітровічу, каб ясьлі адкрыць? Няхай усе скажуць! Усе ведаюць, як мне было адарвацца ад хаты. А хадзіла! А Зьмітровічава жонка, без малых дзяцей паняю пахаджвала...

І я хадзіла на работу...

Альжбета аж падскочыла. Крутнулася да Зьмітровічыхі:

— Нарабіла, жарабіца ты гэткая! Па тваім стараньні ўсё-б наша калгаснае пагніло і пацьвіло. А ў паперы можна было табе запісаць, што нарабіла...

Яна зноў павярнула галаву да Колера і Раманчука.

— Дык чаму такая несправядлівасьць? Чаму, таварыш рабочы? Хто гэта мяне на чорную дошку адважыўся прыклеіць? — аж заен-

чыла і зьнямела ў спакоі, чакаючы неадкладнага адказу. Упёрся дапытнымі вачыма да стала і ўвесь сход.

— Я скажу, — шпануў Раманчук Колеру. Ён устаў:

— Вышла, таварышы, памылка. Актыўнасьць калгасьнікаў рэдкалегія вымервала працаднямі. Гэта верна, калі правільна запісаны працадні. Ажно ня тое вышла, бо ў ведамасьці шмат чаго было накручана. Сёньня мы выправілі. Альжбэта верна кажа: у яе 200 працадзён, а ня 84, як напісана ў газэце. Некаторыя праўленцы былі заняліся круцельствам і кулацкай справай. Але пра гэтае яшчэ будзем гаварыць...

Альжбета яшчэ не супакойвалася:

— Пакуль ты, таварыш Раманчук, будзеш гаварыць я вісець буду на чорнай дошцы. І ўсе палцамі будуць тыцкаць, што падрываю калгас. А ці-ж хачу я быць такою?

І ўжо дыхнуў сход:

— Зьняць з чорнай!.. Зьняць...

— Зь-нь-я-ць!.. — разыходзіліся жанчын. Няпрыметна для саміх сябе ўцягнуліся ў разбор памылкі рэдакцыі і аднаасобнікі. І яны разьмясьціўшыся ў калгасным гурце, глушылі голасам:

— Зь-ня-я-я-ць!..

Ладуцька, які сядзеў, насупраць Раманчука, разам з калгасьнікамі, устаў і пачаў прашывацца да газэты.

— Ён зьніме... зьніме... — матнуліся галасы.

Альжбета аж пачала расьці, убачыўшы правільнае вырашэньне яе справы. Узгрэтая задаволенай скаргай, яна наважыла сказаць яшчэ што.

— Чаму гэта вы мужчын больш напрыклейвалі на чырвоную дошку? Ці-ж бабы менш за іх робяць?

— Ёсьць і „бабы“, — абярнуўся, закрэсьліваючы хімічным алоўкам памылку насьценгазэты, Ладуцька. — Надзя Чубік, Зося Ясючэня, Сітнікава жонка, Каняплянікава...

— І усёроўна мужчын больш! — не ўтаймоўвалася Альжбета ад разьюшанай самадзейнасьці. — Я вам (гэта да Ладуцькі) дам усіх баб на чырвоную дошку...

Заля ад такога абяцаньня затрэсьлася ўжо сьмехам.

— Ого! Садзіся...

— Няхай гаворыць!

— Яшчэ што! Скончыла сваё, дык і маўчы.

Колер глянуў на гадзіньнік. Было а палове дзевятай. Нехта, слухаючы спрэчкі, усё-ж сачыў, што робіцца ля стала:

— Час пачынаць сход, — і сказаў, каб усе чулі: — А то і да дня правалэндаемся. А рабіць — калі?

— Верна, верна! — пачалі ўжо забывацца на Альжбету ў клопатах, каб хутчэй распачаць сход, калгасьнікі. — Дзе-ж старшыня, Зьмітровіч?

— Можна абыйсьціся без яго.

— Ці першы раз яго няма на сходзе!

Раманчык чакаў, устаўшы з лаўкі, калі ўтоймуюцца гаворкаю людзі. Грукаў нецярпліва кулаком па стале:

— Цішэй!..

У залі зашыкалі, засакаталі паслужлівыя галасы:
— Ціха!
— Ціш-ш-ш-ш-ш-э-эй!
— Замры!
Раманчук затупаў на месцы:
— Зьмітровіча сёньня няма. Таму ячэйка даручыла мне і таварышу Колеру правесьці сход. Супярэчнасьцяй ня будзе? — і ўпёрся дапытным поглядам у людзей.
— Не, не!
— Гавары!
— Хутчэй пачынай...
Раманчук абвяшчае сход адчыненым. Прапануе абраць прэзыдыум.
— Чаго там абіраць? Хто за сталом сядзіць, няхай і будзе прэзідзюм!
Раманчук запрацівіўся:
— Гэта не работа. Давайце кандыдатуры другіх калгасьнікаў.
Сход заварушыўся. Закрычалі, загалёкалі неперабой:
— Сітніка.
— Раманчука.
— Колера.
— Пётру Лукашэвіча.
— Яшчэ каго? — скончыўшы запісваць, спытаў Раманчук.
— Хопіць!
— Даволі.
Альжбета старожка слухала кандыдатуры.
— А чаму баб не запісалі? узьелася крыўдай яна. — Усюды мужчын сядзяць...
— Дык чаго ты маўчыш? Кажы, каго.
Альжбета на момант супуцілася, а потым сыпанула:
— Зосю Ясючэню, Надзю Чубік, Алену Дрозд, Матруну Коўзель, Тэклю Дзядзюлю...
Яна-б пералічыла ўсіх калгасьніц, каб нехта ня спыніў:
— Ты ўшо агулам усіх зьмітровіцкіх баб, загадай, каб запісалі.
Заля грымнула кароткім рогатам. Раманчук узвысіў голас:
— Ёсьць прапанова абраць у прэзыдыум каго з аднаасобнікаў. Калгасная справа—справа ўсіх беднякоў і сераднякоў: як тых, што ўжо ў калгасе, так і тых, хто заўтра да нас далучыцца. Дык супярэчнасьцяй ня будзе?
— Не, не!
— Шагуна і Пачакая запісаць!..
— Яшчэ каго?
За вакном прытаілася цёмная маўклівая ноч. Слухала, глядзела праз тонкія шыбы, што робіцца ў школе. Трэслася на дварэ ад спружыністага гулу сходу. Цікавала, як, здаволеныя давер'ем калектыву, праціскаліся ў прэзыдыум Сітнік, Зося Ясючэня, Шагун. Сачыла, ці ня зблытаецца, чытаючы парадак дня, Раманчук. Магіла водблескам вачэй Колера, які ўжо пачаў гаворку пра арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасу. І потым, матнуўшыся ценямі лямпы па залі, дзівілася зьбянтэжаная ноч ад шэптаў Баравіка, Зьмітровіча, Вострыка, Матрунчыка:

— Яны (пальцам у бок Раманчука і Колера) падстроілі якраз. Нас, якія думалі, каб калгасьнікам дабра больш засталося, прагналі. Перакруцілі ўсё разьмеркаваньне. Усё ў капярацыю наважылі адвезьці...

Не ў адным месцы шэпчуць яны калгасьнікам і аднаасобнікам. Не адным мужчынам і жонкам. Пасярэдзіне залі, па кутках распальваюць яны ўзгадаванае мінулым жабрацкім жыцьцём гэтых людзей сквапніцкае жаданьне: як сабе больш урваць, каб прызапасіцца—на год, на два, на тры! Каб ня было тае нястачы, якая душыла голадам на вузенькіх шнурках! Каб адразу захлынуцца радасьцю ад сытае, сьляпое і глухое незалежнасьці...

Як раз і дагаварыўся ўжо да гэтага Колер:

— Кулакі і іх падгалоскі агітуюць маласьвядомых калгасьнікаў, каб хлеба дзяржаве не здаваць. Нагаварваюць, што раз пайшлі ў калгас, дык няма чаго з калгасу спаганяць. Калгасьнік-жа за ўладу, за камуністычную партыю. Што хоча, тое няхай і здае, а чаго ня хоча, дык навошта яго прымушаць, калі ён за партыю, за ўладу?..

Падзадорваюць у цёмных кутках залі шэпты. Трывожным папярэджаньнем лезуць у вушы:

— Чуеце? Даходзіцца ўжо, каб апошнюю сарочку скінулі! Скажа, што для рабочых патрэбна...

Да самага нутрэўя дабіраецца Колер:

— Ну добра; вы паслухаецеся кулацкай брахні, насыплеце калгасным дабром свае засекі і скажэце тады: я сам гаспадар, хачу прадам дзяржаве, а хочу і—не. Якая мне справа, што рабочаму ня будзе чаго есьці. Ну, добра, няхай будзе па вашаму: абы сам сыты быў! А галодны рабочы? Як будзе вырабляць жалеза, сталь, трактары, жняяркі, плугі, бароны, запалкі, мыла, кніжкі, крамніну, тавар на боты, здабываць газу, соль? Як па вашаму: можа рабіць галодны чалавек? Можаце вы, ня еўшы, рабіць?

І змаўкае. Толькі нікае вострым дапытлівым поглядам па твары аднаго, другога...

— Не-не!..—сьпяшаецца з адказам колькі чалавек.

А Колер хуценька за другое. Яшчэ глыбей, як за жывое, бярэ людзей.

— Дык і вы кажаце, што ня еўшы чалавек ня будзе рабіць. Значыць, рабочы таксама ня зможа вырабляць усяго таго, што трэба для калгасу і для аднаасобніка. Жалеза ня будзе. Ня будзе з чаго зрабіць машын і нават рыдлёўкі, касы, сярпа, шкла, завесаў для дзьвярэй... Як-жа мы тады будзем жыць?

„Як будзем жыць?"—палохаецца Сітнік, Ясючэня, Шагун, палохаецца ўвесь сход.

І ў цёмную страшную мінуўшчыну, у далёкія дзікунскія дні не загнаць сёнешніх думак. Голым зьвяр'ём, але з тэй-жа прагнасьцю да жыцьця, будуць хадзіць людзі. Бо чым вырабіш зямлю, чым здабудзеш ураджай; чым збудуеш хату?..

— ...Вось чаго хочуць кулакі, нашэптваючы адсталым калгасьнікам і аднаасобнікам, каб не здавалі хлеба. Кулакі стараюцца разарваць вялікі саюз рабочых і працоўных сялян, каб паслабіць сілу, якая ў кастрычніку семнаццатага году раструшчыла капіталістычны лад. Тады ўжо лягчэй будзе кулаку зноў асесьці ў сваім гнязьдзе і эксплё-

атаваць беднату, пасадзіць стражніка на шыю рабочага і працоўнага селяніна. У палітую крывёю і потам цяжкай работы мінуўшчыну хочуць павярнуць кулакі працоўных...

„Не, не!—гоніць ад сябе думкі пра старое Сітнік, гоніць сход.

— Адступаць ня туды, дзе былі патоплены жыцьцём чорныя дні зьдзекаў і эксплётацыі! Напорыстаісьці па дарозе ў новую, вялікую і яркую радасьць будучыні... Больш жалеза, сталі, трактароў, абутку і крамніны!

— З рабочых трэба браць прыклад,—гаворыць далей Колер.— Усё, чым вы цяпер карыстаецеся, зроблена і робіцца рабочымі ў вялікім змаганьні з цяжкасьцямі росту. І рабочы не наракае, не адгарадваецца ад селяніна. Аказвае ўсямерную вытворчую дапамогу, і патрабуе. даказвае, як што павінна рабіцца і ў сельскай гаспадарцы, каб хутчэй прыйсьці да камунізму. Заводам, фабрыкам патрэбна сыравіна, хлеб. Вы павінны гэты хлеб, сыравіну даць сацыялістычнай прамысловасьці, якая дае вам для хутчэйшай хады наперад жалеза, сталь, трактары, крамніну, абутак...

Ён ужо гаворыць пра тое, якія задачы стаяць перад калгасамі. Сваечасовае выкананьне абавязкаў перад пралетарскай дзяржавай узмацняе яе, узмацняе і самы калгас. І праз замацаваньне посьпехаў ісьці да новых перамог. Мы павінны зусім зьмяніць выгляд вёскі, каб нельга было яе адрозьніць ад новых рабочых гарадоў, якія ўзрасьлі і растуць вакол волатаў заводаў, збудаваных пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі. Праз найбольшы выхад таварнай прадукцыі з калгасу ўзьнімаць яго эканамічную магутнасьць. Гэтага можна дамагчыся падвышэньнем ураджайнасьці поля, разгортваньнем будаўніцтва сьвінагадоўчай фэрмы, поўным яе ўкаплектаваньнем пагалоўем, якасьцю работы. Толькі высока-таварны калгас зможа будаваць новыя, сьветлыя і прасторныя дамы для калгасьнікаў (ня гэткія цёмныя, задрыпаныя, цесныя курыныя ні то хаты, ні то катушкі!), клюб, сталоўку, лазьню (не такую, дзе цяпер і мыюцца і лён труць-еўню!), ясьлі і дзіцячыя сады. Уся цяжкая праца будзе заменена паслужлівымі машынамі, якія зробяць хутчэй і лепш. Тады больш будзе часу, каб вучыцца, адпачываць, як трэба. Але ўсё гэта ня прыходзіць само! Заўтрашні дзень трэба браць боем сёньнешняй работы. Дык ці быць, ці марнець нам у застоі, калі ярка акрэсьлена мэта заўтрага?..

Злосна таўчэ локцем Баравіка Міхась Чарняк:

— Маўчы, доўбня! Чаго ты мне скігочаш над вухам?!

Цяжка дыша вострым хмелем Баравік:

— Чакай, чакай! Паглядзіш, што ты запяеш, як усе калгасныя засекі для гэтай дзяржавы выскрабуць...

— Маўчы!..

Раманчук прагнымі вачыма сачыць за ўсімі рухамі Колера, завідна ловіць складаныя сказы. „Каб мне так умець гаварыць",— думае.

— Кулакі, увесь стары сьвет, старыя звычаі і адносіны да працы, якіх узгадаваў капіталістычны лад—вось нашы перашкоды. Але няма крэпасьцяй, якіх ня могуць браць бальшавікі. Усё, што перашкаджае вашаму росту—мы павінны зламаць, разьбіць, раструшчыць,—грыміць Колераў голас.

„Як молатам гасіць"!—робіць параўнаньні Раманчук.

Сітнік, ня міргаючы вокам, мерае шырокую сьпіну прамоўцы, перакідвае позірк на грубыя рукі.

„Свой, рабочы хлопец",—рашае. І ловіць вухам:

— Па-новаму трэба працаваць, каб ісьці да новых перамог. Ні чулі вы, таварышы, пра шэсьць умоў правадыра нашай партыі таварыша Сталіна.

— Я чытаў,—абазваўся Раманчук.—Гэта з дакладу на нарадзе гаспадарнікаў.

— І я чытала,—абазвалася Зося Ясючэня.

— Яшчэ хто?

Сход маўчаў. Прысутных пачала ўжо разьбіраць цікавасьць.

— Больш ніхто не абзываецца,—прагаварыў Колер.—Дык што ты, таварыш Раманчук, зрабіў, каб усе калгасьнікі ведалі ўказаньні таварыша Сталіна, каб гэтыя ўказаньні ажыцьцяўляліся ў калгасе?

Раманчук адкрыта прызнаўся:

— Я думаў, што гэта датычыцца толькі заводаў.

Колер зьдзіўлена адступіў ад стала.

— Толькі заводаў?! Здорава! А я думаю, што ў такой-жа меры яны павінны быць асноваю і штурхачом для ўзмоцненага росту і калгаснай вытворчасьці. Давайце цяпер прачытаем і прапрацуем.

Ён узяў са стала сьпісаны алоўкам ліст.

— Слухайце!

Першая ўмова таварыша Сталіна. ...„Арганізавана набіраць рабочую сілу ў парадку дагавароў з калгасамі, мэханізаваць працу"...

Другая ўмова ...„ліквідаваць цякучасьць рабочай сілы, зьнішчыць ураўнілаўку, правільна арганізаваць зарплату, палепшыць бытавыя ўмовы рабочых"...

Трэцяя ўмова... „Ліквідаваць абязьлічку, палепшыць арганізацыю працы, правільна расставіць сілы на прадпрыемстве"...

Чацьвертая ўмова... „Дабіцца таго, каб у рабочай клясы СССР была свая ўласная вытворча-тэхнічная інтэлігенцыя"...

Пятая ўмова... „Зьмяніць адносіны да інжынэрна-тэхнічных сіл старой школы, праяўляць да іх больш увагі і клопатаў, сьмялей прыцягваць іх да работы"...

Шостая ўмова... „Укараніць і ўмацаваць гаспадарчы разрахунак, падняць унутры-прамысловае накапленьне"...

— Вось чаго мы павінны дамагацца: кожны дзень, кожную гадзіну. І твая віна, таварыш Раманчук, што цяпер, а не раней, трэба растлумачваць і прапрацоўваць гэтыя ўказаньні...

Ён пачаў зноў з першай умовы, каб сход поўнасьцю ўцяміў умовы для росту калгасу, для росту саміх сябе.

У залі ўжо нельга было і павярнуцца: так націснулася людзей. Але духата ад цеснаты ня была цяжкай і зморанай. Прагнае жаданьне запоўніць галаву ўсім, што сёньня тут будзе, упарта змагалася з нявыгадаю стаяць і сядзець.

Як праз буйнае сіта сыпаліся сходам да стала, дзе сядзеў прэзыдыум, факты з жыцьця і практыкі калгасу. Сьпяшаючыся, каб не перахапіў хто другі гаварылі пра абязьлічку, якая нішчыць калгасны інвэнтар, марнуе жывёлу. Пра дрэнна наладжаны вучот, зьдзельшчыну. Ураўнілаўку ў выдачы авансаў. Растранжырваньне кармоў, маемасьці.

А ў Данбас больш магло паехаць, каб Зьмітровіч не пярэчыў... Усяго сабралася, накіпела з-за неарганізаванасьці ў рабоце. Скардзіліся, што не стае людзей, якія-б ведалі як у сьвінарніку правільна даглядаць сьвіней, як выдраць з зямлі найбольшы ўраджай. Гэта-ж калгас, новая буйная гаспадарка, а не аднаасобны гарод, дзе абы як можна рабіць!

— Дык давайце рабіць па-новаму,—пачаў пасьля таго, як калгасьнікі распыталі, абгаварылі, уцямілі добра шэсьць умоў.—Давайце гэтую справу ў нашым калгасе „Падмурак сацыялізму" арганізуем з заўтрага.

— А чаго нам таройкаць лішняе!

— Няма чаго таптацца на месцы!

Колер махнуў рукою:

— Даручым гэтую работу праўленьню. А каб ня было абязьлічкі—Зосі Ясючэні. Адусюль будзем гнаць абязьлічку. Трэба вызначаць і тэрміны выкананьня. І тое, што мы тут пастановім—павінна быць законам як для ўсіх калгасьнікаў, так і для праўленьня.

— Верна! Верна!

Колер сеў. Дастаў з кішэні папяросу, але ўспомніўшы, што была прапанова ня курыць на сходзе, зноў паклаў у партабак.

Ужо старшынствавала Зося:

— Якую-ж мы вынесем прапанову адносна здачы (продажу) дзяржаве бульбы і хлеба?

Матнуліся галасы:

— Выканаць плян! Чаго там доўга варажыць.

Зося:—Так і запішам—плян выканаць. Цяпер давайце вызначым тэрмін.

Голас:—Раней трэба разьмеркаваць паміж калгасьнікамі, а тады ўжо глядзець для другога роту. Можа сабе ня стане...

Зося:—І сабе будзе. Плян нават менш, як давалі летась усім гаспадаркам, што ўступілі ў калгас.

— А чым ты сьвіней карміць будзеш?—аж заенчыла спагадаю да сьвінога пагалоўя з цёмнага кутка нейкая жанчына.

Зося:—У першую чаргу мы павінны думаць пра інтарэсы дзяржавы, рабочых, а сьвіньні ў калгасе з голаду не падохнуць. Будзе і для сьвіней.

— Чаго там спрачацца?—аж закрычаў Сітнік.—Сабраліся там падкулачнікі гарнастаевы ды рызыдуюць. Мы яшчэ ня вытруцілі таго, каб самім усё зглэмтаць, а рабочы няхай з голаду пухне. Што гэта за работа?

— А колькі нам чаго нам трэба здаць?

Раманчук пераліčыў.

— Як раз пад мяцёлку!—заенчыў Вострык.—Усе з голаду здохнем...

— А галоўнае,—упікнуў нехта,—табе ня будзе за што гарэлку хлябтаць.

— Ён і сюды, выпіўшы, прыйшоў!

— Таму цяпер і крыўдуе.

— Гультай!

— Усё гэта ў гарнастаевым садку пралежаў.

— Дык ён-жа за яго і заступаецца.

Зося затрамцела алоўкам па стале.

— Бліжэй да справы. Перш чым галасаваць, я скажу, што летась адны цьвёрдазаданьнікі, якія прашыліся ў калгас, здавалі тое, што павінны прадаць дзяржаве ўсе 120 калгасных гаспадарак.

— Галасуй! — патрабаваў сход. — Галасаваньне пакажа!..

У Колера матнулася трывожная думка. А што калі большасьць пойдзе супроць? Нехта правёў ужо падрыхтоўку на зрыў пляну. Чуліся ўжо выкрыкамі калгасьнікаў папераджальныя сыгналы.

— Га-а-ла-а-су-йй!..

— ...супроць!.. зьедліва дыхнуў кладаўшчык.

Нэрвова задрыжэлі сківіцы Раманчука. Холад матнуўся ў плячох. Але ўжо халоднай вострай рашучасьцю зноў набракаюць яго вочы. Ён устае і моўчкі пільна ўглядаецца ў прыцемкаваты кут, шукаючы падбухторшчыкаў.

— Дык хто за тое, каб выканаць плян абавязкаў перад дзяржавай? Калгасьнікі, падыміце рукі! — зьвініць у напружанай гулкай цішыні Зосін голас. Яе, усіх калгасьнікаў — усхвалявана цікуюць аднаасобнікі. І хутка, хутка плыве ўхмылка нязьмернай радасьці па твары Раманчука, Зосі, як павольна і ўдумліва пашлі ў гару мужчынскія і жаночыя рукі. Рухамі большасьці людзей скаланулася цішыня.

Зося пералічвае: адзін... два... дзесяць... трыццаць...

А ў залі:

— Мяне чаму не палічыла? Хіба я супроць...

— Дык ты вышэй узьнімай!

— Дзе яна ўсіх згледзіць.

... Сто чатыры,—схіляецца над папераю Зося. І тады:

— А хто супроць?

Тыя, што галасавалі „за“, крутнулі галавою паглядзець: хто-ж будзе галасаваць „супроць“? Вастрылі языкі маладзейшыя.

— А-я-яй. Антось Каровік супраць!

— Дзе, дзе ён сядзіць?—насядалі другія.

— Вунь, ля вакна.

— Гэта той, што аброці губляе? — дзівіўся нехта.

— Той!

— А Віктар дзе?

— Вострыку памагае!

Не далоні, а сьцятыя кулакі выставілі Баравік, Зьмітровіч—кладаўшчык. Патнее на локці кулак і ў Матрунчыка.

— Пятнаццаць чалавек,—запісвае Зося.

— Дзе адкуль ты набрала? — абарочваецца да прэзыдыуму Канаплянік.— Тут хто для жарту падымаў... Памылка!

— Перагаласаваць „супроць“ яшчэ раз!—патрабуюць з лавак.— Хто гэта адважыцца ісьці супроць большасьці?

Перагаласаваньне дае 12 чалавек „супроць“.

— От-жа бачыш! — крычыць—сьмяецца Канаплянік.—Я праўду казаў...

На лаўцы ля вакна сьпіць рахункавод Антось Дзік. Хлюпаюць празрыстаю сьлінёю танклявыя губы. Дзеравяніць прыціснутыя да сьцяны плечы рэдактар Ладуцька. Упарта пруціць змораныя стаянкаю ногі.

— Ёсьць прапанова скончыць адвозку бульбы і хлеба да 25 кастрычніка. Адказны — палявод Міхась Ляўчук. Згодны?

— Згодны, згодны! Давай хутчэй разьмеркаваньне!—патрабуе сход. — А то і да раньня ня скончым.

— Таварыш Раманчук мае слова...

Ён гаворыць, якое было выкрыта рэвізійнай камісіяй кругельства з працаднямі. Пералічвае каму прыпісалі лішняе, каму не дапісалі. Гаворыць пра парушаны лёзунг „хто больш працуе, той больш і атрымлівае“. Авансы па загаду Зьмітровіча выдаваліся ўсім нараўня. Так было вызначана і для разьмеркаваньня. Давялося пакарпець, пакуль ўсё выправілі. Адлічыць дзяржаве для продажу. Гаворыць пра павялічаныя нормы зернавых культур коням, сьвіньням... Штучнае зьмяншэньне нормы выхаду зярна з капы...

Ля дзьвярэй мітусьня. Зося ўглядаецца, каб супакоіць і заўважае сакратара райкому, рэдактара раённай газэты. Тады цягне за рукаў Раманчука: „хвілінку“. А сходу:

— Да нас прыехалі сакратар райкому партыі таварыш Войцік і рэдактар раённай газэты таварыш Збарскі. Яны тут, на сходзе. Ёсьць прапанова запрасіць іх у прэзыдыум...

Рызыдуюць воплескі. Пляскаюць гучна далонямі і аглядваюцца: дзе-ж яны?

Ледзь прабіваюцца наежджыя да стала. Расхлястваюць каўняры змочаных паліто. Скідаюць шапкі.

— Што: на двары дождж?—пытае Колер у Войціка.

— Яшчэ які! Ледзь даехалі,—а Раманчуку,—гаварый не зацягвай сходу.

Садзіцца ля Колера. Ціха:

— Ну, як тут у вас?

— Ёсьць пералом. З гэтым народам д'яблу галаву можна скруціць. Добра арганізаваць толькі, правільна кіраваць!

— Як бульба?

— Палавіну выбралі.

— Хлебазагауоўкі?

— Пашло. Толькі што прынялі плян і пастанавілі выканаць за два тыдні. Выпусьцілі першы нумар насьценгазеты, прапрацавалі шэсьць умоў Сталіна.

— Добра. А мы, браце, пад'ехалі вам дапамагчы. Чубік усё расказаў Збарскаму. У ізаляцыю каго трэба ўзяць. Хлопчыкі некаторыя над'ехалі. А дзе Юрчык, Новік, Бабоўскі?

Юрчык праводзіць з Сянчуком сход па хлебазагатоўках у Чыжыках, а тыя пашлі ў Брадок вывазку каменьня на дарогу арганізоўваць.

Войцік палажыў адно на адно калена, на іх складзеныя рукі і пачаў слухаць. Потым абярнуўся:

— Заехалі да Гарнастая. А там смурод ад гарэлкі нос зрывае. І Зьмітровіч там—пластом на ложку...

... такім парадкам на кожны працадзень пасьля адлічэньня насеннага фонду, здачы дзяржаве, абавязковых плацяжоў і ўкладаньняў у гаспадарку прыпадае:

бульбы — 10 кілё
жыта — 2 кілё
пшаніцы—200 грам
ячменю —200 грам
аўса —100 грам

Напруджана слухае сход Раманчука. Ніхто не зварухнецца.

— ... Чубікі Майсей і Надзя выпрацавалі ўдваіх 600 дзён. Атрымаюць 6000 кілё бульбы: тысячу 200 кілё жыта, 112 кілё пшаніцы, 50 кілё аўса, 112 кілё ячменю...

Выскачыў порсткі голас:

— Сколькі гэта на пуды будзе? Тут каторыя ня ведаюць...

— Ага, на пудох скажы!

— Усе ведаць будуць!

Раманчук:—360 пудоў бульбы, 72 пуды жыта, сем пудоў пшаніцы, сем пудоў ячменю, 3 пуды аўса...

Напруджаньне асела адразу. Людзі заварушыліся, загаманілі, заспрачаліся.

— Ён век столькі дабра ня меў!

— Чыстым, толькі на яду атрымаў. І пра насеньне ня трэба ўжо думаць.

— Хіба з яго зямлі ўзяў-бы столькі?

... Вострык Максім, 2 працаздольных. Жонка выпрацавала 150 дзён, Максім—10. Атрымаюць...

Го-го-го!—заходзіцца з рогату сход, слухаючы Раманчукова чытаньне.—Цяпер на галодны пуп у цяньку ляжаць ня будзе!..

„А дакуль буду я корпацца?—не ўседзіць Шагун, слухаючы, што атрымліваюць калгасьнікі, за работу.—„Мая і Чубікава гаспадаркі—роўныя. Ці-ж бывае столькі ў мяне прыбытку? Трэба пісаць заяву зараз-жа... А жонка?.. „Ці ў калгас, ці на развод—адно",—рэжуць у галаве штодзённыя сваркі.

І—рашае:

„Д'яблі яе ня возмуць! Пакруціцца, пакруціцца ды сама прыдзе да мяне ў калгас. Ня дзе дзенецца!"

Ён адрывае на стале кавалак паперы і бярэ ў Зосі аловак.

— Заяву буду пісаць. Ліха яе бярэ з жонкаю...

Іскрамі гараць Зосіны вочы.

— Пішы, пішы! І яна прыдзе ў калгас!

— А то дзе яна дзенецца...

Чытае Раманчук. То дзівіцца, то рагоча сход. Напруджана жуюць думкі аднаасобнікі...

Бледнае сьвятло блізкага дня тупае за вокнамі. Канчае прамову Войцік. Парадкам, беражліва, як багатую ўзнагароду складвае заявы ў калгас Раманчук. Дзесяць шэрых, пісаных сьпешна паперак. Шостым мо разам лічыць запісы ў пратаколе Зосі Ясючэня: трыццаць новых гаспадарак прыбавілася...

## 19.

Пасьля работы канцэлярыя праўленьня смажыцца ў дыме і зрывістым тлуме галасоў. Ляўчук арудвае з табелямі і нарадамі работы ля Антося Дзіка. Раз по разу муштруе рахункавода:

— Дзіця ты яшчэ горкае. Не стае табе клёку ў галаве, каб разьбірацца што і як. Ну, куды ты запісаў работу па малацьбе? Куды? Эх, вучыцца табе трэба! На курсы цябе трэба гнаць! Цяпер, браце, без навукі не пражывеш. А нам трэба добры булгацер, каб усё, як божы дзень, было ясным. Дай сюды аловак.

Ён вылічвае, колькі людзей заўтра павінна пайсьці на бульбу, малаціць. Колькі пойдзе падвод з бульбай і хлебам. А яшчэ-ж зябліва сорак гэктараў застаецца! Дык ці адным трактарам (другі на малацьбе) араць, калі шаснацьцера коняй гуляюць?

Зося Ясючэня дае пытлю Сьцяпану Варывончуку. Ён няёмка міргае вачыма і не адважыцца глянуць у твар старшыні. Стаіць роўна, як на вайсковым парадзе. Баіцца павярнуцца, бо за сьпіною, прыгатаваўшы зьедлівую ўхмылку, стаіць Верабей.

— Хто-ж вінаваты, што табе мала пражытку дасталося? Сам! Трэба было хадзіць на работу. Хіба калгас багадзельня якая, што цябе, такога здаравяку, карміць будзе? Ну, сам падумай: ты будзеш рабіць кожны дзень, а хто сяды-тады прыткнецца і пасьля патрабуе, каб пароўну ўсім дзяліць. Напэўна закрычыш, што на дармаедаў працаваць ня будзеш. Так і другія. У Чубікаў 600 працадзён, а ў цябе ўсяго сорак чатыры. Дык чаму ты ня мог столькі вырабіць, як Чубікі, або хто другі? Рабіў-жа некалі на паасобнай гаспадарцы.

Варынончык ня ведае, што казаць. За сьпіною ня можа стрымаць хіхікаў Верабей. Пачынаюць падсьмейвацца з Варывончыка другія калгасьнікі.

— Сорак чатыры дні выпрацаваў! Гэта табе ня хаханькі.

— Як ён не падарваўся...

— Ого: ён мядзьведзя аблажыць!

— Вылежаў сілу на печы ды ў цяньку.

— А гуляючы, думаеш, есьці ня хочацца?—пачынае ўзагнаўшы сур'ёзнасьць на твар, заступаецца Верабей за Варывончыка.—Калі чалавек гуляе, дык кішкі марша яшчэ больш граюць. Няхай сам Варывончык скажа. Ён ведае.

— Дык як-жа быць?—пытае другім разам у Зосі Варывончык.— Мне-ж хлеба ня стане.

— А чаму ты на работу ня ходзіш? Хіба табе дарам будуць даваць?

— На работу? А чаму-ж ніхто не загадвае?—аж сьвятлее Варывончыкаў твар ад выкрытае здагадлівасьцю прычыны. Ну, што яна, гэтая баба—старшыня цяпер яму адкажа?—Чаму цяпер ніхто не загадвае?—топчацца ён нэрвова ля стала, за якім сядзіць Зося.

Вочы старшыні аж шырацца ад зьдзіўленьня.

— *Загадваць* на работу? *У калгасе?* Калі гэта было пры Зьмітровічу, дык цяпер ня будзе! Калгас—ня прыгон! І работа ў ім—ня прыгон! Няўжо ты, дзядзька Варывончык, такі дурны, што ня ведаеш чым людзі жывуць? Хто пра цябе павінен думаць? Сам! Самі мы пра сябе павінны думаць. Ніхто нам дарма ежы і адзетку ня дасьць. А ты, як тое малое дзіця, разважаеш. Ды ці такі ты ўжо дурны, як тут паказваеш? А пачытай, што пра цябе ў насьценнай газэце пішуць. І правільна! Будзем разьбіраць на праўленьні...

Варывончык скручваецца ў чалавечую цеснату. Чэрці яго з гэтай бабай зговорышся! Ён прашываецца да вакна і моўчкі садзіцца на лаўцы. Які нядобры сьвет настаў! Ніхто за яго ня ўступіцца. Наадварот—усе насядаюць. Суседзі нават!

Ён скоса глядзіць на сьцяну, дзе згрудзілася чалавек дзесяць калгасьнікаў. З паўгадзіны таму назад вывесіў новы нумар насьценгазэты Ладуцька. Мо зноў што пра яго, Варывончыка, і цяпер напісана?

Ён успамінае, як растрыбушыў усе яго думкі ў мінулым нумары Сітнік. Сквапнікам назваў, чалавекам, які спадзяецца на зварот старога. Патрабаваў неадкладнага выключэньня з калгасу.

А ўсё з-за гумна вышла. Як і ў другіх, як свае гумны і хлявушкі захацелі разбурыць Сітнік і стары Ясючэня: бо не ставала дрэва на пабудове фэрмы. Дык і ня даў Варывончык чапаць свайго гумна. Жонку падгаварыў, сам прыбег.

— Не чапайце! Ня хочу, каб маё гумно бурылі...

— У цябе-ж хлеў яшчэ застаецца.

— Усёроўна. Мо і гумно спатрэбіцца. Чаго сьпяшацца разьбіраць..

Як пугай сьцебануў гэтым Сітніка. Той, як не ламянуў жылістым кулаком яму ў грудзі:

— А-а-а... маць тваю! Спадзеўкі! Можа, палякі прыдуць? Іх маць тваю, чакаеш? Каб паглядзець, як яшчэ раз будуць вёску паліць? Нас вешаць? А-а-а?... Калгасьнічак!

І ўвесь аж кіпеў, падскакваў у разьюшанай нянавісьці.

— Ня вернуцца яны, чуеш! Мяжы нашай не адважацца пераступіць, гадзюка! Ня будзе гэтай радасьці табе і гарнастайчыкам!

Варывончык аж спужаўся тады яго. Стольк і год двор пры двары мірна гаспадарылі, а тут—усё шыварат навыварат. Другім стаў Сітнік. А каб-жа сказаў, што Варывончык які наёмшчык, эксплёататар! З беднаты некалі сам вылез. І да калгасу сем дзесяцін было ў яго. Добрае гумно паставіў, хлеў. Коняй двое было, тры каровы. На ногі, можна сказаць, стаў. Кніжкі ўсякія, журналы пачаў выпісваць. Чытаў парады, як весьці культурную гаспадарку. Прэмію нават у 27 годзе атрымаў за добрыя буракі. А хацелася яшчэ расьці ў багацьце, у глухую незалежнасьць. Зямлі яшчэ больш хацелася. Тут мерыўся ад'яжджаць у Сібір Сітнік. Дык Варывончык згаварыўся, шта яго пяць дзесяцін будуць далучаны. Ажна з калгасамі ўсё закруціла. Зламала ўсе пляны і Сітнікавы і Варывончыкавы. І цяпер усё, да чаго ён прагнуў, што зрабіў адзін—трэба бурыць. Сітнік перш усадзіў у сьвінарнік сваё гумно, а цяпер за яго ўзяўся. Сьцягваць у адно месца. Дык як-жа растацца: як ламаць?—думае Варывончык. А мо яшчэ партыя і ўласьць адумаюцца? Мо зноў кожнаму паасобку загадаюць гаспадарыць? Але ці захочуць гэтыя калгасныя верхаводы і акцівісты: Раманчукі, Чубікі, Сітнікі, Ясючэні, Ляўчукі?

Ляўчук! Серадняк. Мала чым слабейшы за Варывончыка. Дык чаго ён, звар'яцеў разам з другімі? Ніякага пратхланьня ня хоча ведаць ад калгаснай работы. Што ён думае?

Злыя сумненьні грызуць Варывончыка. Седзячы на лаўцы, ён глядзіць, як заклапочаны Ляўчук згаварваецца з Зосяю пра нарады на заўтрашні дзень. Колькі на бульбу пойдзе, малацьбу, адвозку загатовак, колькі яшчэ чалавек урваць на будаўніцтва, на зябліва. Гаворыць так, як бы ўсё яго тут: і хата, і сям'я, і гаспадарка. Як-бы гэтым новым ён і жыве. А ўсё, чым жыў, даўней, дзе працаваў раней, адышло некуды ў бок. А во яшчэ: мяркуе, што зробіць заўтра! А што калі заўтра дождж, бура, альбо скаланецца зямля? Як яны ўпэўнены, што заўтрашні дзень ужо іх! Ужо сплянавалі, што будзе зроблена!..

Грукаюць дзьверы. Праз парог пераступае ў засмальцаванай мазутаю і газай ватоўцы трактарысты Тарас. За ім аграном машынатрактарнай станцыі—Нэвах Левін, высокі і худы, з няголеным тварам.

Абодва гучна здароўкаюцца і садзяць то аднаму то другому для прывітаньня рукі.

— Ну, як тут у вас?—скідаючы шапку пытае Левін. Садзіцца ля стала. Кідае:—І надымілі-ж: як ў ёўні!

— Гэта Верабей не расстаецца са сваёй зыбельніцай,—плюшчыць правае вока Ляўчук.—Балазе калгас сёлета тры гэктары махоркі засеяў, дык ён адразу цэлае каліва ў папяросу скручвае.

— Хто—Верабей?—перапытвае Левін.—Ён можа! Пазаўчора, калі прыяжджаў у МТС за газай, дык так надыміў у канцэлярыі, што бухгальтар, як не памёр ад чаду.

Усё ў пакоі затрэслася рогатам.

Левін расплікнуў абшэрпаны, замаслычаны разьездамі брэзэнтавы портфэль, дастаў паперу і падаў Зосі:

— Табе, таварыш старшыня, трэба шэсьць калгасьнікаў вылучыць на курсы трактарыстых. На весну нам прысылаюць яшчэ сорак пяць новых трактараў. Усіх будзе сто. Аднаго чалавека давай на курсы рахункаводаў. Чатырох на сьвінагадоўчыя. Трох на курсы брыгадзіраў. Там яшчэ ёсьць пра ясьлі... 700 чалавек усіх павінна падрыхтаваць МТС да вясны.

— Мяне на трактарныя курсы!—дыхнуў з роту дымам Верабей.—Вельмі ўжо хочацца паезьдзіць на гэтым жалезным кані.

Ляўчук аж засьмяяўся ад надуманых жартаў:

— А на курсы, як дзяцей даглядаць, ня хочаш? Туды цябе пашлём

— Ты ўжо туды паедзеш!

— А думаеш, дурное-б зрабіў?

Зноў усе зарагаталі.

— Як з выбаркай бульбы?—спытаў у Ляўчука Левін.

— Заўтра канчаем.

— А зябліва?

— Засталося яшчэ трохі.

— Трэба хутчэй канчаць. Пасьля заўтра трактары пойдуць адсюль у калгас Бальшавік.

— Дык яны-ж у нас ня скончаць работы.

— А ўсіх коняй скарыстайце. Няма чаго спадзявацца на адны трактары.

Левін павярнуўся да Зосі.

— І хутчэй камплектаваньне фэрмы канчайце. Стаўце кабанчыкаў на адкорм. Каб да новага году поўнасьцю выканаць плян здачы прадукцыі. На фэрму і адкормачнік, нікога, апрача тых, хто даглядае сьвіней, ня пушчайце. Яшчэ чуму могуць занесьці. Ставіць сьвіней на фэрму абавязкова праз карантын. Крэдыты перавялі на ваш рухунак?

— Перавялі.

— Ну, то і добра. Я тут прабуду два дні, каб што дапамагчы. А дзе Колер?

— На паседжаньні бюро ячэйкі. У сельсавеце.

„Што рабіць, што рабіць?"—думае Варывончык,—„І ніхто слова добрага ня скажа. Як сам па сабе. Як нікому непатрэбен".

Гаворыць зося.

— На курсы мы пашлем лепшых калгасьнікаў. Няхай падвучацца. А то без навукі, як бяз рук. Цэлая фабрыка мяса будуецца.

дык трэба ўмець як на ёй упраўляцца. Ці другую якую работу вазьмі.. Арганізацыю, вучот..,

Грукае дзьвярыма Багун. За ім—чалавек чатырох камсамольцаў. Задорам маладых галасоў палыхаюць па канцэлярыі. Разгортваюць і прыцінаюць цьвікамі на сьцяне два плякаты.

— Хто-ж сёньня трапіў у прагульшчыкі, хто ўдарнікам?—пытае у хлапцоў Верабей і падаецца з другімі да плякатаў.—Варывончык ёсьць на чорнай?

„Няхай цябе халерая возьме, як ты прычапіўся"—думае Варывончык. І напінае вуха, каб пачуць, каго там бяруць у стос, а каго хваляць. „Ад гэтых камсамольцаў нідзе не схаваешся!"

Хлопцы вешаюць плякаты і адыходзяць у бок, даючы месца прагнай цікавасьці барадатых і маладзейшых мужчын. Чытаць пра вынікі работы за дзень уваходзіла ўжо ў звычай люпзей і мала хто ішоў класьціся спаць, не праведаўшы, якое ён сёньня заняў месца па рабоце. А хто ня мог прыйсьці, прасіў, каб канешне, другі пераказаў.

## 20.

Антось Каровік ачухася ад сну ўжо тады, як іскрылася сонцам вада на выгане. Спрунжыністы вецер упінаўся ў замурзаныя пылам шыбы вокан. Дрыжэў блытаным вецьцем старое вішні. Ляніва пазяхаючы і скрабучыся пад пахай, Каровік падышоў бліжэй да вакна. Скручанае ветрам высьпеленае лісьцё дрэў маталася па зямлі. Было відаць праз гарод: канчала крыць страху другога сьвінарніка Ясючэнява брыгада. Часаў бервяно барадаты Верабей. Падскокваючы ўверх, высьлізганы аб дрэва тапор зьвінеў вострым сонечным водблескам. На ўзгорку важка і няспынннна хістаў крыльлем млын. Сквірчэла, смажылася ў бервяне цыркулярка.

„Такі прымудравалі",—падумаў Каровік. „Без Гарнастая абыйшліся".

Падышоў да заслону, дзе стаяла вядро з вадою. Чэрпну кубкам і лінуў на рукі. Страсянуўся заспанымі нэрвамі ад халоднай вільгаці.

Уходжвалася ля печы старая маці. Дранчэла ў качарэжніку вілкамі. Шугала гаршкамі на прыпеку. Кінула коратка сыну:

— Ручнік у шафе.

Гучна чаўкаў ля карыта па сярэдзіне хаты кабан-кормнік. Здаволена рохкаў і плюскацеў раздвоенымі капытамі па забруджанай цестам глінянай падлозе.

— Ты і сёньня на работу ня пойдзеш?

Выціраючы шорсткім палатном твар, адказаў маці:

— Ужо-ж позна.

— А чаму ты ня ўстаў, калі будзіла?

— Я ня чуў.

Маці бразнула вілкамі па гаршку.

— Калі на работу, дык ты ня чуеш? Чаму гэта дзевак ніколі не прасьпіш? І ўчора да поўначы бадзяўся.

І залапатала:

— А хто нас будзе дарам карміць? Ты, мусіць, хочаш, каб матка пад старасьць з торбаю пашла? Чаму табе мала вымеркавалі? Бо на работу не хадзіў! Цяпер усюды і мне праходу не даюць. Кпіны строяць,

што сына гультаем вырасьціла. Дык цяпер пад старасьць ён голадам аддзякуе. Каб жыў бацька, дык-бк чэрці з табою гаварылі.

Схапіла міску з мачаньнем. Грукнула па стале.

— Еш...

Уздыхнула. Надзела катанку. Адчыніла дзьверы і махнула рукою на кормніка.

— Аюсь вон! Аюсь вон!

Кормнік зарохкаў нездаволенай сытасьцю. Вагаючыся ад цяжару тлустасьці асьцярожна і важна патупаў да парогу.

— Як пад'ясі, пастаў міску ў печ. Там грэцкі крупнік яшчэ бяры. А я на бульбу пабягу.

„Якія ўсе злыя парабіліся",—жуючы хлеб перабіраў у галаве думкамі Антось Каровік. І маці ўжо вызьвярылася няма ведама чаго. І Багун у сваёй газэтцы часта падкусіць. Нацкоўвае другіх, каб мяне крытыкавілі. Што на работу не хаджу, што сьвіньні не прадаў на фэрму. Альбо...

Вострым болем закалола нешта ў нутры:

„Учора Юлька не захацела гуляць са мною. Што лодырам празвалі, дык і ёй, кажа, няма чаго знацца. Пайшла з камсамольцам Ломікам на палітзаняткі ячэйкі і пасьля ўжо ліха яе ведае дзе скруцілася"...

Глянуў праз вакно на вуліцу. І зьдзівіўся: моўчкі ўглядалася нечага ў шуляк варот маці. Па другім баку вуліцы пераскакваў па кладках Раманчук. Нёс у руках завесы на сьвінарнік, а на тварызьедлівую задаволеную ўхмылку. Косіў хітрыя вочы на каровікавы вароты.

А маці схамянулася і рынулася ад варот у хату. Расхлястала дзьверы. Залямантавала:

— Ідзі глянь!.. Ідзі глянь, паскуднік! Пачытай, што пра цябе пішуць. А божачка, ты мой божачка! На ўсю вуліцу сарамаціць... Ідзі, басэтля, пачытай...

Выбег на двор. Ступіў ботам у гразь вуліцы, утаропіўся ў невялічкую паперку з яркімі літарамі:

Тут жыве

заядлы ПРАГУЛЬШЧЫК

Антось Каровік.

Нявыхадамі на работу ён *тармазіць рост і гаспадарчае ўмацаваньне калгасу. „Падмурак сацыялізму"*

Ганьба яму! Ганьба такім Каровікам. Раўняцца па Чубіках, Сітніках, Ляўчукох!"

І меншымі літарамі подпіс:

*„Рэдакцыя насьценгазэты".*

„Камсамольцы прыдумалі",—скосіў вочы на другія хаты Каровік.—„Багун з Ладуцькам напісалі. Яны ўсюды і ў насьценнай газэце і на сходзе. Але ці-ж толькі тут?"

Учора ўвечары нехта ўткнуў у шчыліну дзьвярэй сенцаў раённую газэту. Хто? Для чаго? Яго зацікавіла. Пабег у хату. І пачаў шукаць прагнымі вачыма па шэрых староннах прычыну. Дзесяць разоў мо перачытаў, завучыў на памяць радкі... „але ў калгасе „Падмурак сацыялізму" ёсьць і прагульшчыкі. Антось Каровік, Максім Вострык, Баравік, Матрунчык; былы старшыня Зьмітровіч"... пісаў Колер.

Прачытаў паперку на шуляку яшчэ раз. Скосіў вочы: ці няма на суседніх варотах? Убачыў: стаіць трох чалавек ля Вострыкавае хаты, ад сьвінарніка шырока крочыць Верабей. Вецер хістае яго доўгую бараду, гуляе хітрай ухмылкай па губах.

Верабей пералез цераз плот і хлюпаючы па чорным цесьце гразі вуліцы ёменька пасьля прыткнуўся да Каровіка. Дыхнуў з неразгаданай сур'ёзнасьцю.

— Ці не пра кіно? Дзе гэта яно будзе?

Моўчкі, як бы не заўважаючы, Каровіка, утаропіўся ў паперку. Махнуў рукою перад вачыма, як-бы зганяючы які туман.

— А-а... Дык-жа сапраўды пра кіно! І глаўным махайнікам Антось. Я думаў, што другое... Аказваецца сёньня восем такіх махайнікаў вылучылі. Пяцёх прыбегла ўжо ў праўленьне сіянсы даваць...

Закрактаў сталасьцю сваіх гадоў. Правёў пальцам пад радкамі:

— Ты-у-ту-т жы-ве зая-дл-ллы пра-гуль-шш-шчык Антось Ка-ровік... А-а. Я думаў—кіно-сіянсы...

І як сюды, шырока закрочыў зноў да сьвінарніка. Не аглянуўся нават.

Тады Антось яшчэ раз скосіў вочы па вуліцы: нікога ўжо ня відаць. Толькі сьвіньні там-сям длубаюцца ля варот. Шастае, шуршыць па саламяных стрэхах вецер. Гоніць на вуліцу з садоў высьпеленае, пажоўклае лісьцё. Зьедліва сквірчыць пад ветраком цыркулярка. Верабей зноў гуляе ля бервяна сонечным бляскам тапара. Усюды ўсе заняты работаю. Як заклапочаная квактуха топчыцца ля сьвінарніка Ясючэня. Крычыць ў гару, дзе на страсе хлопцы адвязваюць жэрдку:

— Роўненька спушчайце! Роўненька. Каб страхі не псаваць!..

У канцэлярыі праўленьня сядзяць толькі ўдваіх: Зося і Дзік. Каровік няёмка тупае да старшынёвага стала.

— Паперку нехта вывесіў...

Зося як-бы ні пра што ня ведаючы:

— Пакажы...

„Зноў і яна ў голас перачытваць будзе",—трывожыцца Каровік. І сьпяшаецца:

— Дык я ўжо наважыў кожны дзень хадзіць. Чэрці яго ўжо будуць сядзець дома, калі ўсе робяць!

Твар Зосі сьвятлее. Ня чытаючы яна падае яму зноў паперку.

— Гэта насьценгазэта вывесіла. Ты цяпер зайдзі да Багуна або Ладуцькі: аддай ім гэту аб'яву і скажы, што больш прагульшчыкам ня будзеш. А то яны і заўтра вывесіць такое кляймо могуць...

„А там, як той Верабей, хіхікі зноў састрояць!"—палохаецца Каровік. Камечыць паперку. Кідае Зосі на стол.

— Я не пайду да Багуна. Лепш ты сама скажы яму. Я... на работу.

— Ідзі на работу,—ня можа стрымаць радасьці Зося.—Я сама скажу Багуну і Ладуцьку.

Як які цяжар звальваецца з Каровіка. Ён шумна паварочваецца і крочыць да выхаду з праўленьня. Крычыць праз вуліцу да Колера і Юрчыка (ішлі, мусіць, у сельсавет) „дзень-добры" і бяжыць у брыгаду.

21.

Колер бадай ніколі ня стыкаецца на кватэры ў Сітніка. Пяць дзён таму назад на сходзе партячэйкі абгаварвалі пытаньне аб уключэньні ў конкурс „Праўды". Потым—калгасны сход. А сёньня, забраўшыся ў другі пакой сельсавету, піша ў раённую газэту допіс пра становішча калгасу. Перад гэтым з паўгадзіны лаяўся па тэлефону з сакратаром райкому Войцікам. Той быў напісаў ліст у партыйны камітэт заводу, каб назаўсёды адкамандыравалі Колера ў Міранскі раён. А з Менску—тэлеграму: „праз месяц павінен быць на заводзе з падрабязнай атэстацыяй праробленай работы".

Толькі што пашлі адсюль Багун і Ладуцька. Панесьлі вывешваць у няскончанай кухні сьвінарніка новы нумар насьценнай газэты „За сацыялістычную жывёлагадоўлю". Цяпер яна выходзіць штодзень і Ладуцька ня жаліцца на нястачу матар'ялаў. Узгадаваны новы актыў, які рызыдуе на будаўніцтве, па догляду за сьвіньнямі. Праведзеная брыгадай насьценкораў праверка гаспадарчага становішча калгасу ўзварушыла людзей. Пасыпаліся прапановы ад тых, хто раней і ня думаў пісаць. Узялі на вучот прагульшчыкаў і Багун дадумаўся кожны дзень вывешваць сьпісы іх у праўленьні, у сельсавеце, у краме. Там-жа зьмяшчалі і лепшых ударнікаў, якія з дня ў дзень без спазьненьня хадзілі на работу. Запісвалі хто сколькі вырабіў. І як рос сьпіс лепшых, так зьмяншаўся сьпіс прагульшчыкаў. Кожны працаздоны быў узяты на вучот. Разьмеркаваньне людзей па брыгадах заняло два вечары. І пасьля гэтага брыгадзіры кожны вечар паведамлялі ў праўленьне і рэдакцыю, хто не зьявіўся. Але ўжо мала ў каго была ахвота трапляць на „чорны сьпіс".

Пасьля складаньня пляну веснавой сяўбы, вызначаная брыгада па рамонту інвэнтару за адзін дзень прыпарадкавала калёсы і плугі. На канюшні, кароўніку і сьвінагадоўчай фэрме да даглядчыкаў, прымацавалі пэўны лік жывёлы. І кожны адказваў за выкананьне даручанай яму работы. Чатырыста рублёў, вызначаных для прэміраваньня лепшых, надалі вялікай ахвоты ў працы.

Брыгада Ясючэні, каб захапіць першую прэмію, працавала па дванаццаць гадзін. Завідна рабілі работу на дварэ, а ўвечары завіхаліся па хатах, майструючы дзьверы і вокны для другога сьвінарніка. Першы быў поўнасьцю скончаны і тады прыганялі з карантыну сьвіней. Сорак пяць кабанчыкаў ужо тыдзень, як пастаўлена на адкорм. Але заставалася прыдабыць яшчэ трыццаць пяць, каб поўнасьцю забясьпечыць плян здачы дзяржаве мясной прадукцыі.

А тут якраз узрасьлі злыя чуткі пра чуму. Ужо той-сёй зьмітравічанін ачысьціў праз гэтую хваробу ўвесь катушок. І хвароба пашыралася, бо ня было ёй перасьцярогі. Хворыя сьвіньні бадзяліся па вуліцы з двара ў двор, разносячы страшную хваробу. Яна перадавалася праз людзей, праз сабак. У цёмную ноч, не зважаючы на папярэджаньні насьценгазэты і сельсавету, нехта выцягваў здыхляціну на выган. Пасьля аднае начы знайшлі сіні сьвінячы сьцягняк ля калгаснага сьвінарніка. Тады якраз выпаў першы сьнег. Па яго роўнай бялізьне ішліся ад вёскі блытаныя сьляды.

Мудрэй таго сьнегу зьбялеў Чубік, калі, прыймчаўшыся раніцай да Зосі, гаварыў пра выпад начы. Ён, пасьля таго, як зьвярнуўся

з бальніцы, быў прызначаны загадчыкам фэрмы. Дык на першы тыдзень яму зноў якраз і пашэнціла зноў перажываць вострую боль ад нейчых нядобрых намераў.

Удваёх яны прыбеглі да Колера і ўжо ўсе разам пайшлі званіць у раён, каб прыслалі вэтэрынара. І тым днём парашылі ўзмацніць варту на фэрме. А насьценная газэта заклікала да пільнасьці і перасьцярогі ад хваробы, якая магла вымалаціць усю жыўнасьць сьвінарніку...

У сельсавеце бразнулі дзьверы і праз дашчаную сьцяну пачуў Колер, як цяжка затупаў у канцэлярыі Юрчык. Чуў яшчэ Колер, як прывітаўся ён з мужчынамі ў канцэлярыі і пасьля—крокі ў гэты пакой.

— Ну, вось і мы прыехалі з раёну,—сказаў Юрчык, цiснучы руку Колера.—Вынікі, браце, на ўсе сто процантаў!

Колер не міргануў вокам.

— Добрыя, ці дрэнныя?

— Адгадай.

— Добрыя. Дрэнныя.

Юрчык яго абсадзіў.

— Не! Ты ня выкручвайся: адно што кажы.

Цяпер Колер усьміхнуўся.

— Па табе відаць, што добрыя. Іначай бы ты мяне не валаводзіў. Ну, хваліся.

— То слухай. Першае—дастаў пяць скрынак...

— Цьвікоў?

— Ага. Другое—вэтэрынар сказаў, што сёньня і заўтра мы можам ставіць сьвіней без карантына, бо пасьля заўтра ён пачне рабіць супроцьчумную прышчэпку. Тады гэтай хваробы нашае фэрма баяцца ня будзе.

Ён засьмяяўся здаволенай радасьцю.

— Ты разумееш, якая справа: у аднаасобнай гаспадарцы і прышчэпка не забараняе, бо яе нельга праводзіць у тых умовах, якімі жывуць па аднаасобных хлявушках сьвіньні: гразь, цемната, недаедак, холад. Ды яшчэ жывёла дзе хоча, там і бадзяецца. А на фэрме гэтага няма. Калі і ёсьць, дык не павінна быць. Аказваецца, што перад прышчэпкай у кожнай сьвіньні вымяраецца тэмпэратура. Вымяраецца яна ў працэсе прышчэпкі і пасьля яе. А мінае два тыдні гэтых маніпуляцый і ўжо не пасьмее чума патрывожыць калгаснае стада. Вось! Адно—добра даглядай, пераганяй бульбу ды высеўкі на сала!

Ён падышоў да вакна. Ужо вячэрнія цені ўсталёўваліся, набухалі шэрым змрокам у пакоі. У канцэлярыі змаўкалі галасы людзей. Бразгалі дзьверы, выпушчаючы наведвальнікаў сельсавету. На дварэ грукалі тапары, зьвінелі пілы.

— Пойдзем да сьвінарнікаў,—устаў Колер.

Юрчык схамянуўся. Павярнуўся да Колера. У ваччу яго, заўважыў варашылавец, была многадумная глыбіня і бязконцныя клопаты.

— Гэта толькі пачатак,—пачуў Колер.—Апошнія месяцы працы, дні пералому нас шмат чаму навучылі. Поўнае скарыстаньне рабочай сілы, калі ніводзін чалавек не павінен гуляць, перагнала праз верх плянаў работу. А мы на той год пакажам яшчэ большае. Тры новых сьвінарнікі-матачнікі на сто клетак кожны, два адкормачнікі. Новая канюшня. Кароўнік. І ўжо ня 80, а 300 адкормленых сьвіней павінны здаць дзяржаве. Калі лічыць сярэднюю вагу сьвіней за 80 кілё, дык

ад усіх сьвіней—24 тысячы кілё. Памнож на 70 капеек і атрымаеш 16 тысяч 800 рублёў. Грошы на машыны, на разгортваньне гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Такі прамфінплян нашай фэрмы на 1932 год. Ён будзе выкананы.

Юрчык ступіў цяжкімі цьвёрдымі і ўпэўненымі крокамі да выхаду.

— Толькі пільнасьць патрэбна. Бо шмат каму наша работа—нож на горле.

— Што ты мне палітграмату чытаеш, мядзьведзь!—засьмяяўся Колер.—Ці ня разам плян складалі?

І пхнуў Юрчыка наперад.

На двары ўжо змрок. Насустрач ім ідзе чалавек. Прыпыняецца. Аглядваецца.

— Гэта ты Шагун—пытае Юрчык.

Шагун абзываецца таямнічым голасам.

— Я... Хочу з вамі пагаварыць.

— Валі.

Шагун яшчэ раз аглядваецца і падступіўшы бліжэй да Юрчыка і Колера шэпча:

— Сьцягняка зацёг пад сьвінарнік мусіць Зьмітровіч, брат таго, што з Гарнастаем забралі. Учора жонка з попрадак ішла, дык бачыла ўпоцемку, як ён, засопшыся, бег ад сьвінарніка. Яны нейкую хэўру вядуць: Баравік, Зьмітровіч і Вострык. Жонка Вострыка казала маёй бабе:

Ён аглядваецца зноў.

— Толькі-ж нікому не кажыце пра мае выведкі.

Але памаўчаўшы колькі часу, раптам выпростваецца. У голасе рашучасьць і агіда на праяўленьне спалоху:

— Халерая няхай іх возьме гэтых падрыўшчыкаў. Шкоду рабіць? Наводзіць чуму на статак? Да за гэтае-ж растраляць мала!..

І ўжо Колер папярэджвае:

— Цішэй, а то хто пачуе. І выйдзе драпежнік з нашых рук.

Шагун супакойваецца. Але ў горле ўсё яшчэ клякоча ад злосьці.

— Супакойся,—бярэ яго за рукаў Юрчык.—І глядзі, каб усё добра выходзіла. Калі што заўважыш—абмяркуем разам. Трэба падлавіць гэтую слату.

Ён цісьне сваею пяцернею за руку Шагуна так, што аж на месцы ня ўстоіць.

— Прыходзіць, браце, на сходы ячэйкі. Ясючэня і Чубік падалі ўжо заявы Раманчуку. Сітніка даўно кандыдатам зацьвердзілі.

Ён растваняецца ў цемені. Потым зноў выскаквае наперад.

— Забыўся што?

— Я пра сьвіней. Думаю яшчэ вяпручка, пудоў на шэсьць, заўтра прыгнаць. Сёньня сьвінаматку прытурыў. Дык у мяне яшчэ двое з кормнікам. Думаю прыгнаць... Больш на фэрме будзе.

Юрчык моўчкі трасе ято за руку. Потым крычыць Колеру:

— Во, браце, якія ў нас людзі! З такімі сьвет дагары нагамі можна перавярнуць! Сёньня прыгнаў сьвіньню і сёньня-ж на вяпрука дубец рыхтуе. Сваё для ўсіх аддае!

І задаволены да неабмежаванасьці, аж падскаквае, ідучы да сьвінарнікаў. Гулка грыміць пад яго важкімі крокамі змарожваная зямля. Маўклівай павагаю дрыжаць над галавою зеленаватыя зоры.

*(Канец будзе).*

**Ал. Жаўрук**

# Раньне краіны

Ўставай, маё слова—ідзі і жыві!...
Ўставай, чалавек творчай волі крыві!
Ўставай і выходзь ў гэты радасны час —
Высокай фанфарай гудок пракрычаў.
Над соньню падушак,
Бярэмамі сноў,
Чупрынай махні, ўскаламучанай зноў,
Каб з пругкасьцю цела дружыла вада —
Пад крант нахіліся, і сквапна абдай...

Трымцячай мэлёдыяй ўсходзіць зара,
Вірліваю стромай грукочыць гараж.
І зноў белазубы, на рэдкасьць, такі
Выводзіць „інтэры“ і „клейтракі“
Мой даўні гэрой,
Мой савецкі зямляк,
І гудам гудзе пад калёнай зямля.
На скотным двары, дзе высокі удой нам
Апалавай хваляй качаюць бідоны,
Каровы, свае рацыёны зжваўшы
Выходзяць на раньня-зялёную пашу,
І нюхаюць трактары кволасьць плям
Ружовыя, мокрыя пысы цалят...

Саўгаснае раньне палямі ідзе,
Ідзе, і спаткае насустрач людзей,
Дзе тукавых сеялак веянь зьвініць,
Дзе сьнежыць тарфянішчы сельвініт,
І пругкіх канопель тугое зярно
Зіяе адборнейшым бурштыном

А там, дзе рабочы ўстае гарадок —
Пахучымі кроквамі шастае дом
Па ліку — дванаццаты — цот у цот
Ў пярэклічах звонкіх сякер і хлапцоў.
Там заўтра на летах такіх-жа пахучых
Житомірскі шыфершчык рукі засучыць,
Каб—ў шахматы дах,
Каб сьцякала вада,
Каб песьня мая ня брыла наўздагад...

Так б‘ецца саўгас ўдарным штурмам брыгад,
Каб ўсталі ральлёй прагна ўзьнятыя га,
Каб ўстала пасевам адменным ральля,
Каб ў рост чалавека была канапля.
Каб строі жнеўярак плылі ды плылі,
Каб ў тахт малатарні гулі і гулі,
Каб плёнам удзячным за дні не на жарт
Устаў
Бальшавіцкі зусім ураджай...

А сонца ўсё вышай між сосен плыве,
А гуды калён, сельвініты, і верш,
І шыфр, і кроквы з пахучай смалой
Ўсё гэта ўваходзіць істотай жывой
Маленькай, чырвонай, надзейнай цаглінай
У вялікае раньне
Вялізнай краіны,
Ударнае раньне як сонечны шквал,
Дзе воляю б‘е бальшавіцкі накал.

Саўгас імя 10-ці годзьдзя БССР.

---

Кастусь Цыбуля.

# Акорды змаганьня.

Па каменьні коціцца ручэй,
Па каменьні серабром плюскоча...
Ядбівае неба-сінь вачэй
і купае месячык уночы.

Над вадою караваты стан
Нахіліў магутны дуб-старэча...—
Паглядае моўчкі за курган
І глыбока думае аб нечым.

За курганам поле-шырыня,
За курганам жытнія прасторы—
Там дзяўчына пасьвіла каня,
І тапіла ў далях вочы-зоры.

Змрок абрусам слаўся на палі
Вечар пырскаў чырваньню-крывёю...
Хмель вясны кілішкамі разьліў,
Дзень прылёг у жыце за мяжою.

І ў дзяўчыны дарагім вянком
Запляліся разважаньні-кветкі:
„Не адступім, скончым з кулаком,
Ябязьмежым родныя палеткі".

— Ну, скубі з расою,
Кося, мой сакóлік!
Заўтра нам чуць золак
Трэба да раёну.

— Трэ' аформіць справу,
Не здамо ў змаганьні...
Ужо блізка росквіт
Залатога раньня.

— Шмат гатуюць помсту
Шмат каму ня люба,—
Зьесьць жыўцом гатовы,
Ды паломяць зубы.

Конь маўкліва слухаў
Агняцьветы-словы.
Выткаўся ў дзяўчыны
Вобраз каляровы:

„Загудуць машыны
У полі кветарунным,
Засьпяваюць гімны
Майго сэрца струны".

Конь узьняў пужліва галаву,
Здрыгануўся, зашумела жыта...
І дзяўчына пала на траву,
На дыван зялёны, аксамітны.

Стрэл драпежны цемру абудзіў.
Адгукнуўся рэхам бор сасновы...
— Вось табе, галеча, калектыў,
Вось цяпер ты пажыві „па новаму".

* * *

Зьвяла ў полі ружа без пары,
Без пары асыпала пялёсткі...
І патухлі вочы-ліхтары,—
Прасьлязілась хатка ў канцы вёскі.

Дні-завеі... нясутрымны бег,
Дні струменяць,—узрастаюць вежы...
І пад сонцам тане стары сьнег,
Размывае дзедаўскія межы.

---

Пятро Глебка

# Э м а[1])

Тысяча дзевяцьсот...

Шмат прамінула год,
шмат уцякло вады,
шмат пастарэў малады,
стаў дзяцюком малы,
словам,
гады ішлі.

З імі расла ўгару
творчасьць мазольных рук,
з імі напорнасьць расла
вывесьці вёску на шлях
сьветлай калгаснай зары,
каб загулі трактары,
каб засьпявалі машыны,
каб над палеткам загінуў
сум непатрэбнай самоты,
смутак мізэрных клапотаў,
каб гадавалася радасьць
творчай працоўнай брыгадай.

І вось—
пяцігодкі крок,
першы яе гудок
кінуў над краем кліч
працаўнікоў зямлі:

— Сілай мільённых мас,
рушым у бой за калгас!

З краю—у край
наўсьцяж,
высячы ленінскі сьцяг,
працы вялікай люд
наступ павёў на зямлю,
наступ на ўласную кроў
і на старое нутро,
наступ апошняга рэйсу
на кулакоў азьвярэўшых.

[1]) гл. № 4

Бойкамі фронт гарэў,
значыць,
стаяў на дварэ

* * *

Тысяча дзевяцьсот
дваццаць дзевяты год.

Нудна старому ў хаце,
словам дакорным маці
боль нясьціханы варушыць:

— Бачыш,
мая дачушка,
ты адтаптала ногі,
ты абхадзіла дарогі,
ты абвадзіла межы,
чыстай вадою
сьвежай
ты „Маладуху" паіла,
ты „Маладуху" карміла,
цёмныя ночы ня спала,
ты нам яе гадавала.

Дык запытайся-ж,
дачушка,
хай,
тваю скаргу пачуўшы,
бацькава сэрца адкажа,
што ён,
пракляты,
наважыў.

Не!
мой ліхі і ня любы,
хай мяне возьме згуба,
хай я загіну ня ў час,
ведай адно,
што ў калгас
я не аддам каровы!..

Гэта апошняе слова.
— Добра!—
падняўся бацька:
—Зараз мы гэта пабачым,
я,
што наважыў,
зраблю,
хоць ты зубамі
грызі зямлю,
хоць на кавалкі парвіся!

Ён павярнуўся
і выйшаў.

Роўны,
шырокі сьлед
выслаўся з хаты ў хлеў.
Там на вяровачны повад
бацька узяў карову,
тушачы боль і скуруху,
вывеў на двор „Маладуху".

Маці за повад схапіла,
і не хапіла
сілы
вырваць яго з рукі...

— Татанька,
родны,
пакінь!—
Эма заплакала горна.

Рукі абмяклі,
пакорна
выпусьціў бацька повад.
Ціха стаяла карова,
вочы блішчэлі спакойна
болем людзкім няўгойным.

* „ *

Тысяча дзевяцьсот
дваццаць дзевяты год.
Вечар. Цішынь. Прадвесьне.

І раптам—
прыгожая песьня
магутнаю хваляю мора
узьнялася высока над горы,
пераплыла іх вяршыні
і спакойнай,
як шыр,
ручаінай
пацякла да вясковых хат.

Сёньня быў на палетках старт,
і калгасных аратых брыгада,
як людзкую
вялікую радасьць,
пасьля першай сырой баразны
везла песьню калгаснай вясны.

Песьня зноў
апаразіла сэрцы.

— Досыць мучыцца ў паняверцы!
Цэлы век я цярпеў пакуты
за няшчасны вось гэты закутак...
Але болей ня буду,
даволі!
Я ўжо бачу прасьвет і волю,
хай мяне яна
і не асьвеціць,
дык сустрэнуць яе
мае дзеці.

І на матчын дакорны погляд
бацька кінуў ад сэрца з болем:

— Хмур,
ня хмур
свае грозныя бровы—
я аддам у калгас карову:
я хачу быць з усімі,
разам,
разам з нашым калгасам.

Вось тады
і падняўся вораг:

— Хэ,
суседзе,
ніякага гора,
як відаць,
у жыцьці ня маеш,
што дабро за нішто збываеш.

У камуну,
вядома,
трэба,
але-ж можна туды і бяз хлеба:
ўсёадно
лысы чорт забярэ:
От вазьмі...
і паціху зарэж.

Цішыня
зазьвінела ў хаце.

— Што ты скажаш на гэта,
маці?
Не маўчы ты цяпер,
гавары!..

Раззлаваўся ізноў
стары.

— Ты-ж ня слухаеш маей гамонкі,
быццам я табе больш ня жонка,
і крычыш,
і зычыш,
і грозіш...
А на мой,
значыць,
бабскі розум,
калі нельга пражыць без калгасу,

дык,
вядома,
што лепей з мясам.

Скаланула дзяўчынку дрож—
бацька сьціснуў нэрвова нож
і крануўсяісьці да дзьвярэй.

— Супыніся!
Ты што,
азьвярэў?
Ты, відаць,
ня зусім здаровы...
Я ня дам на зарэз каровы!
Калі ты ўжо ня дужы і хілы,
калі ў сэрцы няма болей сілы—
дык я заўтра сама завяду
гадаванку маю ў чараду.

Задрыжэлі дзяўчыніны вусны
і павісла на момант вусьціш.
Посьле выпрастаў плечы стары
і спакойна ізноў ґаварыў:

— Ты адна,
дарагая дачушка,
маё гора вялікае чуеш,
ты адна не саступіш з дарогі,
дык вядзіш і мяне
старога.

* * *

Тысяча дзевяцьсот
трыццаць першы год.
Восень. Кастрычнік. Ноч.

Вецер шуміць ізноў,
вецер трывожыць сон,
бразгае ў шыбы вакон.
І...
прыпынілася сэрца

— Тупае нехта,
здаецца,
бродзіць, як вусьціш, ля хаты...
Можа на фэрме прыпадак?

Зьвяла напружнасьць рук,
думкі пабеглі угрунь:

— Летась спалілі гумно,
можа сяголета зноў...
новую нашу абору...
Хіба-ж урымсьціцца вораг?!

Хустку накінуўшы,
Эма
босая выбегла ў цемень.

Ціха навокала,
толькі
вецер халодны і золкі
сьвішча—шуміць аднастайна.

Воддаль чуваць каля стайні,
сон адганяючы ўпарты,
ходзіць калгасная варта.

Роўна забілася кроў,
дзеўчына сьцішыла крок,
вусны апырскаў сьмех:
— Мусіць мне сьнілася ў сьне.

Гэтак што ночы трывога
прыдзе,
стаіць ля парогу
з думак вялікім бярэмем,
будзіць турботамі Эму,
будзіць...
і не бяз прычыны:

Ёй,
маладой дзяўчыне,
фэрму даверыў калгас.
Помніць яна той наказ,
і гэту адказную справу
з гонарам зьдзейсьніць і славай,
дзень перамогай сустрэне
комсамолка, ударніца Эма.

* * *

Можа казкай цябе назавуць,
маладая мая поэма,
будзе слухаць гаворку тваю
гераіня—ударніца Эма.

Засьмяецца з выгадкі скутай,
а ці бровы нахмурыць сур'ёзна—
я пра лёс не гадаю твой,
бо і лёс надзвычайна розны.

Мы гаворым:
— Гамоняць палі
віратлівым прыбоем калгасным...
А нашчадкі запішуць калісь
нашы словы
як дзіўную казку.

Мы гаворым звычайна услых:
— Наступіла камуны прадвесьне...
З гэтых слоў,
як жыцьцё, дарагіх
зложаць некалі дзіўную песьню.

Рознастайны на колеры лёс,
але ўчуюць нашчадкі ў наступным
у дзіцячых усьмешках да сьлёз
крокі нашай эпохі чыгуннай.

Бо мы гневам змаганьня гарым,
сілай мужнай ударнай дэкады,
а усьмешкай вясновай зары
усьміхаецца нашая радасьць.

Няхай казкай цябе назавуць,
маладая мая поэма,
разьвінуў я аснову тваю,
каб у песьнях уславілі Эму.

1930—1931 г.

---

Міхась Багун

# Вораг у доме

## Апавяданьне

### 1

Сапраўды разышоўся Ціхон толькі тады, калі ўбачыў, што шырокая Сяргеева сьпіна, пракалыхаўшыся пад вокнамі, растала ў вячэрнім сузмроку вуліцы.

— Галавой налажы! Ты мяне гэтым не застрашыш!—з наўмеснай абыякавасьцю Ціхон плюнуў сабе пад ногі і ботам размазаў сьліну па бруднай падлозе.—Падумаеш! Выганіць з калгасу—знайшоў чым страшыць! Бяз вас жылі і жыць будзем.

—Чаму агонь ня паліш?—раптам ускіпеўшы, накінуўся ён на непавінную ні ў чым жонку, якая длубалася нешта каля печы па сваёй бабскай справе.—Усё вас вучыць трэба... Вам толькі кроў каб з мяне ссаць, жылачкі ўсе выкручваць.—І Ціхон, яшчэ раз энэргічна плюнуўшы, зьезьдзіў ботам па ўслончыку, што бяз ладу стаяў сярод хаты—услончык жаласна крэкнуў і заціх, стукнуўшыся бокам аб сьценку.

Каля печы ў калысцы прарэзьліва загаласіла дзіцянё. Вялікі шэры кот каменем бранзуўся з печы на падлогу і, палахліва аглядаючыся на разьятранага гаспадара, зьнік у падпечку.

Ціхонава жонка—Анэта—высокая кашчавая жанчына—адышлася ад печы, узяла на рукі дзіця, расшпіліла кофту і, кармячы яго спакойна—ёй усёроўна, яна пасьпела прызвычаіцца да Ціхонавых выкрунтусаў, дваццаць год жывучы з ім—аднатонна загаварыла:

— Чаго цябе сёньня нячыстая забірае? Ні ўдзень, ні ўночы спакою ад цябе няма, сатана ты. Як яго ў хаце няма, дык і ціха тады толькі. Зьявіцца, вэрлаху наробіць, такі гвалт падыме, што пасьля аж на людзі сорам паказацца. Усе людзі—як людзі, а ён дык чорт яго ведае... Каб ты ўжо, даў бог, галаву сваю дурную зламаў дзе!

Суцішаючы дзіця і разьмерана хістаючыся ўзад і ўперад, яна гаварыла, здавалася, бяз усякай злосьці. Як кроплі пасьля дажджу, зьбягаючы са страхі, чпякаюць аб набраклую вільготную зямлю, так яе словы павольна зьбягалі з языка і надакучліва дзяўблі Ціхонаву галаву.

Ціхон, зьбіты з толку нечаканым супорам заўсёды ціхай, маўклівай Анэты, зьмяніў тактыку. Для прыліку, каб здача пазыцый ня была занадта рэзкай, ён прабурчэў нешта, зразумелае хіба толькі яму самому, з грукатам адсунуў стол ад лавы, сеў на покуце і, з наўмыснай спакойнасьцю, гледзячы ў мутную шыбіну вакна, кінуў да жонкі:

— Ну! можа-б ужо досі было? Няхай-бы зьесьці што-якое дала...

Анэта нічога не адказала.

Просячыся на двор, пад дзьвярыма жаласна яўкнуў кот. Недзе ў сенцах трывожна аказаўся певень.

— Анэта! Да каго я кажу?—ня вытрымаўшы спакойнага тону, узьняў голас Ціхон.—Ці чуеш?

— Ня глухая! агрызнулася Анэта, адчыпіся ты ад мае галавы—дай во дзіця накарміць.

— Чэрці яго ня возьмуць, тваё дзіця! Я ў млыне цалюткі дзень гараваў, а яна мне—дзіця! Давай есьці, кажу!

— Ня здохнеш,—спакойна адказвала Анэта.—Накармлю, пакладу спаць—тады. Сам вінаваты: няхай-бы прышоў, як чалавек, а ён—як той зьвер... З Сяргеем счапіўся, услон паламаў, дзіця перапудзіў... Хату яшчэ дагары нагамі як не перавярнуў... У-у, д'ябал руды!—ужо не хаваючы нянавісьці, скончыла яна.—Пагібелі на цябе ніякай няма...

Гэта для Ціхона было ўжо занадта. Ён зачырванеўся, ня ўцерпеў—ляснуў кулаком па стале, аж рука зашчымела, яшчэ больш ад гэтага ўзлаваўся, схапіўся аберуч за галаву, затупаў нагамі па падлозе, уюном закруціўся па хаце.

— А-а-а! скуголіў ён, лётаючы па хаце, зьдзіраючы са сьцен малюнкі, паліцы, фіранкі і бразгаючы ўсё гэта аб падлогу. А-а-а! І т-ты!.. І ты з імі!.. Сволачы!.. Кроў маю выссалі!.. Кроў маю...—выліваў ён у гістэрычным крыку багаты запас нянавісьці, назьбіранай за апошні час.—Не! ня будзе! Ня будзе! На, во! На!—кінуў ён Анэце ў твар зьдзёрты са стала і скамечаны абрус.—На! Задушыся з імі разам!

Гукнуўшы яшчэ колькі абразьлівых словаў, ён разануў нагою пад жывот ката—кот дзіка заенчыў, сыкнуў і зашыўся ў цёмны куток пад ложкам—накінуў на плечы кажушок, хапіў у рукі шапку і, гулка бразнуўшы дзьвярыма, выбег з хаты.

## 2

Дожджык перасьціх.

Промень месяца прабіўся праз сівую воўну хмар. Заіскрыўся зрачкамі на мокрых шыбах вакна.

На падлозе—ад вакна да супроцьлеглай сьцяны—легла ясная месячная сьцежка, разрэзаная надвая мутнай нявыразнай рысай—ценем ад ваконнае рамы. Цьмяныя абрасы стала, ложку, палатак—змутнелі, адхіснуліся ад сьветлай сьцежкі, расплыліся ў густым чорным мораку.

Цішыня.

Кажуць, цішыня супакойвае.

Ня верце. Калі на сэрцы спакойна, тады ўсё супаковае. Калі на сэрцы спакойна, тады ў цішыні прыходзіць сон. А калі згрызоты разьядаюць сэрца, трывожныя думы варочаюцца ў галаве—цішыня не супакоіць. Нават больш прастору будзе трывозе—шырока размахне яна чорнае крыльле, падхопіць на ім сэрца, закруціць—і пусьціць каціцца па вузкай сьцежцы чалавечых думак—праз карчы падазрэньняў, па выбоінах меркаваньняў... Думу дадумаць цяжка ў цішыні. Асабліва—думу трывожную. Зьнясіленая неспакойнымі ўзьлётамі,

стомленая тузаньнем на ланцугу падсьвядомага—пойдзе яна і пойдзе сабе, як жабрак па дарогах, і ня ведаеш, дзе яна, твая дума, спыніцца, дзе ёй канец прыдзе...

Але канец ёсьць на ўсё.

Вецер нагнаў хмару. Зьнік месячны промень. Згасьлі на шкле іскрынкі халодных зорак. Сьцямнела, зьбегла з падлогі ясная месячная сьцежка. А цішыню перарэзаў нездаволены, сонны голас:

— Сяргей! Клаўся-б ты ўжо няхай... Ссох вунь увесь на трэску... як той шкілет стаў...

Абыякава рыпіць ложак—Сяргеева жонка перакручваецца на другі бок. У ночнай пругкай цішыні зноў выразна чуецца яе роўнае, спакойнае дыханьне. Сьпіць.

Сяргей пакорліва кладзецца каля яе, нацягвае на галаву цяжкую калянную коўдру—спадзяецца заснуць у цяплыні. Але пад коўдрай яму робіцца душна, горача, а сон усё ня прыходзіць. Тады Сяргей сьцягвае коўдру з галавы, падымае цяжкія ад бясоньня павекі, праз густы морак углядаецца ў нябачную столь і зноў думае, думае...

Цішыня...

Кажуць, цішыня супакойвае...

Недзе на вакне, б'ючыся галавою аб шкло, нудна гудзе запозьненая восенская муха. Ад гэтага нуднага аднатоннага гуду ў Сяргея зьяўляецца раптоўны страх: „Цішэй"!.. От, праклятая... жонку пабудзіць зараз...

А муха гудзе, гудзе...

Сяргею пачынае здавацца, што гэта ўжо ня муха гудзе, а яго ўласнае сэрца... Асьвядомлены страх пабудзіць жонку раптам трансфармуецца ў злосьць. Нячутна варушачы ў мяккім сузмроку губамі, Сяргей шэпча:

— Сьпіць... храпе, як тая кабыла... Тут няма ведама што каб зрабілася—ёй усё дармо... А які тут сон можа быць, калі ў гаспадарцы нядобвае творыцца?.. Ой, нядобрае робіцца, дужа нядобрае...

І думка чапляецца за думку, бягуць як бясконцы, невясёлы ланцуг.

... Народ цягне куды-каторы. Кожны глядзіць, каб як сабе што ўрваць, а пра агульнае ніхто ня дбае... Сеяць азіміну трэба, тут з адзінаццаці коняй учора толькі шэсьць у поле вышлі: двое хворыя ў стайні стаяць, на чорнай кабыле Кузьма Галавень у Загор'е да сваякоў на ўвесь дзень зьехаў, пару Ціхон у млын забраў. Але то сволачы!—што хочуць, тое і робяць. І што ты ім ні гавары,—як паленам па вадзе: у праўленьні зачэпку моцную маюць—Аўгей-жа свой чалавечак ім...

І Сяргей сьціскае рукі ў кулакі, скрыгае зубамі, варочаецца на ложку.

Густой плоймай думкі з усіх бакоў аблепліваюць Сяргея, колюць пякучымі джгаламі, аж горача робіцца, аж сэрца заходзіцца ў дзікім нясутрымным бегу...

... А што скажуць у ячэйцы, калі гаспадарка затрашчыць на ўсе швы, замест таго, каб мацнець, абрастаць здаровым людзкім касьцяком?

... А што скажуць у сельсавеце, калі даведаюцца, што бедната зьбіраецца ўцякаць з гаспадаркі?

— Ты,—скажуць у ячэйцы,—Сяргей вінаваты. Ты не дагледзеў, ты дазволіў ворагу расхістаць падмурак гаспадаркі!

— Ты,—скажуць у сельсавеце,—Сяргей вінаваты. Дрэнны быў з цябе старшыня, калі ты ня здолеў ачысьціць гаспадарку ад шкоднага сьмецьця, дазволіў, каб гэтае сьмецьце напаскудзіла табе!

— Так-так-так-так! Так-так-так-так!—б'ецца ў грудзях Сяргеева сэрца, гоніць па жылах гарачую, гулкую кроў... Варочаецца Сяргей на цьвярдым ложку. Ня сьпіць. Ужо і днець пачало ў вакне. Ужо і пеўні раньнія ці цеперся адсьпявалі...

Ціха, затойваючы дух, каб не пабудзіць жонку, падымаецца Сяргей з ложка, апранаецца і выходзіць на двор.

Учуўшы лёгкі скрып дзьвераў, у стайні трывожна заірзаў малады жарабок. Недзе ў хляўчуку бязладна забляялі авечкі.

На дворы сьцюдзенавата. Стыне зямля з надыходам першых лёгкіх халадкоў і падымаецца над ёй цяжкая, як волава, сівая пара. Над далёкімі балатамі паволі сунуцца сінявыя палотны тумано̂ў...

На ўсход, недзе далёка за туманамі, разгараецца вялізнае вогнішча. Пырскі барвянай крыві разьлятаюцца па небе. Займаюцца полымем лёгкія абрыўкі яшчэ цёмных зьнізу хмар. Гэта ўздымаецца сонца.

Грудзі Сяргея прагавіта ўбіраюць крамянае чыстае паветра. Расьце ў грудзях маладая буяная сіла. І з гэтай сілай цяжка спрачацца: возьме, ашчаперыць аберуч, бразьне вобземлю—пачуеш сілу... І разам з сілай зьяўляецца рашучасьць.

Над пажоўклым гаем з трывожным крыкам кружацца плоймы гарластых варон. Сяргей успамінае бяссонную ноч, усьміхаючыся, глядзіць на варон, ямчэй захінаецца ў старэнькі палатны кажушок.

— Разьлёталіся, сьцервы... Восень пачулі...

У стайні ціха рыпнулі дзьверы. Сяргей павярнуў галаву і пачаў пільна ўглядацца ў сузмрок павеці. І яму здалося, што за частаколам павеці мільганулі і зьніклі за хлевам дзьве нявыразныя постаці.

### 3

Мажны чалавек стары Сапрон.

Летась, казалі, семдзесят тры гады яму было, а што ён перад Сёмухай у полі даказваў.

Пасьвіў суседзкі пастушок скаціну на папары, што пад бярэзьнікам столаўскім і быў у яго ў статку куплёны селавы бугай. Здаровы бугай! Шыя адна—што шуло тое... Вочы як вылупіць, як гляне—шорахна робіцца: дужа-ж ён ужо дзікі з выгляду быў...

Дык во як яно было.

Выбраўся Сапрон пад Сёмуху ў бярэзьнік па зяленіва—правільны стары: сьвятаў пільнуецца... Прыбраўся ён, як мае быць, кашулю надзеў чырвоную ў жоўценькія зорачкі, ножык складаны ў кішэню паклаў і пайшоў сабе. Пачаў ён папар пераходзіць—тут бугай гэты, ліха яму, і згледзеў яго. Чырвонае, бач ты. Скасурыўся бугай, раўнуў, быццам гром, па зямлі гуд пайшоў, капянуў зямлю нагамі—ды на ста-

рога. Пастушок гвалт справіў, вядома,—дзіця яшчэ. Кінуўся з крыкам у Столава:

— Дзядзечкі, ратуйце; чалавека бугай абломіць! Сапрона старога заб'ець!

Людзі—на папар. Выбегалі, бачаць здалёк—бугай ляжыць і каля яго чырвонае. Ну, думалі, канцы старому. Але чаму-ж бугай лёг?

Прыбеглі на месца, ажно Сапрон сядзіць ды лапаць новы пераборсвае.

— Ліха яму, абора парвалася—заблытаўся ў ёй, а так я-б яго—у момант.

Зірнулі мы на бугая, а ў яго—шыя на бок і вочы наверх папавылезьлі... Во як!

Во які чалавек стары Сапрон!

Дармо, што сьмяюцца з яго, быццам нядужы ён, над бабай верху ўзяць ня можа: штогод у яго, даўней, дачка, а сына ніводнага... гэта дармо... Ого, Сапрон! Калі на патрэбу, дык ён пяцёх мужыкоў абложыць, а на цяперашні сьвет—дзесяць давай, ды і то мала.

Во які чалавек стары Сапрон!

Было ў яго восем дачок і ніводнага сына. Злаваў ён за гэта на сваю бабу.

— І што ты хлапца мне ніяк ня ўладзіш? Падмога была-б пад старасьць...

У Ксені—жонкі ягонай—сьлёзы па вачох блішчэлі.

— А хіба я вінавата? Бог не дае—дык і няма.

— Бог, бог...—нездаволена бурчэў Сапрон і выходзіў на двор, пачынаў длубацца каля якой гаспадарчай дробязі.

Так і не давялося яму сына прычакаць. А з дачок толк невялікі быў: чацьвёра малыя яшчэ былі—памерлі, трох людзі замуж узялі—блізкі сьвет—за тры дні не даедзеш. Асталася з Сапронам сярэдняя—Анэта. Урэшце і тая вышла замуж, але вышла ў сваіх краёх: за хутарскога Ціхона. Думаў Сапрон аджыве на старасьці каля багатага заця, але дзе там—той даўней і на парог пушчаў ды аглядаўся: каб ня сьцёг хаця чаго стары. А Сапрону гэта нават і падабалася:

— Гаспадарны мужык,—думаў,—у гэтага трэска марна ня згіне...

І толькі калі з калгасамі гэтымі калатня пайшла—памякчэў Ціхон да сьвёкара. Цялушку на гадоўлю аддаў яму, а за гэта пуды са тры збожжа адсыпаў. А цяпер во і карову хоча з калгасу забраць ды Сапрону аддаць.

— Я, кажа, чалавек памяркоўны: хачу, кажа, каб ты, бацька, хоць на старасьці гадоў, ды салодкага паспытаў.

Таму і павесялеў Сапрон апошнім часам, і нават на сьвет пазіраць пачаў весялей. Дзе-ж! Які чалавек, даўней, першы чалавек у ваколіцы, бацькам зваць пачаў!..

Ды і цяперашняе начальства колгаснае—Аўгей Карабан—таксама заглядаць пачаў у Сапранаву хату.

Ціхон прыдзе пасядзець, пагаманіць, глядзіш, і Аўгей зьяўляецца зараз-жа. І сядзяць удвох яны, гутараць памаленку, а каля іх і Сапрон трэцца—разумнае ўчуць кожнаму ў ахвоту.

Во й сёньня прышоў Аўгей увечары, прывітаўся, сеў на покуце і пачаў распытваць Сапрона, як ды што. Гаварыў пра тое, што быццам вайна будзе і нямаведама што яшчэ з колгасаў выдзе... Шапнуў на вуха, што—усе можа быць, можа стацца, што маёмасьць уласьць сабе пазабірае, а народ—і старых і малых—у Кітай пагоніць: акопы капаць. Шапнуў старому гэткае ды і супуціўся:

— Ты, дзедка, глядзі, ня зьвягай нікому: дрэннае можа выйсьці з гэткай гаворкі.. Мне дык—дармо: я свой чалавек у вялікага начальства, а табе блага можа быць, калі скажаш каму...

Пазяхнуў з падробленай абыякавасьцю, зірнуў, праз вакно ў цёмную вечаровую вуліцу і нібы зьбіраючыся ісьці, між-іншым, спытаў:

— А Ціхон ня прыходзіў шчэ?

— Не-а, ня было, — з гатоўнасьцю адказаў Аўгею Сапрон.— Ня было нешта...—Заклопачана матнуў чатырохкантовай галовай, уздыхнуў, і крыху счакаўшы, дадаў:—А зьвягаць—мне які інтэрас? Няцікава мне, старому, за даўгі язык у пакуту папасьці... Ды вы пасядзелі-б: пэўне, прыдзе зараз... Ён, бачыў я, з гадзіну, як з млыну прыехаў.

— А-а, тады пачакаем,—і, расьсеўшыся на ўсю шырыню лаўкі, Аўгей дастаў з кішэні пушачку гарадзкіх папярос і закурыў.—На, дзед,—падаў ён адну зламаную каля мундштука папяросу Сапрону,— закуры, можа зьлечыш як-небудзь...

Глыбока зацягнуўся сьмярдзючым і ўедлівым дымам, а тады дадаў:—Запазьніўся ён нешта сёньнячы... А нам з ім справу важную вырашыць трэба... Пэўне, і ты, дзедка, сёньня нам патрэбен будзеш...

У сенцах ляпнула іржавая клямка. Затупалі цяжкія боты. У хату ўвайшоў Ціхон. Увайшоў, зірнуў на Аўгея, тады—на старога, а тады зноў на Аўгея. Нешта вымеркаваў і ляснуў кароткай дубаватай рукой па сухой, кашчавай Сапронавай сьпіне.

— Ідзі, бацка, да Анэты, скажы там, што я казаў, каб адсыпала табе мукі пуд які—у цябе-ж туга, пэўне, з хлебам...

Сапрон зразумеў, што прыяцелі хочуць астацца адны, нізка ўкланіўся Ціхону, узяў з печы торбачку і вышаў з хаты.

На вуліцы густой чорнай сажаю асядала на зямлю ноч.

4

Выглянуў з-за лесу і асьцярожна пасунуўся на небе, забіраючыся ў ясную сінюю глыб, бліскучы залатаногі павук—сонца.

Весела блішчыць залацістая салома жыта, складзенага пры току ў тры вялізарных тарпы. Дзень удаўся для малацьбы—лепшага ня трэба—яркі, крамяны.

Сяргей зранку корпаўся каля малатарні. Рупліва, як доктар уласнае дзіця, аглядаў і выстукваў малатком кожную шрубу, кожную мутэрку. Стукаў малатком, падкручваў францускім ключом, падмазваў алівай. Агледзеўшы малатарню, ён перайшоў у манеж і, праверыўшы, ці добра пастаўлены пас, задаволена выпрастаў плечы.

— Здаецца ўсё—аглядаючыся навакол, сам сябе спытаў ён чамусьці ўсмыхнуўся і, падумаўшы:—„Што-ж яны, чэрці, коняй не вядуць?“—гукнуў:

—О-э-й! Давай коні! Коні давай!

З двара ніхто не аказаўся.

— Што ім за ліха?—Сяргей нахмурыўся, дакляруючы „ўзгрэць“ Васіля Ясецкага, які павінен быў сёньня паганяць коняй у манежы.

З двара, насустрач Сяргею выбег, бліскаючы на сонцы голымі лыткамі, хлапчук. Убачыўшы Сяргея, ён яшчэ за добрыя гоні ад яго пачаў крычэць:

— Дзядзька Сяргей... коні... прысядацеля, кажуць,—засопшыся ад хуткага бегу выкрыкваў ён.

— Ну, што там яшчэ? Уладзік! Ды кажы ты толкам—што коні?—узлаваўся Сяргей і адчуў, як з яго адразу саскочыў добры настрой, з якім ён праз усё раньне працаваў каля малатарні, рыхтуючы яе да работы.—Што там з коньмі?

— Кульгае Ціхонаў жарабок... А салдатава... Ясюкова... не ўстае...

Уладзік, намагаючыся не адставаць ад Сяргея, ляцеў побач з ім, увесь чырвоны ад бегу і ад жаданьня першым расказаць Сяргею пра няшчасьце з коньмі.

— Галаву... галаву на бок,—лепятаў ён, забягаючы наперад і радасна заглядаючы Сяргею ў твар.—Не паверне... зусім не паверне...

— Хто?—уваходзячы на двор, мэханічна спытаў Сяргей і, не чакаючы на адказ, кінуўся пад стайню, дзе цесным гуртком, абружыўшы сівога Ціхонавага жарабка, стаялі калгасьнікі і гулка разьлягаліся па двары злосныя выкрыкі, абураная гамонка.

— Нагаспадарылі?—насеў Ціхон на Сяргея, як толькі ён падышоў пад стайню.—Што цяпер скажаш? Цяпер што скажаш?—круціўся ён каля Сяргея, бліскаючы маленькімі цёмнымі вочкамі.—Цяпер што скажаш? Што-ж ты маўчыш? Ты-ж—гаспадар? Гаспадар-жа-ж ты! А жарабка я не дарую! Не-е! Мы яшчэ судзіцца будзем за жарабка... За жарабка й парток вашых ня хопіць...—І пабег у стайню.

У стайні было цёмна. Каля ўзбочнай сьцяны, на зьмятай мокрай саломе, ляжала нейкая цёмная пляма. Падышоўшы, Сяргей убачыў жарабка.

Ён ляжаў на зямлі, паглядаў на людзей, што стаялі каля яго і раз-по-раз жаласна ірзаў, стрыгучы тонкімі нэрвовымі вушамі. У другім кутку, галавой да жарабка, стаяла белая кабыла. Галава яе, ненатуральна прыгнутая да пярэдніх ног, нагадвала доўгі, з абодвых бакоў сплюшчаны сыр. Зялёным бляскам адсьвечвалі ў мораку паўкруглыя вочы кабылы.

— Ну?—уедліва спытаўся Ціхон.—Нагледзеліся, шаноўны гаспадару? Нацешыліся з свае работкі.

— Што?—грозна падаўся да яго Сяргей.—Што? З свае работкі? Можа з твае хіба? У-ух, сволач!—і моцна сьціснуліся Сяргеевы кулакі і чутно было ў цішыні, як скрыпнулі Сяргеевы зубы.

А ў памяці Сяргеевай раптам з надзвычайнай выразнасьцю паўстаў малюнак—

раніца пасьля бяссоннай пакутнай ночы, стаі крыклівых варон у перадвосенскім небе і дзьве нявыразныя постаці за рэдкім частаколам павеці...

Ціхон, спалоханы нечаканым выбухам злосьці ў Сяргея, зьнік за сьпінамі прысутных.

— Праўда, што сволач!—гукнуў яму ўсьлед Якім Андрэйчык.—А сам ты што—не гаспадар? Ну, некалі мы да вас дойдзем! А цяпер,—

павярнуўся ён да Сяргея,—марудзіць няма чаго: трэба запрэгчы, ды гнаць у Столава, у саўгас, па хвэльчара. Гаворкамі рады не дасі коням.

Сяргей прабег вачыма па прысутных і спыніўся на высокай, згорбленай постаці.

— Дзядзька Мікіта...

— Га? Што, браток?—азвалася постаць.

— Запражы ты мышастага Хвядосавага ды зьезьдзі ў Столава— няхай хвэльчара дадуць...

— Добра. У момант,—ахвотна згадзіўся Мікіта і на хвіліну супуціўся:—толькі... толькі лепш, каб мышастага пакінуць... малаціць... а ўзяць жаробку Аўгееву... Яна маладая—у дышалі цяжэй ісьці будзе...

— Жаробку? Бяры жаробку,—згадзіўся Сяргей.—Толькі хутчэй каб... Ну, а мы, таварышы, пайшлі на ток—малаціць будзем,— заграб ён прысутных распасьцёртымі рукамі і пагнаў іх са стайні.—Пры конях толькі дзяжурнага пакінуць трэба...

——

Ля малатарні гуд і гоман.

Дружна, навыперадкі, працуе брыгада малацьбітоў. Двое здаровых маладых хлапцоў.—Якім Андрэйчык, дэмобілізаваны чырвонаармеец і Сьцяпан Сярмяга, Сяргееў пляменьнік,—віламі скідаюць снапы з торпу. Смуглявыя твары хлапцоў расчырванеліся. Блішчаць вочы. Малодшы за Якіма Сьцяпан пільна сочыць за таварышом— баіцца, каб не адстаць ад яго. І люба глядзець, як узьлятае ўгару падчэплены пад перавясла сноп, узмахвае залацістым хвастом калосься і ляціць уніз вялікай і цяжкой жоўтай птушкай.

Унізе жанчыны разьвязваюць тугія перавяслы—і сноп пераходзіць далей—да падавальніка.

Падае ў машыну Сяргей. Сноп за снопам выплывае з яго рук і зьнікае ў гулкай, прагавітай пашчы машыны. Б'е ў твар рэдкі залацісты дождж жытнёвага зерня, і таму Сяргеевая галава адкінулася крышку ў бок, а вочы заклапочана прыжмурыліся.

Дружна ідзе работа. Сонца яшчэ не ўспаўзло на вяршаліну прысадзістай карчакаватай елкі, што стаіць на варце каля манежу, а аднаго торпу ўжо няма. На яго месцы вырасла шасткая гара саломы, паламанае, патрушчанае жалезнымі шчэлепамі машыны. Гурба мякіны курыць пылам каля малатарні. Рыпаюць за бярвенчастай сьцяной цяжкія драўляныя дышалі, цяжка круціцца ў манежы вялізарнае мудрагельнае кола.

Дружна ідзе работа. Гэтак дружна, што нават на Сяргеевым ільбе пачынаюць разгладжвацца глыбокія хмурыя маршчакі:—„Справы ўвечары вырашым, а цяпер—праца“.

І, выкарыстоўваючы момант, калі падавалкі крышку замурадзілі з чарговым снапом, Сяргей, амаль весела, праз грукат і пыл малатарні, крычыць да Якіма:

— Эгэй! Калі гэтак увесь час пойдзе—да заўтрашняга вечару чыста будзе!..

Але Якім не пачуў і замест яго Сяргею адказвае падавалка Арына.

— А ўжо-ж—усьміхаецца яна.—А ўжо-ж: да заўтрага чыста будзе!—і, сагнуўшыся, яшчэ спрытней пачынае чарахаць сярпом па залацістых тугіх перавяслах.

І раптам машына пачала даваць перабоі, захрыпела, пару разоў здрыганулася—і стала.

— Што там?

— Што здарылася?

— Чаму коні спыніў?—На розныя галасы паляцелі ў манеж пытаньні.

З манежу даляцела злосная глухая лаянка, і ўзрушаны малады голас паганятага Васіля, які намагаўся ў нечым апраўдацца.

— Я табе, сукін ты сын, галаву адкручу разам і з прысядацелем тваім! Вы мне тут не закон... вашую маць!

Сяргей, а за ім і ўсе астатнія малацьбіты, кінуліся у манеж.

У манежы Хвядос Качан, высокі руды з твару мужык, лаючыся, выпрагаў з дышалю невялікага мышастага коніка.

— Чаму Ціхонаў жарабок стаіць, гады вы!? Ясюковую кабылу ўжо ўходалі, ды і майго хочаце?!—разьюшана роў Хвядос.—Трасцу! Ня дам! Халерыі няма на вашую галаву! Гаспада-ары!—кпліва крычэў ён і грэбліва плёваў сабе пад ногі.—Басатэрыя няшчасная!..

Сяргей чырвоны ад абурэньня, стрымліваючы ўнутраную нэрвовую дрыготку, падышоў да Хвядосавага каня і моцна ўзяў яго за аброць.

— Таварыш Качан супакойся. Ціхонаў жарабок і Ясюковая кабыла хворыя, таму яны і стаяць у стайні. Чаму яны хворыя—гэта мы выявім сёньня ўвечары на сходзе, а гэты конь ня твой, а колектыўны і мы ведаем што робім.—І Сяргей пачаў зноў запрагаць каня.

Хвядос аж рот разявіў з неспадзяваньня. Зачырванеўся, як печаны рак. Падскочыў да Сяргея.

— Пусьці-і!..

Сяргей спакойна запрагаў каня.

Хвядос абвёў прысутных ачмурэлымі ад злосьці вачыма і, нечакана для ўсіх, схапіў ў рукі цясьлярскую сякеру, што тырчэла ў сьцяне манежу, глыбока ўсаджаная ў дрэва адным канцом бліскучага шырокага ляза.

— А-а!—выкрыкнуў ён.—Дык ты гэтак!—І кінуўся да Сяргея, замахнуў сякеру над галавой.

Дужыя рукі ашчапілі яго ззаду за плечы.

— Ты што, Хвядос? Пусьці! Ну! Пусьці сякеру! Пусьці, бо...

Сякера дзынкнула аб каменчык, вываліўшыся з Хвядосавай рукі, сьціснутай дужымі пальцамі Якіма.

А Якім, прытрымліваючы Хвядоса за руку і ўжо ўсьміхаючыся, спакойна гаварыў:

— Ну? Палягчэла на сэрцы? Адышло? Дык ідзі цяпер дамоў. Ідзі, ды скажы таму, хто цябе пад'юдзіў, што дарэмна нэрвы псуе людзям і сабе. А яны яму хутка патрэбны будуць. Ідзі. Чуеш?—і лёганька папхнуўшы Хвядоса каленам пад зад, Якім выправіў яго з манежу.

А сонца ўзьлезла на іглястую вяршаліну карчакаватае елкі і хітра ўсьміхалася адтуль, заглядаючы ў манеж праз дзіркі ў саламянай страсе.

Сход меў сабрацца на вольным паветры, пад круглагаловымі жоўтымі ліпамі, каля старадаўнай капліцы, апошнім часам пераробленай пад школу...

... Капліцу гэтую,—цяцер абымшэлую, пасівелую,—колькі дзесяткаў год назад збудаваў мясцовы пан—палкоўнік Ванькові. Калі-б зьняць з гэтае каплічкі—няўклюднай, высокай і доўгай—жалезны, мудрагельна выгнуты крыж,—яе цяжка было-б адрозьніць ад местачковай сынагогі або ад занядбанай, невясёлай карчмы на віхлястым беларускім гасьцінцы.

Дзеці мясцовыя ў школу не хадзілі—ня было каму вучыць іх: РайАНА абяцаў прыслаць настаўніка, але настаўнікі—дэфіцытная катэгорыя людзей і РайАНА не знайшоў для новай школы нікога, хто мог-бы сыйсьці за настаўніка. Пустое памяшканьне выкарыстаў калгас пад канцылярыю і іншыя свае ўстановы.

Пра тое, што сёньня будзе агульны сход колгасьнікаў, ведалі ўсе. Але ўсё-ж сакратар сельсавецкай парт'ячэйкі—Шчэцька, які зьявіўся для ўдзелу ў сходзе разам з рабочым-брыгадзірам Янушкевічам, параіў Сяргею яшчэ раз апавясьціць пра сход.

— Ды жанчыны, жанчыны трэба, каб не сядзелі па хатах, трэба, каб як адна папрыходзілі,—гаварыў Шчэцька, седзячы ў былой капліцы і гледзячы ў вакно стомленымі, чырвонымі вачыма.

— Жанчына яна—многа значыць,—аўтарытэтна падтрымліваў Шчэцьку Янушкевіч.—Во, калі ў Ствольне быў сход...

Скончыць яму не ўдалося. Яго гаворку перапыніў Сяргей, стукнуўшы ў вакно кулаком.

— Уладзік! Уладзік!—крыкнуў ён у вакно.

— Ну? Што?—вырасла пад вакном кучаравая капа бялявых валасоў. З-пад валасоў, хітра ўсьміхаючыся, блішчэла пара сьветлых уладзікавых вачэй.—Што? Кажы хутчэй... няма калі мне...

— Прабяжыся, браток, стукні ў вокны, каб ішлі ўжо... Будзем пачынаць... Ды кабет запрашай...

Уладзік заклапочана прыцмокнуў языком, зрабіў сур'ёзны твар, нібы мяркуючы, ці ісьці яму выканаць сяргееву просьбу, ці бегчы па сваёй, больш пільнай справе.

— А што дасі? спытаў ён нарэшце ў Сяргея.—Паперы дасі?

— Дам, дам... Бяжы толькі хутчэй...

— Цяпер давай,—настойліва матнуў галавой Уладзік і, глянуўшы на Сяргея, недаверліва ўсьміхнуўся: „Зьбегаеш табе, а тады скажаш—няма... Ведаем вас“...

— На, чарцянё, бяжы толькі,—высунуў яму Сяргей праз фортку два лісткі, выдранай са сшытка паперы.—На, ды бяжы...

— Малавата—скрывіўся Уладзік, хаваючы паперу за пазуху—малавата даеш, скнара ты...

— Бяжы—тады яшчэ гэтулькі дам,—паабяцаў Сергей. Усім пастукай.

Кучаравая Уладзікава галава зьнікла за вакном.

— Навошта яна жабяняці гэткаму?—пацікавіўся Янушкевіч.—Курыць? Зьмеяў запушчаць?

— Ды дзе там!—махнуў Сяргей рукой. І, горда паглядаючы на Шчэцьку, растлумачыў:—насьценгазэту дзіцячую ён выпускае, дык проста рады няма—давай, ды давай... У школе навучыўся...

— У вас-жа няма школы?—зьдзіўлена працягнуў Янушкевіч.— Якая-ж у вас школа?

— А ён,—ахвотна адказаў Сяргей, у Столава, за чатыры вярсты, у іхную бегае...

А Уладзік тымчасам ужо бегаў ад вакна да вакна і сумленна выконваў даручэньне.

— А-эй! На сход! Бабы, дзеўкі, мужыкі! Дуй на сход! На сход! Эй, бабы!—зьвінеў у вузенькай гразкай вуліцы задзёрысты малады голас.

---

Мужыкі зьбіраліся марудна.

Раней як усе прышоў высачэнны, худы Мікіта Стронга. Ён лічыў за свой абавязак акуратна прысутнічаць на ўсіх сходах у сельсавеце. Сур'ёзны і маўклівы, ён сумленна выседжваў на кожным сходзе да канца, галасаваў за ўсе пастановы, якія выносіў сход.

У колгас ён пайшоў адным з першых.

Заможнікі ў вочы і за вочы абзывалі яго рознымі мянюшкамі. Ён на гэта не зьвяртаў увагі, а таму і ня крыўдзіўся, а рабіў сваю справу,—сумленна хадзіў на паседжаньні ўсіх організацый, якія існавалі пры сельсавеце.

— Наш Мікіта ўжо ў кансамол падаўся,—зласьліва апавясьціў аднаго разу ў сваім гуртку Ціхон.—Разам з кансамоламі нейкую шыбеніцу ладзіць каля сельсавету...

І гэтую мянушку Мікіта прыняў таксама спакойна як і ранейшыя.

— Кансамол няшчасны,—сварылася на яго ў дому жонка.—Увесь канец вунь сьмяецца. Кажуць, хутка скінеш порткі, ды з малымі ў пясочку сядзеш капацца...

— А што-ж: і сяду,—спакойна згадзіўся Мікіта,—як трэба будзе— дык і сяду—і, усьміхаючыся з нейкай сваёй запаветнай думы, сеў за стол сёрбаць сівую рэдкую капусту...

А „шыбеніца", пра якую плявузгаў Ціхон—гэта была трыбуна, што ладзілі каля сельсавету камсамольцы да Кастрычніцкіх сьвятаў.

Падышоўшы пад школу, Мікіта заглянуў ў вакно.

— Заходзься, браток, заходзься!—гукнуў на яго праз вакно Сяргей.—Заходзься, пагаворым...

Мікіта спакойна ўвайшоў у памяшканьне, не сьпяшаючыся, прычыніў за сабою дзьверы, прывітаўся з усімі за руку і моўчкі сеў каля стала на беражок лаўкі.

Ну, як?—зірнуў Мікіту ў вочы Шчэцька,—што рабіцьмем сёньня?

Мікіта не зразумеў.

— Як, што рабіцьмем? Сход будзем праводзіць.

— Сход - сходам, — напіраў Шчэцька, намагаючыся вызнаць настроі масы,—але на сходзе што?

— А што-ж на сходзе,—дыплёматычна дзівіўся Нікіта, ускідаючы ўгору на самы лоб рудыя коскі брывей.—Што-ж на сход. Ну, пагаворым, пакрычым, ды зноў за старое...

Янушкевіч шматзначна падміргнуў Шчэцьку на Мікіту:

— „Бачыў? Бачыў, як ставяцца да сходаў?"

— „Ну, што-ж... так справа дагэтуль была пастаўлена“...—вінавата апускае вочы Шчэцька, сакратар партыйнай ячэйкі, і раптам, устаўшы, падыходзіць да Мікіты і кладзе яму на плячо забруджаную зямлёй, абветраную руку.

— Во, што таварыш! Сёньня мы на сходзе агульнымі сіламі павінны вырваць гніль з цела вашай гаспадаркі. І ты дапаможаш нам у гэтым.

Шчэцька—вочы ў вочы—глядзіць на Мікіту. І ў Мікітавых вачох загараецца, і адразу-ж згасае радасны агеньчык.

— Вырашана?

— Ды што там,—лагодна ўсьміхаецца Сяргей,—Мікіта на добрае заўсёды рады...

——

Цішыня, нібы тут, пад круглагаловымі залаталістымі ліпамі, нікога няма, нібы тут няма пяцідзесяці чалавек, якія, затоіўшы дух слухаюць маладога, узрушанага Васіля Ясецкага. Пяцьдзесят пар вачэй глядзяць у твар хлапца, пяцьдзесят пар вушэй баяцца прапусьціць хоць адно слова з таго, што гаворыць Васіль.

— ...Во яно як. Вышаў уранку за патрэбаю, а наша-ж хата якраз наўпроці стайні... чую, у стайні нібы вохнуў хто... а пасьля, чую, дзьверы зарыпелі... Я і бачу... дармо, што далёка—у мяне вочы добрыя... і бачу: вылезьлі са стайні Сапрон, а за ім Ціхон: ды крадучыся пашыліся за павець... Я й падумаў сабе: чаго іх чорт ганяе гэткаю парой!.. Ажно яно вунь што здарылася...—голас Васілія ўзьляцеў на высокую ноту і задрыжэў як туга нацягнутая струна:—коні пакалечылі... сволачы гэтыя кулацкія гніды!..

— Таварыш, лаяцца ня варта—супакоіў Васіля Шчэцька, які быў за старшыню на сходзе.—Лепш мы да канца разгледзім справу і вырашым, што нам рабіць з асобамі, якія сьвядома шкодзяць гаспадарцы калектыву. Вы скончылі?

— Скончыў.

Па натоўце пайшоў гуд.

— Маніць!

— Брэша!—выкрыквалі галасы з Ціхонавай групы, якая да гэтага часу стала ўжо значна меншай, чым у пачатку сходу.

— Ён сасьніў Ціхона з Сапронам, а цяпер брэша,—выкрыкнуў, ня стрымаўся Аўгей.—Ня верым яму!

— Грамадзяне! Прашу супакоіцца!—кулаком па хісткім сталіку ляснуў Шчэцька.—Не на кірмаш сабраліся. Слова мае старшыня праўленьня калектыву, таварыш Сяргей Карабан..

Хвалюючыся, блытаючыся спачатку ў словах, Сяргей падрабязна расказваў пра тое, як з самага ўзьнікненьня калгасу ў ім вызначылася заможніцкая групка, якая, узяўшы пад свой уплыў частку маласьвядомых серадніякоў і нават беднякоў, усімі спосабамі намагалася сарваць работу калгасу, разваліць гаспадарку.

— Людзі з гэтае варожае кучкі прабраліся нават у праўленьне,— ужо канчаткова супакоіўшыся, аўладаўшыя ўвагай усіх прысутных, цьвёрда гаварыў Сяргей.—Вам факты? Хто?—Аўгей Карабан! Гэта хто?—Вораг! Чаму? Ды таму, што ўся яго работа гаворыць аб гэтым. Хто ў часе сяўбы разьяжджаў нанашых конях па вясельлях? Аўгей. Хто разам з Ціхонам нацкаваў на нас Хвядоса Качана, калі мы малацілі

на Хвядосавым кані? Зноў Аўгей. Ды ці мала можна сказаць пра Аўгея? Хто з нас яго ня ведае? Канчаючы, я патрабую, каб прысутныя грамадзяне вынесьлі такую пастанову, якая-б раз назаўсёды скончыла з людзьмі, што перашкаджаюць нам працаваць і расьці.

Градам пасыпаліся воплескі.

— Грамадзяне!—падняўся з-за стала Шчэцька—Я лічу, што патрэбна зачытаць даведку хвэльчара, якую мы ад яго ўзялі, каб мець дакуманты... Во яна.—І ўзяўшы са стала шкуматок паперкі, Шчэцька прачытаў:

— *Коні, бязумоўна, пакалечаны з пэўнаю мэтаю: жарабку заганы пад капыт іржавы жалезны цьвік; у кабылы невядомым чынам пашкоджана шыя, пры належным доглядзе—*

— ну, тут далей да справы не адносіцца—Шчэцька кінуў паперку на стол і зноў пачаў глядзець на калгасьнікаў:—Справа зразумелая.—Хто наступны? Хто хоча слова сказаць.

Натоўп гуў. Чуліся абураныя выкрыкі, лаянка. Ціхонава кучка рабілася ўсё радзейшай, ды радзейшай. Каля Ціхона асталіся толькі Васіль Ціхонаў, Сапрон, Аўгей Карабан, Хвядос Качан і некалькі жанчын.

Я слова прашу,—раптам крыкнуў Аўгей і адначасова ўзьняў угору руку.—Я прашу слова.

— Аўгей Карабан!—абвясьціў Шчэцька і глянуў на Янушкевіча, але той спрачаўся аб нечым з Сяргеем і Шчэцькавага позірку ня бачыў.

— Аўгей няўпэўнена падышоў да стала, кашлянуў і абабег вачыма прысутных.

— Я хачу толькі сказаць, таварышчы...

— Сьвіньня табе таварыш!—крыкнуў з-пад высокай раскідзістай ліпы Якім Андрэйчыкаў:

— Я хачу толькі сказаць, таварышы,—удаючы выгляд, быццам ён нічога не заўважыў, гаварыў далей Аўгей,—што ўсе ведаюць, хто першы пайшоў у калгас з усёй маемасьцю...

— А хто карову зарэзаў, ды дзьвёх цялушак на рынак зьвёз перад калгасам?—насьмешліва спыталі з-пад ліпы.

— ...амаль адзін дапамагаў працаваць новаму калгасу...

— Дапамог воўк авечцы з балота вылезьці,—злосна засьмяяўся ў Якімавай груце Сьцяпан Сярмяга.

Аўгей дробна заміргаў вачыма, павярнуўся тварам да Шчэцькі і абурана выкрыкнуў:

— Таварыш... таварыш старшыня, супакойце фулігантаў, якія мне замінаюць...

— Па-першае, тут хуліганаў няма, грамадзянін Карабан,—асадзіў Шчэцька Аўгея,—а па-другое—і ты крычаў, калі іншыя гаварылі табе не да густу...

У гэты час Васіль Ясецкі бярэ за руку старога Сапрона, адводзіць яго ў бок, за ліпы, і ў нечым, махаючы рукамі, настойліва пераконвае... І вось якраз тады, калі Аўгей, скончыўшы гаварыць, адыходзіцца ад стала і вяртаецца на сваё месца, Сапрон выходзіць з-пад ліп, нерашуча аглядаецца і спыняецца на паўдарозе да Шчэцькі.

— Ідзі, ідзі—шэпча яму Васіль і ўсе чуюць гэты шэпат.—Ідзі, ня бойся!..

Сапрон зноў падаецца на пару крокаў уперад і зноў нясьмела спыняецца на месцы.

Ціхон і яго рэдзенькая група заўважылі, што з Сапронам дзеецца нешта нядобрае. І Ціхон намагаецца перацягнуць Сапрона да сябе. Ён махае яму рукой, а калі гэта не дапамагае,—Сапрон ня бачыць ці ня хоча бачыць Ціхонавых намаганьняў,—Цхон асьцярожна гукае:

— Сапрон! Бацька! Сюды!

Але і Шчэцька ўжо таксама заўважыў Сапронавыя ваганьні і, яшчэ нічога ня ведаючы, нутром адчуў, што тут адбываецца нешта важнае. І ён выгінаецца над столікам у бок Сапрона і на ўвесь голас гаворыць:

— Дзядзька Сапрон?—Ціха!—крычыць ён на калгасьнікаў:—дзьдзька Сапрон нешта хоча нам сказаць...

Сапрон, які ўжо зусім наважыў быў ісьці да Ціхона, паварочваецца да Шчэцькі і з раптоўнай рашучасьцю ідзе да стала.

— Браточкі!—асіплым ад хваляваньня голасам кідае ён у сход, глытае сьліну, абцірае рукой потны лоб і зноў паўтарае:—Браточкі!

Сход стыне ў маўклівым чаканьні. Сапрон, той Сапрон, які ніколі нідзе не выступаў, раптам будзе гаварыць перад сходам—трэба паслухаць.

Сапрон, абцёршы лоб і нібы абдумаўшыся, скідае з галавы старую зімовую шапку. Голас яго—глухі і напружаны—нэрвова дрыжыць.

— Браточкі вінаваты... падвучылі яны... мукі ўсыпалі... а мая жызьня—ведаеце, якая...

Дрыжаць старэчыя сьлёзы ў Сапронавым голасе, сьлёзы назьбіраныя, нявыплаканыя за ўсю сямідзесяцігадовую пакутную „жызьню"...

— ... ну, і крутнуў я ёй шыю... лёганка крутнуў... кабыле Ясюковай... казалі, разыйдзецца калхаз—табе жарабё якое дадзем... Ціхон з Аўсеем... пра вайну яшчэ казалі...—уздыхае стары, раптам забірае са стала шапку і ідзе пад ліпы, туды, дзе яго чакаюць Васіль з Якімам і яшчэ колькі гэткіх Васілёў і Якімаў...

— Таварышы—устае з-за стала Шчэцька.—Справа зразумелая. Давай вырашаць, што рабіць са шкоднікамі ды будзем разыходзіцца: ужо ня рана, а заўтра-ж на працу трэба кожнаму... Ці мы пакінем іх у сваёй працоўнай сям'і ці выкінем іх з яе, пакараўшы так, каб іншым не ў ахвоту было шкодзіць?

— Выкінуць!

— Далоў!

— Пад суд, свалачэй! Пад суд!

— Выселіць з раёну—бурай выбухнулі гнеўныя крыкі. Крычалі мужыкі, крычалі жанчыны. А дасужы Уладзік, сабраўшы каля сябе з дзесятак гэткіх, як і сам, падшывальцаў, роў разам з імі на розныя галасы, ажно ў вушу зьвінела:

О-оў! Ы-ы! У-уу! Эў!

А Мікіта—„Кансамол", матаючы парад сабой кулакамі,—крычыць на ўсю глотку:

— Пад суд! Шкоднікі! Партуністы!..

Зьбялелы Ціхон нярухома стаяў на месцы. З-за яго сьпіны відаць была кудлатая з трывожнымі, бліскучымі, як у ваўка, вачыма, галава Аўгея. І стаялі яны ўдвох, у баку ад усіх, самотныя і замяшаныя, зьбітыя з толку. Самотныя, бо нават Анэта—Ціхонавая жонка,

адышлася ад іх, аглушаная крыкамі ґневу і нянавісьці. Зьбітыя з толку і затуканыя, як зьвяры, бо людзі, з якімі яны ўзгадаваліся і пражылі свой век, людзі, з якіх яны кожнага ведалі, як самога сябе,—гэтыя людзі вызналі іх за сваіх ворагаў і суцэльнай, зьяднанай агульнай нянавісьцю, разгневанай сьцяной ішлі на іх...

— Таварышы!—дарэмна надрываўся Шчэцька, намагаючыся супакоіць сход.—Таварышы! Слова для зачытаньня рэзалюцыі сходу мае Сяргей Карабан.

Ціхон бачыў, як Сяргей з Янушкевічам сьпяшаліся дапісаць рэзалюцыю, як Янушкевіч, настойліва стукаючы кулаком па стале, гаварыў Сяргею нешта такое, чаго Ціхон ня мог чуць, але ад чаго ў Сяргея радасна блішчэлі вочы. І Ціхон у гэтую хвіліну адчуў у сабе такую пякучую нянавісьць да ўсіх гэтых Янушкевічаў, Шчэцькаў, Сяргеяў, што да крыві закусіў сабе зьбялелыя, сухія ад смагі губы.

А ад стала ўжо несьліся, і як молатам білі ў Ціхонаў мозак няўцямныя, цяжкія, варожыя словы.

Сяргей чытаў рэзалюцыю.

Узрушаны, распалены Ціхон прагавіта зьбіраў вушмі гэтыя словы і, мэханічна, не разумеючы, складаў іх у галаве, як нейкі цяжкі і нязручны, але дужа неабходны груз...

— Ціхона і Аўгея Карабаноў,—голасна і выразна, вылучаючы кожнае слова, чытаў Сяргей,—як элемэнт шкодніцкі, клясава-варожы, які імкнуўся разваліць гаспадарку, вёў падрыўную работу ўнутры калгасу—з калгасу выключыць з аддачай пад суд і адначасова ўзьняць перад РВК пытаньне аб высяленьні іх з межаў раёну.

— Сапрону Антановічу вынесьці суровую вымову, паколькі ён быў зброяй у руках ворага, і даць яму магчымасьць сумленнай працай загладзіць сваё злачынства перад калгасам.

— Хвядосу Качану, на той самай падставе, што і Сапрону, вынесьці суровую вымову.

— І апошняе, — падняў Сяргей голас,—коняй і ўсю іншую жывёлу і маемасьць гаспадаркі прымацаваць да адпаведных членаў калектыву, усклаўшы на іх пэрсанальную адказнасьць за даручаную маемасьць, і ліквідаваць такім чынам магчымасьць паўтарэньня шкодніцтва і звальваньне віны адным на аднаго.

— Хто за гэткую пастанову?—крыкнуў Шчэцька і ўсьміхнуўся, убачыўшы, што нават стары Сапрон, левай рукой абціраючы дробныя сьлязінкі, што каціліся па зморшчаным твары, правую ўзьняў высока ўзгору...

— ...Недзе ззаду надрыўна заплакала Анэта, і голас яе быў нудны і доўгі, як бясконцыя невядомыя рушнікі чужых, засьветных дарог.

---

**Т. Курбацкі**

# Жніво

Песьня ветлая ды стазвонная
Ускалыхнула шыр залацістую.
Загайдалася жыта белае,
Жыта белае, каласістае.
І цьвіце, гарыць раньне яркае,
Даль туманіцца мглою шэраю.
Слаўна ложыцца пад жняяркамі
Жыта буйнае, жыта сьпелае.
Маладыя мы, шчокі ружамі
Загарэліся, моц ня спыніцца.
З песьняй звонкаю, з пясьняй здужаем:—
— Ой калініца, ой малініца".
Ну, напорысьцей,
ну, брыгадамі!
Пераможныя хвілі жаркія.
Жыта ложыцца, жыта падае
Пад шумлівымі
пад жняяркамі.
Хай узьняты пыл
усьцілае твар,
Рукі чорныя, рукі мужныя,
Ня стрымае пыл,
ня стрымае жар
Працу творчую, працу дружную.
Ну напорысьцей,
ну, брыгадамі
Ну, з прыпеўкамі галасістымі!
Жыта ложыцца, жыта падае
Стройнай постацьцю
каласістае.

Калгас „Ленінскі шлях"
1931 г.

---

Ал. Пальчэўскі

# Неспакойнае пакаленьне

## (Апавяданьне)

Ня бачыў Лявонка радасьці ў сваім жыцьці. З малых гадоў агарнула яго заклапочанасьць, непасільная работа.

Ад вясны, як толькі зьлезе сьнег, і да глыбокае восені, пакуль зноў ня выпадзе—у Лявонкі адна работа. А ўзімку бацька знаходзіць яму другую.

— Не сядзець-жа ў тваіх гадох без работы. Жыць сынок трэба, а жыцьцё наша бядацкае. Недахваткі заразаюць. Ты-ж самы старэйшы ў нас—і на цябе вялікая надзея. Памагай гадаваць сваіх меншых братоў, сястру. Падрастуць—лягчэй стане,—цешыць і сябе і Лявонку Мітрафан.

Кожны вечар прыходзіць зморыны Лявонка з работы. Доўгаю і бясконцаю здаецца яму дарога з лесу дахаты. Па пушыстым сьнезе камяшыцца ён змрокам усьлед за лесарубамі. Бацька час ад часу падахвочвае сына, разьвясельвае.

— Не адставай, сынок! Скора дома будзем.

Дома маці глядзіць на зморыную постаць сына, на худзенькі твар яго і матчынай чуласьцю агортваецца сэрца.

— Цяжкая, Мітрафанка, гэта работа для хлопца, не па гадох яму,—гаворыць Макрына мужу, калі яны астаюцца сам-на-сам.

Уздыхне Мітрафан, памаўчыць хвіліну, другую і пацїху адкажа:

— Ну што-ж рабіць? Ці ён-жа адзін такі. Паглядзі на Тодаравага хлапца, на Грышкавага. Яны яшчэ меншыя за Лявонку, а ходзяць на работу. Пройдзе год, другі і наша жыцьцё палягчэе. Падрастуць дзеці, пойдуць і яны на службу да каго-небудзь, большы прыбытак будзе ў хаце. А так інакшага выхаду няма. Працуй на войта, працуй на пана, на купца. У аднаго ўлада, у другога зямля, лес, у трэцяга—грошы. Яны намі і распараджаюцца.

Такую гаворку можна было часта чуць у Мітрафанавай хаце.

——

Трэці раз аддае Мітрафан Лявонку на самастойны хлеб, у заработкі. Сяголетняя вясна прынесла Лявонку падвышэньне. Тыя два гады ён пасьвіў у пана Кернажыцкага авечкі, а сёлета згоджваюць на каровы.

Цяжэй будзе Лявонку, але спарней Мітрафану.

І тыя гады і сяголета пан Кернажыцкі наймае пастушка сам. Такой справы ён не давярае прыганятаму. Кернажыцкі таргуецца з Мітрафанам, як на кірмашы.

— Майце, пане, на ўвазе, хлопцу 12 год канчаецца. Паглядзеце які рослы стаў,—паказвае Мітрафан на Лявонку.—Да леташняе платы прыбаўце яшчэ чатыры пудзікі—работа сёлета ні тая.

— О многа, многа Мітрафане, гародзіш. Што ты? Кхе-кхе. Хлопец падрос на два пальцы, а ты прыбаўляеш чатыры пуды. За гэту цану большага знайду. Хлопцаў хапае на вёсцы. Кожны бацька аддасьць з ахвотаю, падзякуе яшчэ...

Страх агортвае Мітрафана: „А што калі пан Кернажыцкі ня нойме майго сына? Дзе ён заробіць леташнія восем пудоў хлеба за лета? Прагуляе, а голад яшчэ больш уваб'ецца зімою ў хату—трывожыцца Мітрафан.

Ня хочацца і Кернажыцкаму выходзіць з Мітрафанавай хаты.

— Прыбаўляю два пуды да леташніх. Кругла дзесяць. Думай цяпер, калі хочаш аддаць. І то, што ведаю хлопца, а каб другому і гэтага ня даў-бы. Згодзен? Ну от і добра. Няхай зьбіраецца, дык я адразу і забяру з сабою. Я выйду гляну, як конь там стаіць, а вы падрыхтоўвайце—ужо на парозе гаворыць Кернажыцкі.

Мітрафан падыходзіць к Лявонку і ласкава гаворыць:

— Ну сынок, зьбірайся ў дарогу. Зноў пойдзеш на сталыя заработкі, на свой хлеб.

Бацькавы словы сьцішылі гамонку ў хаце. І вось у час такой цішыні Лявонка коратка адказаў бацьку , падаў свой пратэст:

— Не пайду служыць да пана.

— Як гэта?—зьдзіўлена пытае бацька, азіраючыся ў бакі і зараз-жа загадвае:—Маўчы, пан пачуе!

— Не пайду і ўсё. Няхай хоць усе чуюць,—зноў паўтарыў Лявонка. Я летась ледзьве дабыў да канца. Холад, дажджы, а я ў падраным халаціку мёрз. Пан казаў дасьць халацік, а ня даў.

— Сяголета пан напэўна дасьць,—пацяшае Лявонку Мітрафан. Ён сам няўпэнены ў сваіх словах, але заахвочвае сына, уговорвае яго.

— Дасьць... Гэтак як вы пусьцілі вучыцца. Казалі: „Ідзі служы, дык вучыцца пойдзеш зімою, а як прышла зіма на другую работу пайшоў,—ледзь ня плача Лявонка.

— Галодны хадзіць ня будзеш у школу... Жыць трэба... Аб хлебе думаць...

— Сынок, гэтым цяпер нічога не паможаш, не гняві бацьку,— угаворвае маці.—Сяголета можа бацька болей заробіць, ды табе-ж пан прыбаўку даў, то зімою пойдзеш у школу.

На парозе зьяўляецца постаць Кернажыцкага.

— Кхе-кхе,—расплываецца яго твар,—сын бацьку патрабаваньні ставіць. Слухаць адмаўляецца...

Панскі сьмех выклікае ў Мітрафана крыўду на сынава непаслушэнства.

— Я от яму зараз настаўлю, будзе ведаць,—злуецца Мітрафан і ўжо больш ня просіць, а пытае, пытае грозна, раззлавана,—дык ты доўга будзеш яшчэ агрызацца ці не? Каму галава баліць за вас?— бацьку. Хто павінен старацца, каб хлеб быў у хаце?—бацька. А слухаць бацькі ня хочаш. Ці-ж магу я пракарміць вас пяцярых на паўтары дзесяцінах? Добра, што пан бярэ яшча на службу.

— Кхе-кхе, пра навуку ўспомніў,—перапыняе Кернажыцкі Мітрафанаву скаргу.

У Мітрафанавым нутры абуджаецца чалавек, чалавек пакрыўджаны панам, прыніжаны багацьцем. Мітрафан з пагардаю глядзіць на Кернажыцкага і гаворыць:

— Мала што ён уздумае. Слухай адно іх. Онь падатак яшчэ ня выплачан, а тут другі скора прышлюць, казаў стараста...

— З маленства ня трэба разбазэрваць дзяцей. Кхе-кхе, а жыць можна і няпісьменнаму. Яно і лепей яшчэ—менш клопату,—радзіць Кернажыцкі.—А навучы такога грамаце—больш бяды набярэшся, як карысьці ад яго палучыш. Сьвет цяпер няпэўны стаў. Кхе-кхе, стукаючы стусінкаю па сваіх доўгіх ботах, пан дае яшчэ некалькі парад мужыку Мітрафану.

А на палку гэтым часам неахвотна зьбіраецца Лявонка на службу. Яго разьвясельвае маці новымі абяцаньнямі. Яна дакляроўвае сягды-тагды прыходзіць у госьці праведваць аб жыцьці сына. Лявонка паглядае то на самаздаволенага пана, то на жаласьлівую постаць бацькі, што стаіць прыніжаны перад Кернажыцкім, то на заклапочаную матку. Сягоньня Лявонка, як ніколі, у сваім нутры адчувае дзьве процілегласьці: крыўду і жаласьць.

---

Трэцюю вясну служыць Лявонка ў Кернажыцкага. Цяжкая сяголетняя служба: найбольш у гарачыя дні, калі загізуюць адна перад другою каровы па выгане. Затое новыя малюнкі адкрыліся сяголета для Лявонкі. Доўгі час прастойвае Лявонка на адным месцы. Ён глядзіць, як на другім баку выгана працуюць на школьным агародзе вучні. Гэта тая самая школа, пра якую ня раз гаварыў яму дзядзька Цімох.

Надаела Лявонку аднаму хадзіць за каровамі па цэлых днёх. Хочацца яму ў гэты калектыў, цягне яго гурт, дружная работа дзяцей.

Глядзіць Лявонка з прагнасьцю на другі бок мяжы, а самому здаецца, ён ужо разам з тымі вучнямі працуе на гародзе. І неяк скора, адразу, зжыўся з імі, схаўрусаваў. Весела бяжыць час. Зьніклі цягучыя гадзіны Лявонкавай адзіноты, бо там, дзе радасьць, дзе вясялосьць, ня можа ўжыцца сум.

Лявонка расказвае сваім таварышом пра бацькава жыцьцё, пра сваё жыцьцё—парабкоўскае. Разсказвае аб тым, як пазаўчора пан бязьлітасна зьбіў да паўсьмерці парабка Антося Глыбу. Слухаюць вучні Лявонкаву гаворку. Пакінулі працаваць. Дзівяцца з такога цяжкага жыцьця бедных людзей, што жывуць побач з імі.

— А чаму маўчаў гэты перабак, як біў яго пан?—загарэліся вочы ў школьнікаў.

Ён учора пашоў некуды з фальбарка. Шукалі ўсюды, але не знайшлі,—адказвае Лявонка. Доўга яшчэ гавораць адны другім аб жыцьці там за мяжою і аб жыцьці тут.

І вось у гэты час вясёлая песьня ўздрыганула Лявонку. Яна абудзіла Лявонкавы думкі. Паглядзеў хлопчык навакол і яшчэ большая горнасьць ахапіла яго адзінокага. Песьня скалыхнула пачуцьці, запаліла нутро, бо даўно ён чуў вясёлую песьню ў зьняволенай краіне.

О, каб Лявонку пусьцілі туды, адкуль даносілася вясёлая песьня, каб ён дабраўся да сваіх таварышоў, дык ніколі не пакінуў-бы іх.

Але гэтыя думкі-жаданьні, пакуль што застаюцца жаданьнямі для Лявонкі.

А цяпер за Лявонкам наглядае ўвесь час паліцыянт. Лявонка стаіць на ўзгорку, а паліцыянт у кустох. Схаваўшыся, як зьмяя, у лісьцях ён сочыць праз бінокль за кожным рухам Лявонкі, сочыць каб не асьмеліўся пастушок падысьці ў забароненую паласу.

... Лявонку панскі прыганяты ад першага дня паказаў дакуль можна пасьвіць каровы.

— А туды, глядзі, ня пускай. Уцячэ карова—назад да пана не варочайся. Пан любіць шчырых служак, паслухмяных,—загадваў і навучаў ён Лявонку.

——

— Ай, ай,—закрычаў раптам Лявонка і бягом кінуўся к граніцы— Куды, куды!—гукае ён, а сам дрыжыць ад страху: „А што калі ўцячэ карова, куды дзявацца мне? Пан любіць шчырых служак, казаў прыганяты"—успамінае Лявонка.

— Стой! стой!—разносіцца крык. Але ня чуе Лявонка гэтага голасу. У яго адна думка—пераняць карову. Тады моцны стрэл адзін, другі спыняе пастушка. Зьбянтэжаны стаіць Лявонка, а па яго бяжыць са стрэльбаю ў руках паліцыянт.

— Карова панская ўцячэ,—плача Лявонка,—я сьпяшаўся пераняць яе.

— О так, так, малы, але хітры. Шпіёніць пачынаеш? Пойдзем да пана камэнданта. Ня плач, не прасіся, там усё раскажаш.

У камэндатуры Лявонку сустрэлі з бурным крыкам.

— Бальшавічка злапаў?

— Піанэра?

— О так, так, шпіёнчыка.

На допыце камэндант распытаў у Лявонкі, адкуль ён, чый.

— Кажы хто падгаварыў цябе ўцякаць за мяжу?

— Ніхто, ды я і не ўцякаў.

— Ніхто,—ніхто,—злуецца камэндант і пагражае астрогам. Ён трасе за вуха Лявонку, дае ему пстрычку ў нос і сьмяецца ад самазадаволенасьці свайго ўладарства.

— Адвесьці да пана Кернажыцкага,—загадвае паліцыянту.—Гжазоўскі, перадай пану Кернажыцкаму, што хлопчык уцякаў за мяжу. Няхай мае на ўвазе.

Здрыгануўся Лявонка ад такіх слоў. Ён ведае—пан не даруе такога ўчынку. Пан не паверыць яго словам. Парабак Глыба толькі коні недапільнаваў - яны ўскочылі ў ярыну, і то ледзь не забіў яго пан.

— Пан заб'е мяне. Пусьцеце—пырснулі сьлёзы з вачэй Лявонкі.

— Так, пан Кернажыцкі пакарае цябе як айцец, адвучыць ад такіх намераў.—пацірае рукі камэндант і самазадаволена ўсьміхаецца, папраўляючы стаячы каўнер свайго мундзіра.

——

Сумны ходзіць Лявонка ля фальбарку. Няма з кім пагаварыць, паскардзіцца на сваё жыцьцё. Ня кожнаму даверыш свае думкі. Лявонка толькі аднаму дзядзьку Кохану гаварыў усё тое, што думаў, а цяпер яго ня было яшчэ з поля.

Увечары шчыра разсказаў Лявонка аб сваёй прыгодзе Кохану. Выслухаў Цімох Лявонкаву бяду і параіў:

— Будзь сьмелы толькі з панам. Гавары як было. Прыганяты раней перакажа ўсе словы паліцыянта і дадасьць яшчэ шмат чаго ад сябе. Пан будзе пагражаць, але ты ня бойся.

Пасьмялеў Лявонка, сам пусьціўся ў гаворку з Цімохам. Да іх падыйшлі яшчэ два панскія парабкі Мікіта і Адась.

— Ну, а скажэце, дзядзька, што там дзеці рабілі ўвесь дзень каля хаты?

— Гэта ня хата, а іх школа. Некалі наш Кернажыцкі жыў у тым фальбарку, А як вытурылі адтуль, дык ён цяпер гэты фальбарк грандуе ў князя.

— А калі яго выгналі адтуль?—цікавіцца Лявонка.

— Калі? От 12 гадоў канчаецца. Бач, сынок, былі вялікія. Чырвоная армія гнала тады паноў бесьперасьціханку. Тады Кернажыцкі і страціў свой фальбарак. Цяпер кожны дзень ные па ім, марыць аб звароце назад, але надарма. Ня ў тыя рукі трапіў, каб назад аддалі. Там цяпер школу зрабілі. Дзяцей вучаць.

— А на двары што яны рабілі?

— Гэта іх гарод, Лявонка. Там вучацца і грамаце і рабоце. Самі даглядаюць свой гарод і ўраджай у школу забіраюць.

— Адкуль вы ведаеце?

— Дзядзька Цімох усё ведае,—падміргнуў Адась.

— Мой брат там настаўнікам. Лісты сяды-тады піша. Пытаў аднаго разу, ці мае дзеці ходзяць у школу вучыцца, дык я адказаў: „вучацца, як і я, парабкамі быць“. От... А там сынок інакшае жыцьцё,—уздыхае Цімох.

— Каб наш тата жыў там, дык і я вучыўся-б,—сьвеціцца ў Лявонкавых вачох дзіцячая зайздрасьць, калі ён чуе аб школе, аб вучэньні.

— Жывуць нашы браты, а мы?...—уздыхае Мікіта.

— А мы зажывем, як скруцім сваім Кернажыцкім галовы. Там ім скруцілі,—паказвае Адась у бок мяжы,—скруцім і мы. Адплацім за зьдзек, за катаваньне,—іскрацца Адасёвы вочы.

— А калі-небудзь гэта будзе ўсё-ж такі—падае надзею Мікіта.

— Не калі-небудзь, а скора. Неўзабаве прарвецца, выбухне парахавы склеп, на якім сядзяць паны. Па кавалках разьляціцца іх цела, не застанецца нідзе почуту,—сьціскае кулакі Цімох. Ён, як Адась, як Мікіта, як тысячы, мільёны другіх, верыць у недалёкую перамогу працоўных над багатымі.

——

Як толькі пан вярнуўся з гораду, клікнулі Лявонку ў палацы. Увёў прыганяты Лявонку ў сьветлыя пакоі, пакланіўся пану, а сам за дзьверы. Стаў блізенька і слухае.

— Кхе-кхе. Да бальшавікоў хацеў уцячы? Сустрэў Кернажыцкі Лявонку. Спыніўся Лявонка ў парозе, сьціснуўся, глядзіць спуджана на разьюшанага пана. А пан злосны ходзіць па сваім пакоі.

Здавалася вось-вось кінецца Кернажыцкі, як люты зьвер на прыгнечанага пастушка, пачне рваць са злосьці на кускі яго цела, будзе

смактаць жывую кроў, утольваць сваю смагу, супакойваць разнэрваваны мозаг.

Маўчыць Лявонка і гэта яшчэ больш злуе пана.

— У мяне бальшавікоў ня будзе. Так, так. Чырвоны колер няхай ня вабіць цябе. Туды ня трапіш... Кхе-кхе. У маёнтак пана Кернажыцкага пацягнула... Піанэрам хочаш быць?..

— Я хацеў толькі пабегчы...—спрабуе апраўдацца ціхім голасам Лявонка.

— Так, так. Пабегчы туды? Знаю, знаю. А пан Кернажыцкі адказвай перад уладаю,—не дае ён дакончыць Лявонку і бярэ сваёю мягкаю рукою за абсіверанае Лявонкава вуха—Так, так. А скажы мне галубчык, хто цябе падбухторыў уцякаць? Ты-ж ня сам надумаўся? Не?

Сыплюцца іскры з Лявонкавых вачэй, дрыжыць разнакалёрнае сьвятло ў панскай лямпе. Постаць Кернажыцкага грозная, як навальнічная хмара, палохае Лявонку.

— Я вашы каровы адганяў, каб не ўцяклі,—праз сьлёзы стараецца растлумачыць Лявонка пану. Але больш верыць пан прыганятаму, камэнданту, чым пастушку Лявонку.

— Так, так. А я думкі благія вот адсюль у цябе выжану,—падымае ён за даўно ня стрыжаныя Лявонкавыя валасы і дапытваецца свайго.—Скажы, скажы, хто цябе падвучыў уцякаць?

Злосьць агортвае Лявонку на панскую несправядлівасьць, на панскую лютасьць. Не сьцярпеў больш пакуты. Вострая думка спыніла панскае катаваньне, па інкшаму вырашала Лявонкава жыцьцё.

— Ой, ой!—схапіўся пан за жывот і павольна апусьціўся на мяккі плюшавы дыван.

А гэтым часам Лявонкі ня стала ў панскім пакоі.

На крык Кернажыцкага ўскочыў прыганяты—яго верны памоцнік.

— Ай хлопец, ай хлопец. Выгадаваў бацька на маю галаву,—скардзіўся пан.

Прыганяты забегаў перад Кернажыцкім:

— Так, пане, неспакойнае цяперашняе пакаленьне. Ні дасць яно ні вам, ні мне дажыць веку,—стараўся ён супакоіць пана, стараўся дагадзіць яму.

— Маўчы! Не гавары гэтага,—усхапіўся ў роспачы Кернажыцкі.—Дзе ён, галадранец гэты? Дзе ён дзеўся? Прывядзеце мне сюды! Дастаньце хоць з таго сьвету,—затупаў па наваскаванай падлозе разьюшаны пан.

У момант выскачыў прыганяты з пакояў. Ён ведаў, што азначала такая злосьць, калі пан тупае нагамі. Па ўсім фальбарку кінуўся шукаць Лявонку, падняў на ногі парабкоў.

Надарма стараўся прыганяты дагадзіць пану. Не пашанцавала яму на гэты раз.

Сваёю чорнаю коўдраю чэрвеньская ноч укрыла Лявонку, як укрывала маці яго ў халодныя зімовыя ночы. На згубу паном схавала ноч Лявонку ад вачэй прыганятага.

---

Аркадзь Куляшоў

## Галодны паход

Так з тавэрны і да тавэрны
Хадзілі яны галодныя ўдвох.
Першы—
двацацьь начэй
начаваў на сквэры,
На двацацьь першы дзень
зьлёг.
І першы казаў другому:
—Таварыш,
І твой і мой лёс нявольніцкі—
Ты мне з рысу кітайскага кашы зварыш,
А ты адвядзеш да больніцы.
— Нашая праклятая Фатэрлянд
хварэе на крызіс,
Для нас няма больніц,
а толькі бойніцы.
Акцянэрнае таварыства Рэтхен
на моры топіць рыс
І просьбе тваёй
не няканована споўніцца.
— Слухай, таварыш твой памірае
(Зіма.
З дрэва апошні ліст адпаў).
Ты прынясі мне хлеба акраец,
Ці адсьпявай мяне за папа.
— Я таксама галодны,
ты марна марыш—
Паляць хлебныя склады
Рэйтхенавы сыны.
Дзе-ж я цябе
пахаваю, таварыш,
Калі ты месца ня маеш
для труны?
— Рэтхенамі
жыцьцё маё скрэсьлена.
Лепей-бы я
ў вастрозе здох!
—Усе дарогі вядуць
на электрычнае крэсла

і ніводная
не вядзе ў вастрог.
— Ветру ў дванастцы маёй,
як у коміне
І пад самай ложачкай
голад сьсе.
— Але нам не давядзецца
з табою камянець,
Я чую паход.
З Гамбургскага шосэ!
— За што на нас такое
галоднае калецтва,
Можа за тое,
што мы не з фашысцкіх банд?
Чуеш, таварыш,
я не пабачу краін савецкіх,
І не пабачу савецкай
нашую Фатэрлянд!
— Паходамі, бойкамі
край наш поўніцца—
Рэволюцыя!
1932 год!
Прыбліжаюцца!
Ім вецер з поўначы—
Галодны паход!
Галодны паход!
Першы—
падняўся на пальцах халодных:
— Можа правакацыя!?
Ты запытай!
— Хто вас вядзе на бой галодных!
— Камунісьціше Партай!

13/II-1932 г.

Цім. Зарэчны

# Мястэчка

Мястэчка ляжыць у змроку вечара. На вузкіх вуліцах і вілёнчыстых завулках не заўважыш ніводнага чалавека. Скрозь шэрыя шыбы вокан віднеецца сьвятло,—яно гарыць слаба, полымя ў лямпах міргае і калышацца.

Увечары, напярэдадні вялікадня, калгасьнікі наладзілі спэктакль. Ішла антырэлігійная п'еса. Перад спэктаклем быў зроблены невялікі даклад аб пахаджэньні рэлігійных сьвятаў, аб сапраўднай сутнасьці рэлігіі, пад якія-б яна маскі не хавалася, аб баявых задачах калгасьнікаў у вяснавой сяўбе. Народу ў клюбе было шмат. Прышла ня толькі моладзь, але і старыя. Яны з пільнай увагай слухалі даклад і глядзелі пастаноўку. Спэктакль ставілі вучні яўрэйскай сямігодкі разам з камсамольцамі-калгасьнікамі. Бацькі ўглядаліся ў сваіх сыноў і дачок-артыстаў на сцэне і білі ў далоні, аплёдавалі ім, захопленыя спэктаклем і іхняй гульнёй. А на другі дзень раніцай, у самае сьвята, партыйцы, камсамольцы і вучні сямігодкі разам з калгасьнікамі наладзілі суботнік: выехалі араць, гной вазіць, сад ачышчаць. Калгасьнікі, як і ў кожны рабочы дзень, працавалі на полі, у садзе, у хлявох. Сьвята не парушыла нармальнага ходу работы. Калгас па-ўдарнаму праводзіў сяўбу. Гэта было нечаканым і нябывалым для рэлігійных. Яны зышліся ў сынагогі,—а іх яшчэ чатыры ў мястэчку,—прасілі, малілі бога, каб ён пакараў няверкаў, вярнуў іх у боскія дамы. А „няверкі", „грахаводнікі" гутарылі паміж сабой:

— Чатыры сынагогі зачынілі, трэба і астатнія...

— Ды ёсьць-жа пастанова большасьці насельніцтва, каб і пятую зачыніць...

— Мы ў ёй кіно-тэатр адчынім...

Будынкі зачыненых сынагог скарыстаны на культурныя і гаспадарчыя патрэбы. У адной працуюць дзіцячыя яслі, у другой знаходзіцца калгасны склад, у трэцяй—калгасная кузьня, у чацьвертай—школа. У пятай сынагозе калгасьнікі мяркуюць адчыніць кіно-тэатр (кіно-ўстаноўка ўжо выпісана).

Гэтыя факты сьведчаць аб тым, што калгасьнікі паступова аслабаняюцца ад уплыву рэлігіі, гэтай актыўнай дапаможніцы клясы эксплёататараў. Буйная вытворчасьць, заснаваная на сацыялістычных пачатках, перарабляе людзей, фармуе новыя адносіны да вякамі ўстаноўленых норм і поглядаў, руйнуе стары дробна-буржуазны ўклад мястэчка, прымушае глядзець на рэчы з новага пункту погляду, з пункту погляду рабочае клясы.

Мястэчка ў мінулым — збор-дружына розных, клясава-супроцьлеглых элемэнтаў. Тут, з аднаго боку, буйныя гандляры, як Окунь

Айзік, Мадорскі Нохім, арандатары садоў тыпу Каплана Беніяміна, буйныя зямляўласьнікі, як Вэкшыэр Міхель (разам з раднёю ўладаў 120 дзес. зямлі, меў каля 70 кароў і 30 коняй), пан-абшарнік Мурашка (уладаў некалькімі маёнткамі), каля мястэчка лесапрамыслоўцы, уласьнікі розных майстэрняў, сярэднія і дробныя гандляры—мясам, бакалеяй, мануфактурай і, з другога боку, рабочыя майстэрняў, цесьляры, сталяры, уласьнікі невялікіх кавалкаў зямлі, адным словам—уся месьтачковая беднатa. Паміж гэтымі двумя лягерамі заўсёды ішла непрымірымая барацьба. Буйныя гандляры і зямляўласьнікі бязьлітасна эксплёатавалі беднату. Да рэвалюцыі местачковая беднатa знаходзілася пад прыгнётам кулакоў і гандляроў. Да гэтага яшчэ далучаўся нацыянальны ўціск, распальваньне барацьбы паміж нацыянальнасьцямі—яўрэямі, беларусамі, палякамі. Беднатa знаходзілася пад двайным прыгнётам—і сацыяльным, і нацыянальным. Толькі Кастрычніцкая рэвалюцыя вызваліла працоўных мястэчку ад сацыяльнага ўціску і найбольш поўна разьвязала нацыяльнае пытаньне.

Местачковы калгас па сваім нацыянальным складзе інтэрнацыянальны: у ім знаходзяцца і яўрэі, і беларусы, і палякі. Працоўныя знайшлі паміж сабой адну агульную мову, мову адных задач і аднаго лёсу, і аб'ядналіся, каб будаваць новую сацыялістычную гаспадарку. Яны пайшлі „на сацыялістышэр вэг“ („сацыялістычны шлях“) і гэтым імем назвалі калгас. Ён арганізаваўся ўвосень 1929 г. Вялікую работу па арганізацыі правяла мясцовая партыйная ячэйка. Яна была ініцыятарам і кіраўніком арганізацыі. Значную дапамогу аказалі камсамольцы. Працэс арганізацыі быў вельмі бурны. За кароткі час ў калгас уступіла 200 гаспадарак—амаль што ўсё мястэчка. Бязумоўна, у калгас пралезьлі і клясава-варожыя элементы, і яны адразу-ж пачалі сваю шкодніцкую работу ўнутры калгасу. Давялося правесьці вялікую работу, каб вызваліцца ад іх, ачысьціцца ад гэтага бруду, замацаваць і палітычна, і эканамічна калгас. Апрача гэтага, ў калгасе былі выпадковыя элемэнты, „ліпавыя калгасьнікі“, якія ўступалі толькі для таго, каб на гэтым зрабіць кар'еру, задаволіць свае мяшчанскія, эгаістычныя імкненьні. Гэта ў большасьці „маладыя людзі“, сынкі былых гандляроў, з марамі аб лёгкім хлебе і горах чырвонага золата. Калгас і ад іх пастунова ачысьціўся. Цяпер у калгасе знаходзіцца паўтары сотні гаспадарак. Гэта замацаваныя, надзейныя калгасьнікі. Яны не падвядуць. Яны зьвязалі свой лёс з лёсам разьвіцьця калгасу. Бязумоўна, калгас на гэтым не абмяжоўваецца: ён паступова, з кожным днём, усё больш павялічваецца і пашыраецца. Эканамічнае ўмацаваньне, дружнасьць і добрыя ўзаемаадносіны паміж калгасьнікамі агітуюць самі за сябе.

Цажка даводзіцца калгасьнікам. Гаспадарка знаходзіцца ў працэсе фармаваньня, вызначэньня свайго твару. Яна яшчэ ня мае стала акрэсьленага тыпу. Ухіл—у бок гародніны і жывёлагадоўлі, але канчаткова сфармаваная гаспадарка такога тыпу—у будучыні. Праўда, гэта прыкметна і цяпер,—і летась, і сёлета,—але пакуль што гаспадарка канчаткова не спэцыялізавана.

Пасеўная плошча калгасу складае 1.180 га. Зямля ў большасьці пяшчаная, неўраджайная. У мінулым, да рэвалюцыі, значнай плошчай уладаў пан Мурашка. Панская гаспадарка вялася няплянава, стыхійна, як сотні год таму назад: тая-ж трохполка, тое-ж ворыва пад жыта

сярод лета, у „пятроўкі“, калі зямля становіцца чорствай і грубай на бок адкідваецца скібкамі і камкамі, тое-ж абложаньне з году ў год як пры прадзедах, спакон вякоў. Вялікая колькасьць зямлі аддавалася сялянам на палову: сноп селяніну, сноп пану. Пан высмоктаваў апошнія сокі зямлі. Ен толькі ўдасканальваў і паглыбляў мэтады эксплёатацыі батракоў і вакольных сялян, гаспадарку-ж вёў саматужна, як-бы адчуваў, што ён тут часовы гаспадар. Калгас, сапраўдны гаспадар зямлі, сурь'ёзна ўзяўся за паляпшэньне глебы: палі багата ўгнойваюцца, уводзіцца правільны севазварот. У пана шмат зямлі пуставала, знаходзілася пад аблогай, зарастала хмызьняком, у калгасе-ж гэтага зусім няма: тут кожны кавалак зямлі старанна апрацоўваецца, засяваецца той або іншай культурай. На калгасных палёх расьце жыта, пшаніца, авёс, ячмень, грэчка, гарох, лён, каноплі, бульба, караньплоды, гароднія і сілосныя культуры, канюшына, лубін, тытун, цыкоры. З гэтых культур значную ролю адыгрывае бульба, жыта, авёс і гароднія культуры.

Вялікая ўвага аддаецца калгасьнікамі жывёлагадоўлі. Малочна-таварная фэрма налічвае 246 кароў і 57 штук маладняка. Акрамя гэтага, амаль усе калгасьнікі маюць сваіх кароў. Няма кароў толькі ў дзесяці калгасьнікаў. Яны атрымліваюць за 6 рабочых дзён 7 літраў малака і за 24 рабочыя дні—па кілёграму масла. Частка з гэтых калгасьнікаў жадае мець сваіх кароў, і калгас дае ім цялят для гадоўлі. Рабочых коняй у калгасе 110. Бязумоўна, гэтае колькасьці не хапае, і калгасьнікі мяркуюць набыць новых коняй. Значную дапамогу аказваюць коням два калгасныя трактары.

Рабочая сіла ў калгасе падзелена на брыгады. За кожнай брыгадай замацаваны пэўны вучастак работы. Брыгады працуюць на аснове зьдзельшчыны. У калгасе ёсьць такія брыгады: брыгада жывёлагадоўлі, палявая брыгада, гародніцтва, брыгада па сіласу, караньплодах і цыкорыю, брыгада па абслугоўваньні млына і кузьні, брыгада па абслугоўваньні малочна-таварнай фэрмы і брыгада па доглядзе за садам. Кожная брыгада мае свой спэцыяльны плян работы. Некаторыя брыгады падзелены на групы. Так, зроблена, напрыклад, у палявой брыгадзе. Там існуюць групы аратых, возчыкаў гною, сейбітаў і інш. Такі мэтад арганізацыі працы дае вялікую карысьць: павялічваецца якасьць працы, работа становіцца куды спарнейшай, зьнішчаецца бязладзьдзе і неарганізаванасьць у рабоце. Зараз у калгасе не хапае рабочае сілы. У мінулым мястэчка было рэзэрвам вольных рабочых рук. Стаяла праблема—дзе знайсьці работу, на што скарыстаць сілу? Цяпер-жа ў калгасе не хапае рабочых рук. Стаіць праблема—дзе знайсьці рабочых, каб можна было справіцца з усёй калгаснай работай? Вясной яшчэ нішто, калгас сваімі сіламі правядзе сяўбу, а ўлетку, калі надыйдзе жніво і касавіца і трэ' будзе даглядаць за сотняй гэктараў гародніны, а таксама ўвосень, калі неабходна будзе здымаць яблыкі з 15 гэкт. саду, зьбіраць бульбу і караньплоды са 185 гэкт., сеяць азіміну, малаціць збожжа,—у гэты час перад калгасам ва ўсю шырыню паўстане праблема знаходжаньня рабочае сілы. Тут патрэбна будзе зьвярнуцца за дапамогай да суседніх калгасаў, да аднаасобнікаў-беднякоў і сераднякоў. Толькі пры іх дапамозе калгас пасьпяхова справіцца з усімі летнімі і асеньнім работамі.

Кіруючую ролю ў калгасе адыгрывае парт'ячэйка. Яна складаецца з 6 членаў партыі і 2-х кандыдатаў. Сакратаром ячэйкі працуе рабочы Каплан Барыс, дэмабалізаваны чырвонаармеец, член партыі з 1927 году. Ён-жа працуе і загадчыкам гаспадаркі калгасу. Ячэйка сапраўды стаіць на чале калгаснага жыцьця. Без яе ўвагі не праходзіць ніводнае мерапрыемства. Яна-ж у 1929 годзе зьявілася ініцыятарам арганізацыі калгасу. Значную дапамогу парт'ячэйцы аказвае камсамольская ячэйка, якая складаецца з 29 чалавек. Ячэйка вылучыла на адказную работу (загадчыкам будаўніцтва і млынам) свайго старога камсамольца Альшанскага Гендаля. Актыўна працуюць у калгасе Эрэнбург Вуля, малады камсамолец прэміяваны летась за ўдарную работу; Нэхін Ізраіль, каваль, член бюро ячэйкі; Элькін Рахміэль, каваль, прыкладны ўдарнік. Партыйная і камсамольская ячэйкі карыстаюцца вялікім аўтарытэтам сярод калгасьнікаў.

Калгас зьмяняе твар мястэчка. Фактычна мястэчка памірае. Замест яго будуецца новы сацыялістычны гарадок. Стары дробна-буржуазны ўклад местачковага жыцьця паступова, але няўхільна, распадаецца ў сваёй аснове, руйнуецца да канца. Местачковая бедната ажыла. Яна становіцца сапраўдным гаспадаром свайго жыцьця. Калгасьнікі маюць свой нацыянальны савет, старшынёй якога працуе свая-ж калгасьніца, даярка на фэрме да выбараў,—Элькіна. Дзеці калгасьнікаў вучацца ў сваёй нацыянальнай сямігодцы. Дзіцячыя ясьлі даюць магчымасьць жанчыне працаваць у калгасе. У мястэчку ёсьць мэдпункт, кнігарня, бібліятэка, чайная. Калгас мае свой малочны завод, сваю кузьню і млын. А некалі, да рэвалюцыі, была вінаполька на галоўнай вуліцы, дзевяць сынагог (гэта на невялікае, вясковага тыпу, мястэчка!), буйныя гандляры, пан Мурашка, галеча і голад, бязьлітасная эксплёатацыя местачковай беднаты. І над усім гэтым— „законный, богом и его величеством данный, тлусты, сьвіны твар „блюстителя порядка“ чорнае сотні—стражніка. Жудасныя, глухія былі часы. Яны затанулі ў нябыт. Новыя людзі будуюць новае жыцьцё. У гэтым жыцьці ня будзе эксплёатацыі чалавека чалавекам, зьвярынай нянавісьці адзін да аднаго.

Будаўніцтва калгасу ідзе ў суровай барацьбе. Кулак і буйны гандляр у асноўным зломлены. Яны, як палітычная і эканамічная сіла ня маюць пад сабой цьвёрдай, надзейнай глебы. Але ўсё-такі яны жорстка супраціўляюцца. Засталася агентура кулака—падкулачнікі. Яны групуюцца пад маскай рэлігійнасьці вакол клерыкалаў у сынагог. Іхны ўплыў часам праяўляецца і ў калгасе. Прыкладаў можна прывесьці шмат. Калгасьнік Зэлікман, напрыклад, у часе раскулачваньня схаваў у сябе кукацкую карову і сані. За гэта яго выключалі з калгасу. Часам праяўляецца шавінізм. Калгасьнік Эрэнбург узяў падвесьці яўрэйскага хлапчука, а беларускаму адмовіў. Гэта, на першы погляд, дробны факт, але калгасьнікі не прайшлі міма яго, яны кваліфікавалі гэта, як шавіністычныя адносіны да іншай нацыянальнасьці і далі Эрэнбургу вымову. Некаторыя калгасьнікі моцна трымаюцца за сваё, індывідуальнае. Калгасьніца Джызьнеўская Сарафіньня, напрыклад, зусім не дапусьціла калгасную камісію да ацэнкі маемасьці. Яна таксама была выключана з калгасу. Увесну праўленьне пастанавіла, каб калгасьнік Сіманенка перайшоў жыць з хутара ў Шчад-

рын. У калгасе яму даюць лепшую квартэру, але ён ніяк ня можа пакінуць „сваю“ брудную хату і перайсьці ў мястэчка.

— Ды мы даем табе лепшую хату,—гаворыць Каплан.

— Лепшая, ды не мая,—адказвае Сіманенка.

Над гэтымі дробна-буржуазнымі адносінамі да агульнай справы яшчэ давядзецца шмат папрацаваць. Буйная сацыялістычная вытворчасьць перарабляе і нарэшце зусім пераробіць псыхіку і ідэалёгію дробнага ўласьніка. Але гэта ня прыдзе само, нечакана,—псыхіка і ідэалёгія будуць зьмяняцца ў рабоце, пад уплывам калектыву.

Перад калгасам „Сацыялістышэр вэг“ вялікая будучыня. Калгас канчаткова перабудуе дробна-буржуазны Шчадрын на сацыялістычны лад. Шчадрын будзе жыватворчай крыніцай у будучыні—з новым укладам гаспадаркі, з новымі адносінамі паміж людзьмі—сацыялістычным гарадком у агульнай сыстэме гаспадаркі Савецкага Саюзу.

М. Шчадрын на Палесьсі.
Красавік 1932 г.

## КРЫТЫКА

Уладыслаў Глыбінны

# „Наступ“ з памылковых пазыцый

У выданьні Цэнтральнага Выдавецтва народаў СССР (Масква) вышла першая кніжка часопісу „Наступ—орган беларускай сэкцыі Маскоўскай Асацыяцыі Пралетарскіх Пісьменьнікаў. Сам факт выхаду ў Маскве літаратурна-мастацкага часопісу на беларускай мове сьведчыць пра правільнасьць нацыянальнай палітыкі партыі, пра магчымасьць шырокага разьвіцьця, росквіту ўсіх нацыянальных культур і літаратур на тэрыторыі СССР. На вялікі жаль, прыходзіцца канстатаваць, што „Наступ“ першым сваім нумарам стаў на памылковыя пазыцыі.

Мы ведаем Бярозку па артыкулах у „Узвышшы“ за 1927 і 1928 г. Нам вядомы тагочасныя варожыя адносіны Бярозкі да беларускай пралетарскай літаратуры, да БелАПП'у, ягоная роля сьпевака пахвал па адрасу правых, нацыянал-дэмакратычных пісьменьнікаў тагочаснага „Узвышша“, ягоныя тагочасныя пазыцыі ў мэтадалёгіі, як фармаліста, эпігона В. Шклоўскага і г. д.

Ну што-ж,—можна сказаць,—усё гэта справы даўно (ці даўно?) мінулага. Бярозка мог перагледзець свае пазыцыі, павучыўшыся марксызму-ленінізму, пераўзброіцца, стаць на новыя ідэалёгічныя пазыцыі і г. д.

Але... але гэта толькі можна сказаць аб мажлівым. У сапраўднасьці мы бачым ня гэта. Што Бярозка пачаў перавучвацца—гэта факт. Але як і ў каго?.. Ня будзем адказваць за яго. Бярозка сам за сябе адкажа:

„Але, і гэта трэба падкрэсьліць, у разьвіцьці асобных элемэнтаў творчасьці ў некаторых з пралетарскіх пісьменьнікаў Беларусі наглядаецца вядомая дыспрапорцыя. Калі палітычна такі пісьменьнік стаіць як быццам на ўзроўні вельмі высокіх патрабаваньняў, дык нельга сказаць, што ў такой-жа меры яго літаратурная праца можа задаволіць нас у пляне яе „творчага мэтаду“.

(„Наступ“ № 1, стар. 115).

За гэтымі словамі мы яскрава бачым новага настаўніка, новага вучня Бярозкі. Гэта ніхто іншы, як меншавік Пераверзеў з яго літаратуразнаўчай канцэпцыяй адгароджваньня літаратуры ад палітыкі, разрывам сьвядомасьці і пачуцьцяў, як нечага падсьвядомага, стыхійнага. Выходзіць, што сьветапогляд пісьменьніка, яго „палітычны ўзровень“ і творчы мэтод—гэта нешта разлучанае, асобнае адно ад другога. Але Бярозка на гэтым ня спыняецца, ён лёгічна працягвае і тут

мы ўбачым ужо спалучэньне меншавіцкай концэпцыі з яго ранейшым фармалізмам. Адгэтуль і своеасаблівае тлумачэньне—меншавіцка-фармалістычнае—адставаньня. За вышэйпададзенай вытрымкай ідзе наступнае:

„Аб'ектыўна гэта (разрыў ідэалёгіі, палітычнага ўзраўню і творчага мэтаду.—Ул. Г.) азначае тое-ж адставаньне ад узрастаючай сацыялістычнай рэчаіснасьці і прыводзіць да стварэньня твораў з надзвычайнай неадпаведнасьцю паміж матэрыялам у шырокім сэнсе і формай яго белетрыстычнай арганізацыі. Старая схэма ня вытрымлівае новай, неўласьцівай ёй нагрузкі, трашчыць і распаўзаецца, альбо, наадварот, падпарадкуе сабе матэрыял, у выніку чаго мы маем прытупленьне сацыяльнае актыўнасьці твору і значную нэўтралізацыю ўкладзенай у яго рэвалюцыйнай накіраванасьці".

(„Наступ", стар. 115)

Для нас мэтод, гэта—адносіны пісьменьніка да рэчаіснасьці, сьветапогляд. А сьветапогляд, іначай кажучы ідэалёгія, уключае ў сябе як-раз і палітычныя погляды пісьменьніка і г. д. У Бярозкі-ж палітычны ўзровень пісьменьніка, г. зн. яго сьветапогляд і творчы мэтад—зусім адрозныя паміж сабою катэгорыі. Мэтад не залежыць ад палітычнага ўзроўню. Ён зводзіцца фактычна да фармальна-кампазыцыйных катэгорый—формы, кажучы коратка. За гэта ясна гавораць бярозкавы аналёгіі: дыспрапорцыя палітычнага ўзроўню і творчага мэтаду і неадпаведнасьць паміж матэрыялам у шырокім сэнсе (у сэнсе таго-ж палітычнага ўзроўню) і формай яго белетрыстычнай арганізацыі (мэтадам—у бярозкавым разуменьні). І дарма Бярозка клянецца на кожным сказе словамі, накшталт „дыялектычны матэрыялізм", „сьветапогляд пралетарыяту", „мэтад пролетарскай літаратуры" і г. д. Не разумее правільнай пастаноўкі пытаньня дый толькі. Дый яно зразумела—чалавеку, які выбраў для свайго перавучваньня за настаўніка Пераверзева, седзячы па-ранейшаму па вушы ў балоце фармалізму, дый спэкулюючы ў 1932 г. (год выхаду часопісу) даўно асуджанымі ўсёй пралетарскай літаратурай літфронтаўскімі адкідамі. А каб пераканацца ў гэтым—пару фактаў.

1. Змычка з Беспалавым у фармалістычным разуменьні мэтаду, не як сьветапогляду, а як сумы тэхнічных прыёмаў. Гэта ўжо даведзена вышэй.

2. Фармалістычнае высоўваньне на першы плян жанраў і ігнараваньне вядучай ролі сьветапогляду. Адгэтуль літфронтаўскае, авангардзіцкае высоўваньне на першы плян нарысу: „асаблівую вастрыню набываюць пытаньні жанру... На нашых вачох, напрыклад, істотную і дужа паказальную эвалюцыю панесьлі фэльетон і нарыс, *якія высунуліся ў першыя шэрагі* літаратурнага наступу пралетарыяту" (падкрэсьлена мною.—*Ул. Г.*).

3. Тэндэнцыі лефаўска-літфронтаўскага напляваецельства па адрасу літаратурнай спадчыны, накшталт спробы адмаўленьня яе. Бярозка нашы адносіны да спадчыны фармулюе як „перапрацоўку літаратурнай спадчыны і яе *адмаўленьне*" (?!) (падкрэсьлена мною—*Ул. Г.*) („Наступ" стар. 126).

А часта пад гэтымі новымі адзежынамі, якія паспрабаваў усьцягнуць Бярозка на сябе, на сваю ранейшую сутнасьць, ён стараецца

працягнуць тое, што працягваў яшчэ ў гады свайго „ўзвышэнства", і што тады атрымала рэзкі адпор, накшталт стварэньня „камуністычнага, авантурнага" (стар. 116) рaману. Ён забываецца на несумясьцімасьць камуністычнага і „авантурнага"—гэтага параджэньня амэрыканскага капіталістычнага ўкладу.

Наогул пячатка філістэрства ляжыць на ўсіх кампанэнтах артыкулу, стылістыцы і слоўным „багацьці", накшталт „раскрыцьця літаратурнага зьместу лёзунгу *пра* мэтад дыялектычнага матэрыялізму ў мастацтве", альбо—„пэрсанажы Галавача *„працуюць"* з палегчанай псыхолёгічнай нагрузкай" і г. д. да безьліча. Адзнака філістэрства з меншавіцка-літфронтаўска-фармалістычнай закваскай ляжыць і на ўсіх канкрэтных аналізах Бярозкам творчасьці Мурашкі і Галавача. Філістэрская лёгкасьць і безадказнасьць падыходу, слоўнае начотніцтва і адсутнасьць якога-б то ні было сур'ёзна глыбокага прадумваньня—такі надворны бок гэтых „творчых характарыстык".

У сьвятле змаганьня за бальшавіцкую партыйнасьць літаратурнай крытыкі яны павінны атрымаць належны адпор.

Паўлюк Шукайла ўзяўся разьвязаць вельмі важную праблему—„праблему суб'ектыўнага і аб'ектыўнага ў мастацкім творы". За правільнае вырашэньне праблемы можна было-б толькі падзякаваць.

Але... (зноў але!) прыходзіцца з жалем адзначыць адваротнае. Вырашае ўзятую праблему Шукайла з напоўпераверзеўскіх, з напоўлітфронтаўскіх пазыцый.

„У яго (літаратуразнаўства.—*Ул. Г.)* задачы—піша Шукайла—уваходзіць выкрыць у дадзенай зьяве дэтэрмінуючую аснову, сацыяльную рэчаіснасьць, якая параджае яе, у творчым прадукце суб'екта, што творыць (пісьменьніка), знайсьці адлюстраваньне аб'екта (рэчаіснасьці)".

(„Наступ", стар. 127).

Чым гэта розьніцца ад палажэньня Пераверзева, які задачы літаратуразнаўства зводзіць да „расскрытия в суб'ективном об'ективного, в суб'екте найти об'ект",—што выцякала з пераверзеўскага раствареньня суб'екта ў аб'екце, адмаўленьня функцыянальнасьці літаратуры. І не выпадкова ў такім разе аб партыйнасьці ацэнкі, аб змаганьні за партыйнасьць літаратуразнаўства Шукайла ва ўсім артыкуле і не ўспамінае, ды праблема партыйнасьці здымаецца шукайлаўскай канцэпцыяй, вытокі якой ідуць ад Пераверзева. Для меншавіцкай канцэпцыі Пераверзева зьяўляецца характэрным разгляд мастацкай літаратуры, не як ідэалёгіі, адлюстраваньня ў сьвядомасьці, мышленьні аб'ектыўнай рэчаіснасьці, а як мэханістычнае адэкватнае выяўленьне яе. Шукайла здымае ўсе спрэчкі аб творчым мэтадзе, як клясавым сьветапоглядзе пісьменьніка, ад клясавых пазыцый якога і залежыць мера аб'ектыўнасьці ці адпаведнасьці рэчаіснасьці і мера яе скажэньня. Усе гэтыя спрэчкі ён лічыць „недыялектычна-матэрыялістычным разуменьнем пытаньня", „эклектычнымі спрэчкамі":

„Не дыялектычна-матэрыялістычнае разуменьне пытаньня аб літаратуры і рэчаіснасьці прыводзіла і прыводзіць дасьледчыкаў і крытыкаў да эклектычных спрэчак, напрыклад, аб тым, што адлюстроўвае той ці іншы твор: *рэчаіснасьць, ці ён яе скажае* (падкрэсьлена Шукайлам — *Ул. Г.),* праўдападобна ці надумана. Сапраўдна ці тэндэнцыйна.

Утвараюцца цэлыя дыскусіі на тэму: ці ёсьць у жыцьці такі тып, які абмалёваны аўтарам у творы. Яшчэ дагэтуль у школе тлумачуць вучням, што іх ня існуе ў сапраўднасьці, і што наогул гэтыя творы не адлюстроўваюць рэчаіснасьць, а зьяўляюцца фантазіяй, міфам і г.д."

(„Наступ", стар. 128).

Тут мы бачым яўна пераверзеўскае, мэханістычнае разуменьне літаратуры, як простага „воспроизведения" аб'ектыўнай рэчаіснасьці. Таму ён лічыць „эклектызмам" і „неразуменьнем пытаньня" гаворкадносна скажэньня рэчаіснасьці ў тым ці іншым творы, і што залежыцьі ад сьветапогляду, у якім праламляецца апошняя рэчаіснасьць і інш. Адгэтуль зразумела, чаму Шукайлам здымаецца праблема партыйнасьці аб якой ён лічыць патрэбным не ўпамянуць на працягу ўсяго свайго вялікага артыкулу.

„Нас мала цікавіць, ці існаваў у жыцьці селянін Артамон Пегіх, узяты з аповесьці Сэйфулінай „Перагной", ці не, але мы прымаем яго за рэальны паказ рэчаіснасьці. У грамадзкіх поглядах і псыхалёгіі Артамона Пегіх мы знойдзем выраз пэўнай сацыяльнай рэчаіснасьці, яго вуснамі гаворыць грамадзкая фармацыя, мышленьне і дзеяньні якой дэтэрмінаваны быцьцём".

(„Наступ", стар. 130).

Гэта абек'тывісцкая пастаноўка пытаньня, а не партыйна-бальшавіцкая ацэнка мастацкага твору, яго клясавай сутнасьці, функцыі. У Сэйфулінай скажэньне рэчаіснасьці відавочнае. Прычыны гэтага скажэньня ляжаць у дробнабуржуазнасьці сьветапогляду пісьменьніцы

Аб'ектывізм, у корані варожы нашай бальшавіцкай партыйнасьці наскрозь прасякае артыкул Шукайлы.

„Усякі мастацкі твор—піша Шукайла—тэндэнцыйны, бо ён адлюстроўвае рэчаіснасьць у сацыяльнай дыфэрэнцыяцыі (?), але ўсякі твор і нетэндэнцыйны, бо ён народжаны аб'ектыўнай рэчаіснасьцю".

(„Наступ", стар. 129).

Тэндэнцыйнымі зьяўляюцца толькі тыя творы, якія навязваюць аб'ектыўнай рэчаіснасьці свае лёгічныя довады, гвалцяць гэтую рэчаіснасьць. Гэта харктэрна для тае клясы, супроць якой ідзе аб'ектыўны ход рэчаіснасьці на даным гістарычным этапе—для буржуазіі. Таму буржуазная літаратура цалкам тэндэнцыйная, і толькі тэндэнцыйная. Яна ня можа адначасна быць не тэндэнцыйнаю, як гэта сьцьвярджае Шукайла. Наадварот, пралетарская літаратура—не тэндэнцыйная, бо гэта літаратура ўзыходзячай клясы і разьвіцьцё аб'ектыўнай рэчаіснасьці за яе. А меншавіцкі аб'ектывізм, антыгістарызм шукайлаўскай „канцэпцыі" не дае магчымасьці яму гэта зразумець. Часам меншавіцкі аб'ектывізм даходзіць да свайго апагея. Прыкладам, ён піша:

„Такім парадкам твор Пушчы, як і твор кожнага (!) мастака, паказвае рэчаіснасьць ў сацыяльнай дыфэрэнцыяцыі, у супярэчнасьці.

Тое-ж самае ў адносінах герояў, і наогул дзеячых асоб мастацкага твор. Для дыялектыка-матэрыяліста, які ўладае зброяй марксыцкаленінскага мэтаду ў літаратуразнаўстве, няма ніякай патрэбы адмаўляць існаваньне ў рэчаіснасьці таго ці іншага тыпу, пэрсанажу мастацкага твору.

Толькі наіўныя людзі, якія пры азначэньні ці існуе той ці іншы герой выходзяць са сваёй асабістай, іншы раз вельмі і вельмі абмежаванай практыкі, могуць адмаўляць магчымасьць іх існаваньня ў рэчаіснасьці, „праўдападобнасьці" іхняга паказу і г. д.".

(„Наступ", стар. 129).

Значыць, рэчаіснасьць пад пяром кулацкага пісьменьніка таксама па Шукайлу носіць „праўдападобны" паказ. А вобраз героя камуніста ў паказе буржуазнага пісьменьніка таксама па Шукайлу носіць „праўдападобны" характар і ў такім-жа выглядзе існуе ў рэчаіснасьці. Наша сацыялістычная рэчаіснасьць у паказе рэакцыйнага пісьменьніка таксама носіць па Шукайлу „праўдападобны" паказ. Дык вось яно ў чым справа! Далей здаецца ісьці ўжо некуды. І гэта тады, калі ў іншых мясцох Шукайла заяўляе: „Паказ рэчаіснасьці ў мастацкім творы ёсьць у той-жа час паказ у ім адносін да рэчаіснасьці самога мастака" (стар. 132) і таму падобнае. Як-жа тады ўвязаць гэта з „праўдападобнасьцю" паказу рэчаіснасьці „кожным (!) мастаком", бо паказваючы рэчаіснасьць і выказваючы адначасна свае да яе адносіны, буржуазны пісьменьнік скажае гэту рэчаіснасьць, падае яе ў сваім разуменьні, падае ў суб'ектыўна-клясавым аспэкце. А мо' Шукайла пад „дыфэрэнцыяванай рэчаіснасьцю" мае на ўвазе толькі быцьцё тае клясы, прадстаўніком якой зьяўляецца даны мастак? Але і ў такім разе Шукайла зноў упёрся ў пераверзеўскае „замкнутае быцьцё"— гэтае зачараванае кола, з якога ня выйсьці пісьменьніку. Ды і ў такім разе быцьцё буржуазіі буржуазным пісьменьнікам ня будзе правільна пададзена, бо гэта значыла-б сарваць з сябе, з свае клясы маскі хлусьні, якімі буржуазія стараецца прыкрыць сваю эксплёататарскую сутнасьць. Значыць, паказ буржуазным пісьменьнікам і быцьця свае клясы ня будзе адпавядаць аб'ектыўнай рэчаіснасьці, ня будзе „праўдападобным". На гэты „праўдападобны" паказ прэтэндуе толькі адзін прэтэндэнт і адзіны—пралетарская літаратура, якая зацікаўлена ў скіданьні ўсіх і ўсякіх масак з буржуазіі. Словам, у Шукайлы „куды ні кінь—усюды клін". Шукайла заблытаўся, зусім заблытаўся!

Знайшоў месца ў Шукайлы і меншавіцтвуючы ідэалізм, спалучаны з фармалізмам. Ён выразіўся ў рэцэдывах ад тэорый іманэнтнага, замкнутага ў сябе разьвіцьця літаратурнага раду, не абумоўленага разьвіцьцём аб'ектыўнай рэчаіснасьці. Мэтад Цішкі Гартнага з яго „Здарэньнем з камісарамі" па Шукайлу вынікае з творчага мэтоду Талстога і нічым ад апошняга не адрозьніваецца. Мэтад Талстога „вынік зрабіўся прычынаю" (стар. 134) мэтаду Гартнага. Неразуменьне зусім іншага якаснага характару мэтаду Гартнага, узьнікшага на зусім іншай аснове, іншым сьветапоглядзе, абумоўленага зусім іншым сацыяльным быцьцём.

Усякіх іншых казусаў можна вынайсьці ў Шукайлы безьліч. У адным месцы Шукайла піша: „вобраз, які зьяўляецца асновай мастацкага твору, зьмяшчае ў сваёй пабудове элемэнты (усяго?—Ул. Г.) функцыі") (стар. 136).

Паўнейшая блытаніна. Аснова мастацкай вытворчасьці—зьмест, ідэалёгія, сьветапогляд. Вобразы—толькі форма выяўленьня гэтае ідэалёгіі. У Шукайлы наадварот. Атрымоўваецца фармалізм, спалучаны з пераверзеўшчынай.

Аналізуючы творчасьць Пушчы, Шукайла часамі сваю крытыку пачынае весьці з вялікадзяржаўніцкіх пазыцый. Ён пачынае біць за нацыянальную форму, а не за буржуазны зьмест у гэтай творчасьці, падмяняць крытыку палітычнай, нацыянал-дэмакратычнай сутнасьці дробязнымі нападкамі за ўжываньне „васількоў" і інш. Тым самым Шукайла пераклікаецца з ухілістам у бок вялікадзяржаўнага шавінізму Вальфсонам, які таксама крытыку буржуазнага зьместу падмяняў крытыкай нацыянальнай формы, скатваўся да крытыкі „васількоў" і г. д. і пазыцыі якога былі асуджаны спэцыяльнай пастановай ЦК КП(б)Б.

Цікава, што тыя тэорыі аб перавыхаваньні маладога кулака, за якія Шукайла атрымаў належны адпор у Маскве, ён працягвае і тут, раячы Пушчу „стаць зусім сабе процілеглым, адмовіцца ад сябе сапраўднага" (стар. 163).

Пярэйдзем зараз да творчае, вершаванае практыкі Паўлюка Шукайлы. А ён, акрамя літаратуразнаўчага артыкулу, зьмясьціў і два вершы „Стогне, рыдае зямля" і „Паэма бальшавіцкай вясны".

Першы верш „Стогне, рыдае зямля" напісаны на тэму аб Заходняй Беларусі. У нас так мала мастацкіх твораў пра Заходнюю Беларусь, што ўсялякую, больш-менш удалую спробу ў гэтай галіне мы павінны вітаць і стымуляваць. Але нельга сказаць гэтага аб Шукайлавым вершы. Па поваду палітычнага рауту польскіх і заходня-беларускіх фашыстаў, які адбыўся ў Вільні мінулага году, Шукайла піша:

„Краіна мая,
    прастараляная вякамі (?)
Табе *ізноў*
    хтосьці кінуў камень,
Каб застагнала ты
    пасохшымі грудзьмі.
Табе *ізноў*
    майструюць шыбельніцу,
Табе *ізноў*
будуюць турмаў гмах"...

Былі значыць, часы, калі ва ўмовах фашысцкай дыктатуры Польшчы Заходняя Беларусь ня была „залітая крывёю і сьлязьмі", „не стагнала пасохлымі грудзьмі" і ёй „не майстравалі шыбеніц" і не „будавалі турмаў гмахі". А цяпер пачалі зноў. Такім чынам выходзіць, што ў фашысцкім тэроры і прыгнечаньні Заходняй Беларусі быў нейкі перапынак,—фашысты пэўны час ня дзейнічалі, а пасьля „ізноў" пачалі дзейнічаць. Шукайла відаць ня бачыў гэтага ўціску і на працягу пэўнага часу і толькі палітычны раут польскіх і заходня-беларускіх фашыстаў прымусіў яго гэта заўважыць. Ён не разумее рауту, як аднаго з зьвеньняў суцэльнага ўціску Заходняй Беларусі. А гэта палітычная памылка і не малазначнага памеру. Далей Шукайла становіцца ў позу хлюпіка-інтэлігента і пытае:

„За што?
За што
Мы церпім
    гэты зьдзек?"
(„Наступ", стар. 25).

Пралетарыят, паважаны паэта, ня пытаецца—„за што?", бо ён ведае, што гэты зьдзек і ўціск адбываецца ў інтарэсах буржуазіі

і памешчыкаў. А таму ён пераходзіць да контратакі, да спробаў нізрынуцьця панаваньня буржуазіі. А Шукайла ўсюды сьцьвярджае, што працоўныя масы Заходняй Беларусі на белы тэрор, сацыяльна-нацыяльны ўціск не адказваюць контратакай,—пасыўнічаюць. Зварачваючыся да прыгнечаных мас Заходняй Беларусі, Шукайла кажа:

„За што хаваем
так глыбока
помсту?
. . . . . . . . .
Ды што гэта мы
Ня гойстрым нажы,
Ці ня чуем мы
грукат вайны?
Ці ня чуем мы стогну гаёў?
ўзрыду зямлі“

(„Наступ“, стар. 25).

Дагаварыўся Шукайла да таго, што нават быццам і працоўныя масы сьвядома „глушаць у сябе помсту“ і аб ніякіх узброеных паўстаньнях і ня думаюць:

„Дык чаго-ж
гэта мы,
любыя браты,
Помсту самі ў сябе
глушым?
Да чаго-ж
гэта ты,
баявы карабін,
Так павіс
на плячы
безнадзейна,
Ці ня думаеш ты,
што ня будзе
гадзін,
Калі мы
у сусьветную
стрэльнем“.

(„Наступ“, стар. 26).

Мы павінны моцна ўдарыць па гэтых, здавалася-б ультралевых, сьцьверджаньнях адсутнасьці ў Заходняй Беларусі рэвалюцыйнага пад'ёму і набліжэньня рэвалюцыі,—сьцьверджаньнях, якія ідуць на выгоду польскім і заходня-беларускім фашыстам.

Шукайла паклёпнічае, такім чынам, на КПЗБ, КПП, якія вядуць пралетарыят і працоўнае сялянства Заходняй Беларусі і Польшчы адзіным рэвалюцыйным фронтам у контратаку на фашысцкую дыктатуру Пілсудзкага.

Другі Шукайлаў верш „Паэма бальшавіцкай вясны“ зьдзіўляе сваёй нахабнасьцю, чванствам, самахвальствам. Проста зьдзіўляе, скуль гэта ў чалавека хапае сумленнасьці і адвагі друкаваць такія самарэклямныя ацэнкі сваіх твораў, накшталт:

„Гляньце!
Зіхаціць
бальшавіцкая кроў“!

(„Наступ“, стар. 27).

Гэта Шукайла пра *сваю* „песьню", *свае* вершы. Ягоныя выказваньні аб іншых ня йначай, як у такім тоне:

„Я аплёўваю
літпрастытутак
пляж,
Я плюю
фон-баронам
ад крытыкі...
Самае горшае—
падхалімаж
Ачырвонены
і плянава
вытканы".

(„Нуступ", стар. 27).

Гэта пра нашу літаратурную сучаснасьць. Аб сабе-ж Шукайла іначай, як аб „солі зямлі" і нямысьліць. Вось яго самахарактарыстыка

„Я кожнае слова
перажыў пачуцьцём.
Я кожную думку
каваў
у кузьні клясы.
Каб гісторыя
маёй (!) паэзіі
ключом—
Адмыкала рэнэсансы(?)".

(„Наступ", стар. 28).

А у іншым месцы ён проста заяўляе.

„Мая(!) паэзія—
дырэктывы Сталіна.
Мы загады—
пішам вякам".

(„Наступ", стар. 27).

Дык тут-жа мы павінны рэзка і аўтарытэтна заявіць, што гэта параўнаньне зьяўляецца паклёпам на дырэктывы партыі, апаганьваньнем іх Паўлюком Шукайлам, бо да ягонай вершаванай „творчасьці" лепшых слоў для характарыстыкі і не падбярэш, як словы самога-ж Шукайлы ў яго вышэйзгаданым артыкуле:

„Пры знадворнай крыклівасьці, трагічнасьці, яны могуць быць унутрана пустыя, без канкрэтнага зьместу, ці проста рэакцыйным сьметнікам, ліквідуемым пануючай клясаю" („Наступ", стар. 140).

Вершы Звонака „Абрысы наступнага", „Кастрычніка нашчаткам, бурнаму племю" і „Начное падарожжа" перадрукаваны „Наступам" з менскіх часопісаў, як, дарэчы, і верш Рыгора Казака „Песьня аб рэчах" з ягонага старога зборніка „Паэзія чырвонаармейца". Гэтым фактам ад „Наступу" адымаецца неабходная якасьць усялякага часопісу, патрабаваньне сьвежасьці і арыгінальнасьці матэрыялу, які друкуецца на яе старонках. Але нам важней тое, што якасьць гэтага, хай і старога, матэрыялу вельмі і вельмі нізкая. Вершы Звонака, ня гледзячы на тое, што піша ён ўжо даўно—не адзін год,—надзвычайна слабыя. Яны вядома гладкія, прычэсаныя. Аўтар набыў за шмат гадоў сякую-такую тэхніку, уменьне будаваць верш. Але не хапае ім жывога, творчага дыханьня, паэтычнага пульсу, які сваім біеньнем заставіў-бы захваляваца па-

чуцьці і думкі чытача, накіраваць іх у пэўным напрамку. Коратка кажучы, схэматычныя, павярхоўныя. Пераважае агульнае рыторыка і патэтыка. Прачытаеш верш, а сьледу ніякага. Апрача таго пападаюцца часамі і нездаровыя, шкодныя моманты. У вершы „Абрысы наступнага" ёсьць адценьні авангардысцкага разуменьня нашае моладзі. Падаецца вобраз „сьлесара-ўдарніка", у мінулым—героя грамадзянскай вайны, і які цяпер:

„Упарта наперад
(як некалі) крочыць.
А будзе патрэбна
ізноў ў эскадроне
Ён будзе рубака,
баец,
кулямётчык".

(„Наступ", стар. 73).

І вось цяпер ён (а ў вершы ў ім увасоблена старэйшае бальшавіцкае пакаленьне наогул) падаецца, як адстаўшы ад моладзі. Моладзь ідзе ўперадзе і яе роля, па Звонаку, вядучая. І таму:

„...сьлёсару цяжка
дагнаць нашу моладзь.
У іншым, нябачным у сьвеце,
паходзе".

(„Наступ", стар. 73).

Такая авангардысцкая нотка, забыцьцё кіруючай у адносінах да моладзі ролі старэйшых, бальшавікоў,—гучыць і ў вершы „Кастрычніка нашчаткам, бурнаму племеню".

Апавяданьне Звонака „Даёш трыццаць пяць", Бобрыка „Андрэй Дробуш" і К. Губарэвіча „Маяк" па сваёй тэматыцы сьведчаць аб дадатнай зьяве—спробе пераключыцца на рабочую тэматыку, на адлюстраваньне сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва на фабрыках і заводах. Гэта зьява станоўчага парадку. Але новая тэматыка яшчэ не вырашае ўсяе справы. Важна ў сьвятле якога сьветапогляду, якім мэтодам распрацоўвае пісьменьнік гэту тэматыку. І тут, асабліва ў апавяданьнях Звонака і Бобрыка, назіраюцца значныя рэцэдывы дробнабуржуазнага сьветапогляду, мэтаду лякіроўкі рэчаіснасьці—літфронтаўшчыны. Апавяданьні гэтых абодвых надзвычай схэматычныя, надуманыя, непераканаўчыя. І гэты схэматызм, літфронтаўшчына перш за ўсё ў уяўленьні аб чалавеку, рабочым-ударніку, як аб нейкім мэханізьме, а ня жывой істоце з усімі ўласьцівасьцямі жывога чалавека. Гэта ў мэханістычным разрыве асабовага і грамадзкага і ў адмаўленьні першага. Звонак, прыкладам, лічыць, што камсамольскі білет і... каханьне несумяшчальны.

„У Мар'яны ёсьць сэрца і камсамольскі білет. Апошняму яна падначалена, першае па магчымасьці падначальваецца ёй. Але незаўсёды". І гэта „незаўсёды" таму, што „сэрца мае ня толькі ўласьцівасьць стукаць то роўна, то часта-часта, але і... кахаць". А гэта незаўсёдняе „падначальваньне"—кажучы тэрміналёгіяй Звонака,—камсамольскім абавязкам, „камсамольскаму білету" не дае права называцца камсамольцам. Такім чынам, Звонак пазбаўляе права камсамоль-

цаў на каханьне. Гэтак выглядае вульгарнае, літфронтаўскае ўяўленьне аб асабовым і грамадзкім.

Такія-ж пошлыя і прыёмы абмалёўкі,—накшталт, запазычанага прыёму з буржуазна-мяшчанскага раману: „Мар'яна ўвечары чытае, а са старонак ухмыляецца ёй Кастусёва морда(!!)" (стар. 9). „Кастусёва морда сьмяецца з вокладкі" і г. д. А ўсе героі Звонака гавораць выключна аднолькавай, сухой пратакольнай мовай. А каб чытач не абвінаваціў у крайнім схэматызьме, адсутнасьці індывідуалізацыі герояў і іх дыялёгаў—у літфронтаўскай абязьлічцы,—Звонак гэтак апраўдвае свой схэматызм: „Так гаварыў бальшавік. Сапраўдныя бальшавікі заўсёды(?) скупыя(!) на квяцістыя(?) сказы! Бо гэта людзі справы, веліч якой нельга апашляць квяцістасьцю сказаў, якія самі па сабе зьяўляюцца першаю адзнакаю ўнутранай пустаты" („Наступ", стар. 12).

А мы скажам, што такое літфронтаўскае ўяўленьне аб бальшавіку, як аб абязьлічаным чалавеку, павінна атрымаць рэзкі адпор. Усприняцьце заводу Звонакам наогул носіць інтэлігенцкі (у горшым разуменьні гэтага слова) характар. Завод цісьне аўтара сваёй цеснатою, грукатам, стукатам і інш. Адчуваецца паўнейшае яго няведаньне і ўяўленьне аб ім толькі па тым, што некалі выпадкова заглянуў у яго.

У апавяданьні Янкі Бобрыка „Андрэй Дробуш" герой Андрэй увесь растварыўся ў заводзе. Ён ня існуе па-за заводам, як ня існуе. ў ім нічога асабовага. Каханьне ён ніколі ня ведаў. Яго яму замяніла любоў да фабрыкі, ды, па сутнасьці, ня любоў, а каханьне да машын. Апошнія ў уяўленьні пісьменьніка зацямнілі сабою ўсяго чалавека. Ён стаў прыдаткам машыны. Вось словы Андрэя: „Я ня ведаю, што значыць каханьне"... А мо' гэтае самае каханьне,—працягваў Андрэй,—пашло на любоў да фабрыкі, да варштату, да цэху... А і люблю-ж я, прызнацца, фабрыку. Да пячонак люблю яе сукіну дачку" (стар. 98). Андрэй „паглядае на машыну. Ён яе любіць, шануе, песьціць, як сваё дзіця, ён жыве ёю, радуецца яе бесьперабойнаму ходу, хварэе з ёю пры першай ненормальнасьці цела машыны" (стар. 104). „Яго цягнула на фабрыку, як цягне чалавека да хворае любімае яму істоты, у якой ён, як яму здаецца, доўга ня быў...", (стар. 104).

Тут мы маем яўнае дробна-буржуазнае дзяляцтва, літфронтаўскае неразуменьне, што *ашчадныя* адносіны да машыны, да фабрыкі яшчэ зусім ня значыць ліквідацыю рабочага-ўдарніка, як індывідуальнасьці, як чалавечае асобы, і яе абязьлічваньне. Гэткае ўяўленьне аб нашым рабочым-ударніку як аб абязьлічаным, бяздушным прыдатку да машыны, зьяўляецца характэрным для буржуазнага разуменьня за мяжою, для ворагаў сацыял-фашыстаў, Кауцкага, Троцкага і К°. Гэта ўяўленьне цалкам варожае пралетарскай літаратуры, варожае дыялектычна-матэрыялістычнаму творчаму мэтаду.

Крыху лепшае ўражаньне пакідае апавяданьне Губарэвіча „Маяк". Апавяданьне з цікавасьцю чытаецца, ня гледзячы на нескладанасьць тэмы і сюжэту—зварот пэнсыянэра героя працы Рамана Пятровіча, узнагароджанага ордэнам працы, на завод для ліквідацыі прарыву. Праўда, з боку апрацоўкі, і асабліва моўнай, Губарэвіч пакідае чакаць лепшага.

Каштоўны па сваёй ідэі інтэрнацыянальнай салідарнасьці працоўнай моладзі ўсіх краін і верш Алеся Шэйдліна—„Толькі аднэй навучыў

мяне край". Да ліку лепшага ў зборніку адносіцца і апавяданьне Казака „Таварыш Латкін" на тэму з чырвонаармейскага жыцьця, хоць і яно не пазбаўлена значных недахопаў. Мы цяпер ня будзем на іх спыняцца. Гэта справа адмысловая.

Такім чынам, калі ня лічыць адзінкавых, тонучых у астатнім матэрыяле досыць абёмістай кнігі „Наступу", твораў у асноўным творчы твар „Наступу", яго ідэёва-мастацкі кіраўнік мы вымушаны з жалем прызнаць памылковым. Пазыцыі для „Наступу" выбраны літфронтаўскія, напоўпераверзеўскія і фармалісцкія ў крытыцы. Па крайняй меры,—значныя памылкі такога парадку ў наяўнасьці. Гэта гаворыць за неабходнасьць перагляду рэдакцыяй і ўсімі ўдзельнікамі зборніку сваіх пазыцый пад кутом гледжаньня рашучага выкарчоўваньня ўсіх літфронтаўскіх, пераверзеўскіх і фармалісцкіх рэцэдываў, пад кутом погляду змаганьня за марксысцка-ленінскае літаратуразнаўства, за дыялектычна-матэрыялістычны творчы мэтад пралетарскай літаратуры. Толькі пры ўмове такое перабудовы выхад часопісу будзе апраўдваць надзеі, ускладзеныя на яго. А гэтага пакуль што няма. Пазыцыі часопісу яўна памылковыя.

г Менск, красавік 1932 г.

---



# ЭПІГРАМЫ і ПАРОДЫІ

Сабасьцян Старобінскі

## Цэхавыя будні

*(Пародыя на П. Броўку)*

Стаіць Камуна
        Ля варот,
— Ну адчыняй!
        Крычыць,
Ён усьміхаецца
        Праз плот,
Прагульшчыкі,
        Рвачы.
Гады як шторм,
        А ім пляваць,
Як паўлітроўка
        Ноч.
І ў цэхах
        Будні малявать,
Ня кожны
        З іх ахвоч.
Я сонца
        Выняў з кобуры,
Аслабаніў
        Ёй шлях...
Ляжыць ўся зграя
        Дагары,
А я ім—
        Трах,
            Ды трах!
Цяпер нікому
        З іх ня ўстаць,
Такую порцу
        Уліў...
З паперай
        Камуністкаю
Вароты
        Адчыніў.
Ляжала зграя
        Рыгалі,

Канец для іх
        Прышоў.
Я-ж друкаваў
        Ім прыгавар,
На дзесяць
        Аркушоў.

---

Цішка Гартны

# Эпіграмы

*Неапостальнае пасланьне да майго земляка Мікалая Хведаровіча з Старобіну ў аддзяку за падараныя мне пароды*

Скажы, ці помніш ты, зямляк,
як стрэўся я з табою ў Слуцку.
Якім мізэрным, небарак,
Стаяў тады на перапуцьку.

Мяла расквэцаную гразь
Твая падзёртая шынелька;
На ёй блішчэла каламазь
І пояс вісеў, як пяцелька.

Сьвіцеў з-пад шапкі сумны ўзрок—
Суйздром дарылі яго вочы,
І толькі ценкі тэнарок
Бранчэў цвыркунчыкам уночы.

Прышоў здалёк ты, з-пад мяжы,
З глушы старобінскага краю.
Што ты рабіў там, раскажы,
Зямляк мой любы, Мікалаю.

Чуваць было—казаў Сымон—
Нібы па службе ты штодзённа
У чытальні сельскай з-за вакон
Палохаў сон смачны варонін.

Глядзела стрэмліва у сад
Ружжа паржаўленага руля
І зло ў суседзкі інтэрнат
Плявала порахам ці куляй.

Ня думаў я, калі дзіцем
Цябе аставіў у Капылі,
Што стрэчу снайпэрам-стральцом,
Ужо з лягендаю, ня з быльлю.

Ня ведаў я—ня мог зрабіць—
Тады ўпэўнена прагнозу,
Што потым здарыцца нажыць
У табе мне едкую занозу.

Выпадкі, бачу, падвялі,
Як рэпа, часам, у агародзе...
Пценец Капыльскае зямлі
З лірызму зьехаў на пародзьдзі.

І гэтым, браце, выграў фронт,
Бо цэліў спрытна ты ў точку:
Вякоў тваіх шчарбаты кант
Папаў пад верную аточку.

26/IV-32

——

## На Крапіву

Крапіва
Калісь даўней
Тнуў жывёлу і людзей,
А гадоў ужо са два
Як вытах крапіўны дух
І ня жаліць нават мух;
Толькі мае ён падрад
Кляч вадзіць ў скур-сындыкат
У кампаніі з Хвядосам
І ўсягды з чырвоным... носам.

2/V-32

——

## На Глебку

На зямлі Пятро бядняк,
Не набыў сабе й хібаркі...
Ён за тое над вадой
Уздымае... з вады аркі...

1/V-32

——

## На Галавача

Даўней дзядуля Галілей
Меў справу з цэлаю зямлёй:
Круціў-вярцеў яе ў вупор,
Пакуль ня трапіў на касьцёр.

А цяперака Платон
За адзінку ўзяў загон
І як толькі закруціў,

Усе кастры ён загасіў
І яшчэ нагнаў спалох
Сам-жа й пальцы не абжог...

---

## На В. Сташэўскага

I

(Эпіграма)

Над ракою месяц плыў,
А Сташэўскі падлавіў
І ўзьляцеўшы ў паднябесьсе
Над мястэчкам яго зьвесіў.

II

(Мары)

Сьпіць мястэчка—ціш нямая
Як ў калодзезі на дне...
Раптам, бачу, паднімае
Васіль месяц на ражне.

Жах за сэрца—божа ўслушны...
Крымінал хачу крычаць,
І ня ўсьпеў разьвіць я вусны
Як у мястэчку—благадаць.

У небе месяц адмыслоўскі
І бярэзінка шуміць...
Але штосьці Ясіноўскі
Васю зноў на неба мчыць,
Іх праводзіць мандаліна,
Жабы крэкчуць на лугу...
Я гляджу і праз хвіліну
Ужо на месячным кругу
Каін Авеля тне ў сьпіну.

2/V-32

---

# ХРОНІКА

## У літаратурных арганізацыях

### Пісьменьнікі БССР вітаюць пастанову ЦК УсеКП(б) аб перабудове літаратурных арганізацый

9 мая ў Доме пісьменьніка адбыўся сход пісьменьнікаў гор. Менску, прысьвечаны абгаварэньню гістарычнай пастановы ЦК УсеКП(б) пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый.

З дакладам аб задачах пралетарскай і ўсёй савецкай літаратуры выступіў Міхась Лынькоў. Тав. Лынькоў падкрэсьліў своечасовасьць і правільнасьць пастановы.

— Трэба рашуча ўдарыць, — зазначыў т. Лынькоў,—па шкодных думках і настроях, якія расцэньваюць пастанову ЦК УсеКП(б), як удар па пралетарскай літаратуры.

Па дакладу т. Лынькова разгарнуліся ажыўленыя спрэчкі. У спрэчках выступалі т.т. Ц. Гартны, П. Броўка, Крапіва, А. Кучар, П. Шэвэйдаль, Б. Мікуліч, І. Шапавалаў, М. Лужанін і А. Александровіч. Усе выступаючыя віталі пастанову ЦК УсеКП(б) і падкрэсьлівалі вялікае давер'е партыі да савецкіх пісьменьнікаў, і што абавязак апошніх адказаць на пастанову партыі—творамі, вартымі вялікай эпохі будаўніцтва сацыялізму.

Сход пісьменьнікаў прыняў рэзалюцыю, у якой вітае пастанову ЦК УсеКП(б).

### Пісьменьнікі на сяўбе

Для ўдзелу ў правядзеньні 3-яй бальшавіцкай сяўбы разам з брыгадзірамі ЦК КП(б)Б у розныя раёны выяжджалі пісьменьнікі.

А. Александровіч працаваў у брыгадзе ЦК КП(б)Б на чале з тав. Жаброўскім. Брыгада прымала актыўны ўдзел у пасяўной кампаніі ў наступных раёнах: Барысаўскі, Плешчаніцкі, Лагойскі, Крупскі, Талачынскі.

Пісьменьнік І. Харык і М. Крапіва працавалі ў брыгадзе ЦК на чале з т. Чарвяковым. Выяжджалі ў Рэчыцкі і Хойніцкі раёны. Прымалі актыўны ўдзел у сяўбе ў шэрагу беларускіх і яўрэйскіх калгасаў, дзе праводзілі гутаркі па растлумачэньні апошніх пастаноў партыі і ўраду аб с.-г. падатку і хлеба-жывёлазагатоўках.

Т. т. Салагуб і С. Баранавых працавалі ў складзе брыгады ЦК на чале з т. Гантманам у Мазырскім раёне.

У брыгадзе ЦК на чале з т. Шаранговічам выяжджалі пісьменьнікі М. Хведаровіч і М. Лужанін. Брыгада працавала ў Віцебскім раёне.

Знаходзяцца на пасяўной кампаніі ў розных раёнах пісьменьнікі — П. Галавач, М. Лынькоў, М. Чарот, Іл. Барашка.

Будучы на пасяўной кампаніі пісьменьнікі прымалі актыўны ўдзел у правядзеньні ўсіх мерапрыемстваў партыі і ўраду на вёсцы. Па розных раёнах былі праведзены масавыя літаратурныя вечары-выступленьні перад калгасьнікамі. Імі-ж прымаўся актыўны ўдзел у працы раённых газэт як арганізацыяй, так і дасылкай матар'ялаў.

Акрамя выезду пісьменьнікаў з брыгадамі ЦК на пасяўную кампанію па лініі Бел. Аб'ядн. Пралет.-Калгасных Пісьменьнікаў былі камандыраваны наступныя сябры аб'яднаньня: Ц. Зарэчны, М. Пасьлядовіч, Я. Скрыган, З. Астапенка, А. Пальчэўскі і Т. Кляшторны.

### Літаратурная брыгада ў Барысаве

22—24 мая г.г. у г. Барысаў выяжджала брыгада ў складзе пісьменьнікаў: Я. Купалы, С. Баранавых, Ул. Хадыкі, С. Ліхадзіеўскага, А. Кучара і М. Гарцмана. Брыгада правяла чатыры літаратурных вечары: 22 мая для рабочых Нова-Барысаўскіх прадпрыемстваў, 22 мая ранішнік для студэнцкай моладзі Барысава, вечарам адбылося ўрачыстае паседжаньне бюро РК КСМ з шырокім удзелам гарадзкога камсамольскага актыву, дзе С. Ліхадзіеўскім быў зроблен даклад аб паказе камсамолу ў мастацкай літаратуры і аб разгортваньні творчага агляду маладзёжнай літаратуры. 24 мая брыгада выяжджала ў Стара-Барысаўскі с.-г. тэхнікум, дзе таксама правяла літаратурныя выступленьні для студэнтаў тэхнікуму.

За час прабываньня брыгады ў Барысаве, у газэце „Бальшавік Барысаўшчыны" была выдадзена пры ўдзеле брыгады літаратурная старонка.

## Што вышла з друку і над чым працуюць пісьменьнікі

— Вышаў з друку VI том збору твораў Янкі Купалы.

— У красавіку вышаў IV том збору твораў Ц. Гартнага (3-я частка раману „Сокі цаліны“).

— Вышаў з друку зборнік паэзіі Ўл. Хадыкі пад назваю „Выбраныя вершы“. Ім-жа здадзен у друк новы зборнік вершаў „Пра жыцьцё прапетае“.

— Вышаў з друку зборнік паэзіі М. Багуна „Рэвалюцыі“.

— Неўзабаве выходзіць з друку кніжка камсамольскай паэзіі С. Ліхадзяеўскага „Мы маладая гвардыя“. Ім-жа разам з Ц. Зарэчным выдадзена асобная кніжка-нарыс „Паэма пра гэройства“, у якім паказваецца гэрой Бабруйскага камбінату П. Савіч.

— Тарас Хадкевіч выдаў кніжку сваіх вершаў „Сьмялей, таварыш!“

— Друкуецца другім выданьнем кніга паэзіі М. Хведаровіча „Рытмы“.

— Скора выйдзе з друку кніга апавяданьняў С. Сямашкі „Пералом“. Тэма апавяданьняў жыцьцё і будаўніцтва калгасу.

— Вышаў з друку нарыс Я. Скрыгана „Права на энтузіязм“. Другім выданьнем вышла кніжка яго нарысаў „Шугае сонца“. Ім-жа здадзен у друк новы твор „Гомсельмаш“.

— Здадзен у друк другі зборнік творчасьці рабочых-ударнікаў г. Менску.

— Гэтымі днямі здаецца ў друк анталёгія пралетарскае літаратуры, якая павінна будзе выйсьці да 15 гадавіны Кастрычніказай рэвалюцыі. Памер анталёгіі 25 друкаваных аркушоў.

— Акадэміяй Навук падрыхтаван да друку збор выбраных твораў П. Труса. У зборніку будзе зьмешчана да 150 твораў (вершы і паэмы).

— Падрыхтоўваецца да друку Акадэміяй Навук зборнік крытычных артыкулаў па гісторыі беларускай літаратуры. Неўзабаве здаецца ў друк зборнік дакумантаў літаратурных аб'яднаньняў БССР. Да дакумантаў кожнага аб'яднаньня дадаецца ў выглядзе прадмовы крытычны артыкул.

— Вышла з друку п'еска А. Пальчэўскага „З чырвоным сьцягам“, разьлічаная на дзіцячага гледача.

— Вышла з друку „Аповесьць будучых дзён“ Я. Маўра. Ім-жа перавыдадзена другім выданьнем „Сын вады“, і „У краіне райскай птушкі“.

— А. Якімовіч выдаў аповесьць „Перамога“. Аповесьць паказвае ўдзел дзяцей у сацыялістычным будаўніцтве.

— Крапіва працуе над вялікім раманам „Мядзьведзічы“. Тэма раману—рэканструкцыя сельскай гаспадаркі.

— В. Каваль працуе над раманам „Дзень палымнее“ з вайсковае тэматыкі.

— З. Астапенка канчае раман „Вызваленьне сіл“.

— А. Салагуб піша вялікую аповесьць на тэму клясавага змаганьня ў Заходняй Беларусі.

— С. Баранавых працуе над цыклем апавяданьняў на аснове матар'ялу канкрэтнага ўдзелу ў 3-яй бальшавіцкай сяўбе.

— Р. Кобец і А. Вольны працуюць над сцэнарыем да 15 гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Імі-ж напісана камэдыя „Ратуй божа“, якая будзе здадзена для пастаноўкі аднаму з беларускіх тэатраў.

— П. Галавач працуе над вялікай аповесьцю „Торф“. Ім-жа перавыдаецца, нанава апрацаваная аповесьць „Спалох на загонах“.

— Ю. Таўбін канчае вялікую вершаваную п'есу „Доктар Батурын“.

— Т. Кляшторны працуе над зборнікам вершаў з калгаснага будаўніцтва.

— Іл. Барашка працуе над кнігай нарысаў на канкрэтныя тэмы 3-яй бальшавіцкай вясны. Ім-жа здадзена БДТ1 для пастаноўкі п'есы „Романы Зоря“.

## Новая мастацкая часопісь

З 1 ліпеня пачынае выходзіць новая штомесячная часопісь „Мастацтва і рэвалюцыя“.

На сваіх старонках часопісь будзе асьвятляць гістарычныя і тэарытычныя пытаньні тэатру, кіно, выяўленчага мастацтва. Часопісь будзе багата ілюстравацца, як фатаграфіямі, так і малюнкамі.

Памер часопісі 6 друкаваных аркушоў.

У рэдакцыйную калегію „Мастацтва і рэвалюцыя“ ўваходзяць т.т. Платун, Гурскі, Гурэцкі, Александровіч, Модэль, Гітгарц, Гаўрыленка, Грубэ, Гурчан, Шамшур і Вольскі (адказны рэдактар).

Часопісь выдае Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі.

## Помнік У. І Леніну перад Домам ураду БССР

СНК БССР у ліпні 1931 г. абвясьціў конкурс на праект помніку Ў. І. Леніну перад Домам ураду. На конкурс ужо прадстаўлена 25 праектаў. Дырэкцыя, кіраўніцтва пабудовы Дому ўраду на аб'яднаным пасяджаньні прадстаўнікоў Галоўмастацтва і Беларускай арганізацыі мастакоў разглядзела прадстаўленыя праекты і частку з іх накі-

равала аўтарам для ўдасканаленьня сваіх работ. Пасьля звароту праектаў будзе зроблен канчатковы выбар, па ўзору якога і будзе будавацца помнік.

Удзел у складаньні праектаў прынялі выдатныя архітэктары Беларусі, Масквы і Ленінграду.

### Кніга—вёсцы

На пастанову ЦК УсеЛКСМ і заклік М. Горкага аб зборы кніг для вёскі грамадзкасьць Савецкага Саюзу адказвае пасылкай кніг у вёску.

Сярод пісьменьнікаў БССР разгорнута шырокая работа па збору кніг. Камсамольская ячэйка пісьменьнікаў вылучыла спэцыяльную тройку для прыёму кніг. У тройку ўваходзяць т.т. Блісьцінаў, Зарэчны і Алесін.

### Дэкаднік Беларускай Акадэміі Навук

З 20 па 30 красавіка г.г. адбыўся дэкаднік Беларускай Акадэміі Навук. У буйнейшых гарадох БССР было праведзена рад дакладаў на тэмы: культурнае будаўніцтва БССР, разьвіцьцё пралетарскай літаратуры, рост прамысловасьці БССР і рад іншых.

З боку партыйных і грамадзкіх арганізацый дэкадніку было нададзена вялікае палітычнае значэньне. На мясцох была праароблена вялікая падрыхтоўчая работа для праводзеньня дэкадніка.

У Гомелі і Віцебску пры распрацоўцы канкрэтных плянаў дэкадніка прынялі шырокі ўдзел рабочыя з фабрык і заводаў.

Даклады прадстаўнікоў Акадэміі Навук зацікавілі шырокую грамадзкасьць. У Гомелі і Віцебску было зачытана 19 дакладаў, на якіх прысутнічала каля 9 тысяч чалавек. Даклады наведвалі рабочыя з фабрык і заводаў, партыйны актыў, камсамольцы, чырвонаармейцы, каманднa-палітычны склад, студэнты.

Акрамя дакладаў, дакладчыкі ад Акадэміі наведалі рад асьветных устаноў, фабрык і заводаў, дзе праводзілі гутаркі з рабочымі.

Дэкаднік БАН зрабіў вялікую работу ў сэнсе папулярызацыі навукі і ўнядрэньня яе ў масы.

## Тэатр

### Украінскі Чырвоназаводзкі тэатр у Менску

26 мая ў Менск прыбыў Украінскі Чырвоназаводзкі тэатр. 27 мая Першы Беларускі Дзяржаўны Тэатр разам з пралетарскай грамадзкасьцю Менску наладзілі ў будынку тэатру ўрачыстую сустрэчу. Тэатр віталі: ад НКА т. Платун, ад Гаркому КП(б)Б і грамадзкасьці Менску т. Кавальчук, ад літаратурных арганізацый т. Александровіч, ад драматургаў Р. Кобец, ад БДТ1 т.т. Пакроўскі і Літвінаў, ад Яўрэйскага Дзяржаўнага тэатру т. Рафальскі, а таксама прадстаўнікі ад заводаў і фабрык.

Тэатр прабудзе ў Менску да 20 чэрвеня. Рэпэртуар тэатр мае з наступных пастановак: „Кадры“, „Страх“, „Слуга двух паноў“, „Катарскія матросы“.

### Пабудова новага тэатру

У бягучым годзе ў Менску распачнецца будаўніцтва новага тэатру. Тэатр будзе пабудован на Плошчы Парыскай Камуны. Праект тэатру складзен архітэктарам Лаўровым. Тэатр разьлічаны ня менш чым на 2250 гледачоў. Пабудова тэатру скончыцца ў 1934 г.

### Пяць год работы Яўр. Дзярж. тэатру

15 мая пралетарская грамадзкасьць БССР адзначала 5-ці гадовы юбілей Яўр. Дзяржаўнага тэатру.

На буйнейшыя заводы Менску: імя Варашылава, „Камунар“, імя Молатава, „Полымя Рэвалюцыі“, на швэйную фабрыку „Кастрычнік“ і ў чырвонаармейскія часткі гарнізону выяжджалі брыгады працаўнікоў тэатру з мэтай папулярызацыі работы тэатру.

У Гомель і Віцебск выяжджалі супрацоўнікі тэатру для правядзеньні дакладаў аб 5-гадовым юбілеі тэатру.

Тэатр за 5 год сваёй работы мае значныя дасягненьні ў разьвіцьці яўрэйскай пралетарскай культуры і ў выхаваньні новых тэатральных кадраў. За гэты час тэатр выхаваў такіх рэжысэраў, як т.т. Літвінаў, Норд, Айзэнбэрг, Галоўчынэр і інш. Зараз гэтыя таварышы займаюцца кіруючай работай у радзе тэатраў БССР.

Тэатр за час існаваньня наведаў шмат якія гарады СССР (Масква, Смаленск, Кіеў, Харкаў, Адэса, Бердзічаў, Мікалеў, Умань), а таксама прымаў удзел ва Усесаюзнай алімпіядзе, дзе атрымаў ацэнку, як адзін з перадавых тэатраў у Савецкім Саюзе.

— З гэтага году пры БДТ1 арганізоўваецца тэатральны фабзавуч з 2-х гадовым курсам навучаньня, які будзе падрыхтоўваць для тэатру кадры. Вучні забясьпечваюцца стыпэндыяй і інтэрнатам. Сыстэма выхаваньня мяркуецца як ў галіне тэарытычнай дысцыпліны, так і практычны ўдзел вучняў у пастаноўцы БДТ1.

— У канцы мая БДТ1 закончыў у Менску свой сэзон і выехаў у летняе падарожжа ў Гомель, Магілеў. Пасьля падарожжа і адпачынку тэатр вернецца ў Менск і распачне працу над падрыхтоўкай пастаноўкі да 15 гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі.

## КІНО

— На Ленінградзкай кіно-фабрыцы Белдзяржкіно закончана работа над мастацкаабарончай карцінай „Б е г л я ц ы" ў 6 частках па сцэнацыю Басава і Галаванава. Тэма карціны—паказ дэзэртырства.

— Заканчваецца работа над дзіцячашкольным гукавым фільмам „А д б і т а к ч а с у", па сцэнарыю Іцінай. Карціна заклікае дзяцей да пільнасьці ў зьвязку з падрыхтоўкай вайны капіталістамі супроць СССР.

— Падрыхтоўваецца да вытворчасьці гукавы фільм па сцэнарыю Р. Кобеца „Д в о й ч ы н а р о д ж а н а я". Тэма — пераробка адсталых пластоў сялянства на базе калгаснага будаўніцтва.

## У РСФСР

— У доме Герцэна адчынілася выстаўка творчай прадукцыі Усерасійскага саюзу савецкіх пісьменьнікаў.

У аддзеле бэлетрыстыкі добра прадстаўлены творы Л. Л е о н а в а, Ус. І в а н о в а, П. П а ў л е н к а, Б. Л а ў р э н е в а, Б. П і л ь н я к а, С. М с ь ц і с л а ў с к а г а, а таксама выданьні В. Л і д з і н а на нямецкай, францускай, ангійскай, італьянскай, японскай, яўрэйскай мовах.

У разьдзеле тэатру выдатнае месца займаюць матар'ялы драматычных твораў Н. Н і к і ц і н а „Линия огня", К. Т р э н е в а „Ясный лог", „Любовь Яровая", Ю. О л е ш ы, „Список благодеяний".

— Дзяржплян РСФСР разглядзеў пытаньне аб пабудове Усесаюзнае бібліятэкі імя У. І. Леніна. Па канчаткова распрацаваным НКА праекту бібліятэка будзе знаходзіцца ў некалькіх будынках. Агульны кошт будаўніцтва абыйдзецца 11 мільёнаў 358 тысяч руб. Пабудова закончыцца ў канцы 1933 г.

— Да 15 гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі выдавецтва „Ф е д е р а ц и я" выпускае ілюстраваны зборнік „100 п о р т р е т о в с о в е т с к и х п и с а т е л е й". Зборнік складаецца з фатаграфій і мастацкіх зарысовак пісьменьнікаў, пералічэньня кніг, якія вышлі ў СССР і за мяжой і аўтабіяграфіі гэтых пісьменьнікаў.

— Выдавецтва „Ф е д е р а ц и я" да 15 гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі выпускае ў мастацкім афармленьні выбраныя вершы Д. Б е д н а г а, Ул. М а я к о ў с к а г а, Э. Б а г р ы ц к а г а, І. С е л ь в і н с к а г а, Б. П а с т а р н а к а, М. С ь в я т л о в а, Н. Ц і х а н а в а, А. Б я з ы м е н с к а г а, Н. А с е е в а, В. Л у г а ў с к о г а.

— У сэрыі „Новинки пролетарско-колхозной литературы" вышла аповесьць Л. Салаўёва „К о ч е в ь е".

— Выдавецтва „Ф е д е р а ц и я" у чэрвені месяцы выпускае паўторныя выданьні „С о т ь" — Л. Леонова, „С е в а с т о п о л ь: А. Малышкіна, „А н а т о л и я" — П. Паўленка, „К а п к а н" — Е. Перміціна, „З о л о т о й г у с ь"—Б. Ільлеша, „К о л о к о л а" — І. Еўдакімава, „С и л ь н е е с м е р т и" — В. Стаўскага выходзіць масавым выданьнем.

— Да 15 гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі ГИХЛ выдае альманах „А р м и я м и р о в о г о О к т я б р я" (30 друкаваных аркушоў), прысьвечаны Чырвонай арміі. У альманаху будуць зьмешчаны лепшыя творы савецкіх пісьменьнікаў на абаронныя тэмы.

## Над чым працуюць пісьменьнікі

— Н. Ц і х а н а ў канчае кнігу апавяданьняў аб чырвонай арміі „К л и н к и и т а ч а н к и" (10 друкаваных аркушоў). Адначасова з гэтым ён-жа працуе над кнігай лірычных вершаў „З в е р и н с к а я — 2 і над вялікаю аповесьцю „К л я т в а в т у м а н е". Кнігі выйдуць у Ленінградзкім Т-ве пісьменьнікаў.

— М. С л о н і м с к і працуе над раманам аб Ленінградзкай апазыцыі 1925-26 г. Раман будзе скончан да зімы і выйдзе ў ГИХЛ.

— А. Я к а ў л е ў працуе над апошняй часткай раману пра Волгабуд „К о л ь ц о", які будзе друкавацца ў часопісі „Красная Новь" і выйдзе асобнай кніжкай у выдавецтве „Федерация". Ён-жа канчае нарыс „Б о л ь ш а я В о л г а", які выйдзе асобнай кніжкай выд-ва „Мол. Гвардия".

— Л. Н і к у л і н канчае раман „В р е м я, П р о с т р а н с т в о, Д в и ж е н и е". Раман будзе друкавацца ў часопісі „Красная Новь".

Ён-жа працуе над п'есай „Гора милосердия". П'еса будзе скончана да Кастрычніцкіх дзён.

— С. Мсьціслаўскі канчае п'есу „Судьба гор" на тэму—горад і горы.

— М. Коласаў канчае п'есу „На уровень". Тэма п'есы жыцьцё камсамольскіх арганізацый 1917-20 г.г. Скончана і выйдзе ў выданьне „Огонька" кніжка яго нарысаў пра нямецкі камсамол.

— А. Караваева працуе над п'есай „Последний Иван".

— Матэ Залка скончыў першую частку раману „Кометы возвращаются". Увесь раман (2 часткі) будзе скончан праз два месяцы. Раман друкуецца ў часапісі „Молодая Гвардия". Адначасова Матэ Залка працуе над п'есай „Перекоп".

———

— 28 мая адбылася сустрэча польскага літаратара А. Слонімскага з савецкімі пісьменьнікамі, якая была арганізавана Усесаюзным т-вам культурнай сувязі з за-мяжой. У сустрэчы прынялі ўдзел: Л. Леонаў, Ус. Іваноў, Б. Пастэрнак, І. Сельвінскі, В. Лідзін, С. Трэцьцякоў, К. Зелінскі, В. Інбэр, А. Жараў і інш. На сустрэчы прысутнічалі паверааны ў справах Польскай рэспублікі п. Каршо-Сядлеўскі і інш. чыны польскай місіі. А таксама прадстаўнікі НКЗС, савецкага друку, ВОКС і інш.

## Усесаюзны зьезд друкароў і папернікаў

15—18 мая ў Маскве адбыўся зьезд друкароў і папернікаў. Зьезд заслухаў даклад т. Перапечкі (ВЦСПС) аб выніках IX Усесаюзнага зьезду прафсаюзаў і справаздачны даклад т. Магідава аб рабоце ЦК Саюзу. Зьезд друкароў і папернікаў віталі рабочыя з прадпрыемстваў г. Масквы.

У рабоце зьезду прымалі шырокі ўдзел пісьменьнікі. У спрэчках па дакладах выступалі т.т. Бязыменскі, А. Багданаў, В. Штангей (Украіна), Іл. Барашка (Беларусь).

Зьезд зацьвердзіў рашэньне пленуму ЦК саюзу аб узбуйненьні і стварэньні 2 саюзаў: аднаго — які будзе аб'яднаць работнікаў паліграфічнай прамысловасьці, і другі—работнікаў папяровай прамысловасьці. Зьезд абраў ЦК Саюзу друкароў і ЦК Саюзу папернікаў.

Старшынёю ЦК Саюзу друкароў абраны т. Магідаў, старшынёю ЦК саюза папернікаў — т. .ваноў. (рольшчык фабрыкі імя Валадарскага).

У новы склад ЦК саюзу друкароў абраны пісьменьнікі: А. Бязыменскі, Л. Сейфуліна, Ф. Беразоўскі, А. Багданаў, А. Александровіч, В. Штангей, П. Раманаў і інш.


РЭДКАЛЕГІЯ: С. БАРАНАВЫХ, Іл. БАРАШКА, Н. МІХАЙЛАЎ

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР: Н. МІХАЙЛАЎ.

Друкарня Беларускае Акадэміі Навук — Менск. Няміга, 7.

Заказ № 3957. Галоўлітбел № 649. Тыраж 1500 экз. $6^1/_4$ арк.

# ЗЬМЕСТ



## КРЫТЫКА



## ЭПІГРАМЫ І ПАРОДЫІ

